БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
ІНСТЫТУТ ЭКАНОМІКІ



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Социялістычная Эканоміка

ЗБОРНІК І






ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1934

## ПАМЫЛКА ДРУКУ

К браш. „Соцыялістычная Эканоміка“, Зборнік 1.

На стар. 39 у табліцы ў апошняй калонцы ў першым радку зверху, надрукавана 1,8 трэба чытаць 18.



WHITE-RUSSIAN ACADEMY of SCIENCES
THE INSTITUTE of ECONOMICS

*Workers of the World Unite!*

# SOCIALIST ECONOMICS

BULLETIN № 1

1934

PUBLISHERS: The WHITE-RUSSIAN ACADEMY of SCIENCES
MINSK — 1934

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
ІНСТЫТУТ ЭКАНОМІКІ

*Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!*

# СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ЭКАНОМІКА

БЮЛЕТЭНЬ № 1

1934



ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1934

# АД РЭДАКЦЫІ

Наша краіна пролетарскай дыктатуры прышла да 16 гадавіны Кастрычніка з велізарнымі дасягненнямі сусветнагістарычнага значэння ва ўсіх галінах народна-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Зліквідаваўшы ў агні соцыялістычнай рэволюцыі капіталістычныя адносіны, разбурыўшы сістэму анархічнай гаспадаркі, пролетарыят СССР упершыню за ўсю гісторыю чалавецтва паспяхова закончыў пабудову фундаманта соцыялістычнай эканомікі і будуе на ім грандыёзны будынак бясклясавага соцыялістычнага грамадства. Гэта перамога атрымана пролетарыятам СССР у выніку цяжкай барацьбы супроць контррэволюцыі ўсякага роду на фронтах грамадзянскай вайны, на фронтах народна-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Змагаючыся з правым апартунізмам, як галоўнай небяспекай, лявацкімі заскокамі, контррэволюцыйным трацкізмам, прымірэнцтвам, з двурушніцтвам і гнілым лібералізмам, рабочы клас нашай краіны праводзіць соцыялістычную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі.

На аснове генеральнай лініі партыі, пад непахісным кіраўніцтвам правадыра сусветнага пролетарыята т. Сталіна, у СССР канчаткова вырашана пытанне „хто каго“ на карысць соцыялізма супроць капіталізма, і Савецкі саюз уступіў у паласу першага перыяду соцыялізма і апошняга этапа нэпа.

Завяршыўшы пабудову фундаманта соцыялістычнай эканомікі, рабочы клас нашай краіны, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, на чале з лепшым ленінцам — т. Сталіным, паспяхова ажыццяўляе задачу, пастаўленую XVII партканферэнцыяй — завяршэнне соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадства. Гэтыя дасягненні краіны пролетарскай

дыктатуры з'яўляюцца вынікам росту рэволюцыйнай актыўнасці шырачайшых мас рабочага класа і працоўнага сялянства, вынікам уздыму соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, вынікам ленінскай палітыкі нашай партыі, паслядоўна праводзіўшай разгорнутае па ўсяму фронту наступленне на капіталістычныя элементы, вынікам барацьбы за чыстату генеральнай лініі ленінскай партыі.

Адно з важных месц у барацьбе за соцыялізм у нашай краіне належыць навуцы.

Настаўнікі марксізма-ленінізма прыдавалі велізарнае значэнне тэорыі ў справе пабудовы соцыялістычнага грамадства. Яны лічылі, што тэорыя павінна быць непарыўна ўвязана з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, што практыка без тэорыі — сляпая і тэорыя без практыкі — нікчэмна. „Тэорыя павінна, калі яна з'яўляецца сапраўднай тэорыяй, даваць практыкам сілу арыентыроўкі, упэўненасць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы“ (Сталін).

І абапіраючыся толькі на марксісцка-ленінскую тэорыю, кіруючыся вучэннем класікаў марксізма-ленінізма аб дыктатуры пролетарыята, соцыялізме — комунізме, рабочы клас СССР дасягнуў гіганцкіх поспехаў у сваім грандыёзным соцыялістычным будаўніцтве.

Наша партыя ў асобе т. Сталіна развіла далей марксісцка-ленінскую тэорыю будаўніцтва соцыялізма, увасобіўшы яе рэволюцыйныя прынцыпы ў багацейшую практыку соцыялістычнага будаўніцтва. У выніку мы маем інтэнсіўнае развіццё і быстрае прасоўванне ўперад навукі, узбагачэнне яе ўсё новымі і новымі смелымі ідэямі.

На базе аграмаджаных сродкаў вытворчасці ўсёй нашай эканомікі разгорнецца яшчэ шырэй соцыялістычнае будаўніцтва, знішчаючы класы, сціраючы розніцу паміж горадам і вёскай, паміж фізічнай і разумовай працай. Яшчэ большае значэнне набывае навука ў грамадстве, пабудаваным па адзінаму плану. Перад ёю адкрываюцца новыя гарызонты.

Зусім іншае, прама процілеглае мы бачым у краінах капітала. Капіталістычная гаспадарка ахоплена сусветным эканамічным крызісам, які разгортваецца на базе ўсеагульнага крызіса капіталістычнай сістэмы. Крызіс ахапіў не толькі капіталістычную гаспадарку, але і буржуазную культуру, навуку.

У буржуазнай эканамічнай тэорыі, замест сапраўднага аб'ектыўнага аналізу пышна расцвятае самая нізкапробная,

разбэшчаная апалагетыка капіталізма. Яшчэ Маркс пісаў аб вульгарных эканамістах, як філісцёрах, для якіх „пытанне заключаецца ўжо не ў тым—правільна або няправільна тая ці другая тэорыя, а ў тым—карысна яна для капітала, або шкодна, выгадна або нявыгадна, узгадняецца з паліцэйскімі меркаваннямі або не. Бескарыснае даследванне ўступае месца бойкам наёмных пісак, бестаронні навуковыя шуканні замяняюцца прадузятай угодлівай апалагетыкай".

У пошуках шляхоў выхаду з сучаснага эканамічнага крызіса буржуазныя тэарэтыкі лічаць навуку і тэхніку асноўнымі віноўнікамі яго існавання. Сярод буржуазных вучоных распаўсюджана тэорыя „тэхнакратыі". Буржуазныя вучоныя разам з тым выступаюць супроць тэхнічнага прагрэса ў краінах капітала. Яны вядуць барацьбу супроць далейшага развіцця прадукцыйных сіл капіталістычнага грамадства, яны, у сваіх працах, клічуць чалавецтва вярнуцца назад да першабытных сродкаў вытворчасці, яны імкнуцца павярнуць кола гісторыі назад, якое сваім няўхільным рухам знішчае рагаткі, што ставяцца на яго шляху лакеямі буржуазіі.

„Сучаснай буржуазіі, — пісаў Ленін, — уласцівы і баязлівасць навукі, баязлівасць навуковага аналізу сучаснай гаспадаркі... Роспач у магчымасці навукова разбіраць сучаснае, адмаўленне ад навукі, імкненне напляваць на ўсякія абагульненні, схавацца ад усякіх „законаў" гістарычнага развіцця". Разлажэнне буржуазнай навукі з'яўляецца нічым іншым, як адлюстраваннем распаду ўсёй капіталістычнай сістэмы гаспадарання.

Соцыял-фашысцкія тэарэтыкі выступаюць супроць марксізма, перапяваючы на розныя лады буржуазныя тэорыі.

З пенаю ў рота гэтыя тэарэтыкі ўзводзяць паклёпы на СССР, абліваючы граззю соцыялістычнае будаўніцтва, і падтрымліваюць рузвельтаўскі „планавы шантаж" і гітлераўскую 4-годку барацьбы з рэволюцыйным пролетарыятам.

Заклятый вораг соцыялістычнага будаўніцтва, стары здраднік рабочага класа, Каўцкі, узмоцнена запэўняе соцыялдэмакратычных рабочых, што „метады дыктатуры наогул і пяцігадовага плана ў прыватнасці не з'яўляюцца шляхам да соцыялізма,—яны, наадварот, уводзяць ад яго прэч". Галаслоўнасць і хлуслівасць, класавы змест гэтага тэзіса не патрабуюць абвяржэння. Гэты тэзіс ёсць лішні доказ таго, што соцыял-дэмакратыя займаецца скалачваннем інтэрвен-

цыйнага фронта супроць СССР, супроць адзінай у свеце пролетарскай дзяржавы.

Социялізм, які мы будуем, з'яўляецца вышэйшым дасягненнем навукі і азначае поўную перамогу марксісцка-ленінскай тэорыі.

Ажыццяўленне марксісцка-ленінскай тэорыі аб нацыянальных рэспубліках, правільнае правядзенне нацыянальнай палітыкі партыі прывяло да таго, што ў БССР, як частцы Совецкага саюза, зліквідавана панаваўшая раней і культываваўшаяся вякамі адсталасць, палудзікасць і самая сапраўдная дзікасць. БССР, разам з усім СССР, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, паспяхова будуе соцыялістычнае грамадства, завяршае соцыялістычную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі.

На аснове росту нашай гаспадаркі, пролетарыят стварыў навукова-даследчыя ўстановы. Расцвітае ўсё шырэй і шырэй, захапляючы самыя шырокія слаі працоўных мас, пролетарская культура, навука.

З'яўляючыся часткай магутнага цэнтра беларускай пролетарскай культуры—Беларускай акадэміі навук—Ін-т эканомікі, праводзіць шырокую навукова-даследчую работу па эканоміцы пераходнага перыяду, эканоміцы БССР у асаблівасці—з аднаго боку, і распрацоўку тэорыі капіталістычнай гаспадаркі, тэорыі імперыялізма—з другога боку.

Выдаваемы Ін-там эканомікі Беларускай акадэміі навук бюлетэнь „Соцыялістычная эканоміка" і ставіць асноўнай сваёй задачай асвятляць распрацоўваемыя ў ін-це паасобныя тэарэтычныя праблемы, як па тэорыі імперыялізма, так і ў асаблівасці па тэорыі совецкай, пераходнай эканомікі.

*РЭДАКЦЫЯ.*

---

Акад. Т. Ф. Домбаль

# Праблема „Вялікага Дняпра“

У задачу гэтага нарыса не ўваходзіць усебаковае вычэрпваючае асвятленне значэння гэтай праблемы, а толькі папярэдняе азнаямленне чытача як з яе характарам, роляй і месцам у соцыялістычным будаўніцтве СССР, так і з метадалогіяй яе вырашэння. Рад іншых вельмі цікавых і важных яе бакоў будуць асветлены ў наступных нарысах і затым у калектыўнай навукова-даследчай працы.

Не закранаючы вельмі цікавай прадгісторыі праблемы „Вялікага Дняпра“, мы павінны падкрэсліць, каб унікнуць усякіх далейшых непаразуменняў, што гэта праблема стала перад намі, як адна з актуальнейшых практычных чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва, толькі пасля паспяховага завяршэння першай пяцігодкі ў чатыры гады, калі „мы цвёрда паставілі на ногі цяжкую прамысловасць і гэтым стварылі ўласную базу для завяршэння рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі“ (Пастанова XVII канферэнцыі ВКП(б).

Грандыёзнае соцыялістычнае будаўніцтва першай пяцігодкі ў корані змяніла геаграфічнае размяшчэнне прамысловасці і напрамак спецыялізацыі цэлых раёнаў і абласцей. Выраслі новыя галіны вытворчасці, новыя гіганцкія прамысловыя цэнтры ў новых раёнах на аснове навейшай тэхнікі, у асноўным вызначана планамерна спецыялізацыя сельска-гаспадарчай вытворчасці цэлага раду раёнаў і абласцей.

Новае прамысловае будаўніцтва перыяду першай пяцігодкі, у адрозненне ад будаўніцтва, так наз., аднаўленчага перыяду, мела спецыфічны і яскрава выражаны характар комплекснага будаўніцтва, звязваючага па раней устаноўленаму плану цэлы рад вытворчасцей у буйныя ўнутрыраённыя, раённыя і міжраённыя камбінаты, на аснове спалучэння тэхналагічных працэсаў, комплекснага выкарыстання прыродных рэсурсаў і г. д. Такім чынам соцыялістычная рэканструкцыя, непарыўна звязаная з тэхнічнай рэканструкцыяй, цяснейшым чынам злучыла ў адно цэлае цэлы рад галін народнай гаспадаркі на вялікіх тэрыторыях.

Развіццё соцыялістычных вытворчых сіл атрымала нябачаны да гэтага часу ў гісторыі чалавецтва размах.

Да такіх комплексных народна-гаспадарчых праблем належыць Урала-кузнецкі, Ангара-Енісейскі камбінаты, Кольскі прамысловы вузел, праблема „Вялікай Волгі“, а таксама праблема „Вялікага Дняпра“.

Рэволюцыйная перабудова існуючага свету, пачынаючы з Кастрычніка 1917 года, ідзе ўсё больш і больш гіганцкімі тэмпамі ўперад і асабліва грандыёзны размах яе пачынаецца ў перыяд першай пяцігодкі, калі наша партыя, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК, на чале з выпрабаваным правадыром сусветнага большэвізма тав. Сталіным, паставіла задачу карэннай соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, а разам з тым і соцыялістычнага ператварэння працоўных у соцыялістычных працаўнікоў.

Маркс вучыў нас той філасофіі, задачай якой павінна быць не сузіранне існуючага свету, а ўсведамленне неабходнасці яго перабудовы.

Ён пісаў: „філосафы толькі аб‘яснялі свет так, або іначай, але справа заключаецца ў тым, каб яго змяніць“. [1]

У другім-жа месцы Маркс яшчэ больш дакладна ўказываў, што „для *практычнага* матэрыяліста, г. зн. для комуніста, уся справа ў тым, каб рэволюцыянізаваць існуючы свет, каб практычна павярнуцца супроць існуючага палажэння рэчаў і змяніць яго“. [2]

У тым-жа духу вучыў нас і Ленін. У сваіх філасофскіх заметках на творы Гегеля Ленін пісаў наступнае: „Дзейнасць чалавека, склаўшага сабе аб‘ектыўную карціну свету, змяняе знешнюю рэчаіснасць, зніштажае акрэсленасць (мяняе тыя або іншыя яе бакі, якасці) і такім чынам адымае ў яе рысы ілюзорнасці, знешнасці і нікчэмнасці, робіць яе само—у сабе і само—для сябе існай (аб‘ектыўнай ісцінай)“. [3]

І далей у тым-жа духу: „Сазнанне чалавека не толькі адлюстроўвае аб‘ектыўны свет, але і творыць яго, г. зн. што свет не задавальняе чалавека і чалавек сваім дзействам рашае змяніць яго“. [4]

Адсюль і выцякае вядомы лозунг т. Сталіна, што для большэвікоў няма такіх крэпасцяў, якіх яны не змаглі-б узяць.

Прымяняючы марксісцка-ленінскую тэорыю, не ў сэнсе „аднаго толькі аб‘яснення мінулага,—як нас вучыў Ленін,[5]— але і ў сэнсе безбаязненага прадбачання будучага і смелай практычнай дзейнасці, накіраванай да яго ажыццяўлення“,— наша партыя, на чале з т. Сталіным, дабілася буйнейшых

[1] К. Маркс, „Фейербах“, II тэзіс.
[2] К. Маркс, Зборн., т. IV, стар. 33.
[3] Ленінскі Зборнік, т. IX, стар. 269.
[4] Там-жа, стар. 339—341.
[5] Ленінскі Зборнік, т. IX.

поспехаў: ператварыла нашу адсталую аграрную краіну ў перадавую індустрыяльную краіну свету, стварыўшы ўласную цяжкую прамысловасць, аснову для завяршэння рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварыўшы буйнейшую соцыялістычную сельскую гаспадарку, умацаваўшы эканамічную незалежнасць СССР ад капіталістычнага свету і, разам з тым, умацаваўшы абараназдольнасць СССР супроць інтэрвенцыянісцскіх спроб імперыялізма.

Мы іменна смела і ўпэўнена ідзем уперад ад новых буйных перамог яшчэ да больш буйных, бо ў аснову нашых дзеянняў пакладзена марксісцка-ленінская тэорыя і метадалогія вырашэння гэтых грандыёзных сусветна-гістарычных задач. Іменна гэта „дае практыкам сілу арыентыроўкі, яснасць перспектывы, упэўненасць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы“... [1]

Толькі ў краіне дыктатуры пролетарыята магчыма ажыццяўляць такія каласальныя па свайму размаху і па тэмпу ажыццяўлення комплексныя праблемы, якой у прыватнасці з'яўляецца праблема „Вялікага Дняпра“, бо „толькі грамадства, здольнае гарманічна прыводзіць у рух свае прадукцыйныя сілы, згодна адзінаму агульнаму плану, у стане арганізаваць іх так, што будзе магчыма размеркаваць буйную вытворчасць па ўсёй краіне, у поўнай адпаведнасці з яе уласным развіццём і захаваннем і развіццём іншых элементаў вытворчасці“. [2]

Толькі наша планавая соцыялістычная гаспадарка, свабодная ад прыватна-карыслівых і антыграмадскіх інтарэсаў капіталістычных груп, „мае магчымасць развівацца з пункту погляду інтарэсаў грамадства ў цэлым“. [3]

У сілу вышэйсказаных тэарэтычных асноў, мы змаглі ў краіне дыктатуры пролетарыята ў параўнальна кароткі тэрмін настолькі змяніць існуючы свет, што аб гэтым з велізарным здзіўленнем прымушаны канстатаваць нашы злейшыя класавыя ворагі, канстатаваць нашы сусветна-гістарычныя дасягненні ў галіне індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Пабудаваўшы фундамант соцыялістычнай эканомікі і рухаючыся ўпэўнена гіганцкімі крокамі ўперад па шляху стварэння ў бліжэйшыя гады бяскласавага грамадства, толькі мы ва ўмовах дыктатуры пролетарыята можам паспяхова вырашаць велізарнейшыя задачы з пункту погляду інтарэсаў усяго грамадства ў цэлым, развіваючы соцыялістычныя прадукцыйныя сілы ў форме адзінага народна-гаспадарчага комплекса, як сукупнасці цэлага раду тэхніка-эканамічных комплексаў, накіроўваючы іх далейшае развіццё пад вуглом іх роўнамернага, максімальна мэтаімкнёнага іх размяшчэння і канчатковага зжыцця ўнаследаванай ад капіталізма супроць-

[1] И. Сталин, „Вопросы ленинизма“, стар. 568.
[2] Энгельс, Соч., т. XIV, стр. 285—287.
[3] Сталин, „Вопросы ленинизма“.

легласці паміж горадам і вёскай, а таксама з пункту погляду ўмацавання абараназдольнасці СССР.

Цалкам імкнучыся да стварэння моцных асноў поўнага комуністычнага грамадства, незаплямленага „радзільнымі плямамі", якім яно выходзіць па Марксу і Леніну з буржуазнага грамадства на першай стадыі развіцця,—мы, плануючы нашу народную гаспадарку, у прыватнасці вырашаючы праблему „Вялікага Дняпра", ніякім чынам не можам кіравацца толькі інтарэсамі сёнешняга дня, як-бы яны самі па сабе ні былі важны, мы ніякім чынам не можам адарваць яе ад усяго далейшага ходу нашага соцыялістычнага будаўніцтва і не прадбачыць яе велізарнейшых перспектыў.

Перад вырашэннем такіх каласальных і складаных праблем, як праблема „Вялікага Дняпра", мы не павінны застанаўлівацца, а ўмець устанавіць рэальнае арганічнае адзінства сёнешняга дня з будучым, тым больш, што сучасная тэхналогія ва ўмовах соцыялізма робіць нябачаныя поспехі ў сваім развіцці. Тут, да рэчы ўспомніць, што пісаў Маркс:

„Словы Мірабо — „немагчыма — ніколі не гаварыце мне гэтага глупага слова" — набываюць асобае значэнне для сучаснай тэхналогіі".[1]

З таго часу, калі Маркс прыводзіў гэтыя словы, развіццё навукі і тэхнікі зрабіла велізарнейшыя поспехі і сёння гэтыя словы, ва ўмовах соцыялістычных вытворчых адносін, яшчэ больш пераканальны чым калі-небудзь.

У пачатку першай пяцігодкі за рэволюцыйную большэвіцкую смеласць у ажыццяўленні грандыёзных праблем нас папракалі ў „большэвіцкай фантазіі", але мы змаглі даказаць на справе, што гэтыя мнімыя фантазіі ў нашых умовах сталі сапраўднасцю.

Як мы ўжо адзначалі, соцыялістычнае будаўніцтва першай пяцігодкі прыняло пэўны характар комплекснага будаўніцтва. Не адны клопаты аб паасобных прадпрыемствах, а клопаты аб спалучэнні будаўніцтва народна-гаспадарчых комплексаў сталі асновай нашага руху ўперад.

Выходзячы з неабходнасці планамернай соцыялістычнай рэканструкцыі адзінага, як цэлае, народна-гаспадарчага комплекса—СССР, мы вырашалі задачы міжрэспубліканскіх, рэспубліканскіх, абласных, міжраённых, раённых, унутрыраённых і мясцовых комплексаў. Ва ўсёй гэтай рабоце ў кожным з гэтых комплексаў мы выдзялялі вядучую ролю індустрыі, у асаблівасці ролю цяжкой індустрыі, і яе жывячай энергетычнай базы ў асобе самай перадавой—электрыфікаванай, гэтага важнейшага звяна тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі—электрыфікацыі.

Падкрэсліваючы ўсё гэта, мы разам з тым павінны ўлічыць усе бакі народнай гаспадаркі, а таксама выкарыстаць усе асаблівасці развіцця прадукцыйных сіл.

[1] К. Маркс, „Письма".

Як бачым, выходзячы з гэтага, нельга звесці праблему „Вялікага Дняпра“ аднабакова ні да транспартнай, ні да гідраэнергетычнай, ні да абвадняльна-меліярацыйнай, ні да суміраванага механічнага „комплекса“ з гэтых трох вельмі важных отраслевых праблем, таму што ў сувязі з воднай сістэмай трэба ўлічыць усе драбнейшыя бакі народнай гаспадаркі ў іх руху.

Праў акад. Шліхтэр, указваючы наступнае: „Другога тыпу памылковая пастаноўка праблемы Вялікага Дняпра заключаецца ў празмерным пашырэнні аб'ёма гэтай праблемы, падмена ёю не пяцігадовага нават, а генеральнага плана ўсіх рэспублік і абласцей, што знаходзяцца на тэрыторыі Вялікага Дняпра. Такая пастаноўка пазбавіла-б яе ўсякай чоткасці і дакладнасці, затушавала-б яе спецыфіку.

Праблема Вялікага Дняпра па свайму зместу ўключае ў сябе праблему размяшчэння соцыялістычных прадукцыйных сіл, але не наогул на ўсёй тэрыторыі Дняпроўскага басейна, а ў пэўнай канкрэтнай сувязі са скарыстаннем патэнцыяльных рэсурсаў і магчымасцей воднай сістэмы Дняпра“.[1]

Тут справа ідзе аб выкарыстанні сыравінных рэсурсаў, энергетыкі, снабжэння піццёвай і тэхнічнай вадой населеных пунктаў і індустрыяльных цэнтраў, аб асушцы і абвадненні, аб транспарце, аб пабудове рыбных гаспадарак, птушкаводстве, аб курортных, спартыўных і інш. мерапрыемствах у сувязі з максімальным і ўсебаковым скарыстаннем воднай сістэмы.

Зусім правільна адзначае акад. Шліхтэр, што „выходным пунктам для распрацоўкі дняпроўскай праблемы з'яўляецца разгортванне вядучых галін вытворчасці; далей ідзе план разгортвання ўсёй вытворчасці ў цэлым“,[2] прычым распрацоўка ў яе комплексным адзінстве павінна ўключаць у сябе падрабязную і ўсебаковую распрацоўку ўсіх паасобных складаных элементаў.

Затым акад. Шліхтэр выдзяляе ўперад са склада праблемы „Вялікага Дняпра“ такія вытворчыя комплексы, як Данбас, Днепрапятроўскі прамысловы камбінат і рад іншых, паколькі яны ўжо звязаны больш цеснымі ўнутранымі сувязямі, чым уся сукупнасць элементаў, складаючых праблему Дняпра.

Гэта на першых парах правільна, але пры далейшым развіцці соцыялістычных прадукцыйных сіл, пры несумненным узнікненні і перапляценні між сабой цэлага раду новых комплексаў (не гаворачы ўжо аб дасягненні роўнамернага размяшчэння прадукцыйных сіл), гэтага роду „выдзяленне“ павінна будзе ўступіць месца больш высокаму і поўнаму камбінаванню і спалучэнню паасобных комплексаў і вытворчасцей унутры дняпроўскага народна-гаспадарчага комплекса.

[1] Акад. Шліхтэр А., „Проблема Большого Днепра в социалистическом строительстве“, Харьков, 1933 г., стар. 10.

[2] Там-жа, стар. 11.

Зразумела, пры ўсім гэтым трэба мець на ўвазе такое размяшчэнне прадукцыйных сіл, якое ўключала-б камбінаванне і геаграфічнае, максімальна выгаднае спалучэнне паступовых стадый перапрацоўкі сыравіны з улікам прыродных умоў, планавага размеркавання працы, каапераванне і спецыялізацыю эканамічных раёнаў, у прыватнасці, у галіне сельска-гаспадарчай вытворчасці.

У канечным падліку праблема „Вялікага Дняпра“ зводзіцца да найбольш эфектыўнага і мэтазгоднага размяшчэння соцыялістычных прадукцыйных сіл з улікам і скарыстаннем усіх рэсурсаў і магчымасцей воднай сістэмы ў яе комплексным спалучэнні.

Выходзячы з гэтай метадалагічнай прадпасылкі, мы коратка апішам аб'ём і ролю праблемы „Вялікага Дняпра“ ў соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі нашага Саюза, паасобных рэспублік і абласцей.[1]

Спачатку апішам у асноўных рысах характарыстыку Дняпроўскага басейна, а затым укажам на яго асноўныя магчымыя злучэнні з суседнімі рачнымі басейнамі і выхаду яго к морам.

Рака Днепр, па сваёй велічыні, займае трэцяе месца ў Еўропе пасля рэк Волгі і Дуная:

| | Даўжыня ракі | Плошча басейна |
|---|---|---|
| Днепр. . . . . | 2.016 км. | 506.000 кв. км. |
| Волга . . . . . | 3.700 „ | 146.000 „ „ |
| Дунай. . . . . | 2.850 „ | 817.000 „ „ |

Днепр перавышае па плошчы басейна буйныя еўрапейскія рэкі, а іменна р. Рэйн—у 2,3 разы, р. Віслу—у 2,5 разы і р. Эльбу—у 3,4 разы.

Днепр бярэ свой пачатак на поўначы Заходняй вобласці (б. Смаленскай губ.) на вышыні каля 252 м на Валдайскім узвышшы і працякае праз Заходнюю вобласць, праз усю БССР, затым праз УССР і каля г. Херсона ўпадае ў Чорнае мора.

Басейн ракі Дняпра гранічыць з басейнамі раду буйных рэк: Нёмана, Днястра, Паўднёвага Буга, Віслы, Заходняй Дзвіны, Волгі, Масквы, Окі і Дона. Асабліва выгодным шляхам для злучэння каналаў усёй сістэмы ўказаных басейнаў з'яўляецца тая акалічнасць, што прытокі Дняпра вельмі блізка падыходзяць да прытокаў гэтых рэк: у верхнім цячэнні праз раку Оршыцу к р. Угры і р. Лучэсе і затым праз р. Ловаць і возера Ільмень—к р. Волхаву і затым праз возера Онежскае к р. Неве і ў Фінскі заліў Балтыцкага мора; ва ўсходняй частцы басейна праз р. Болву, прыток р. Дзясны, к р. Жыздры, прыток р. Окі, праз р. Самару

[1] Увага: фактычныя даныя і цыфравыя матэрыялы ў асноўным узяты намі з матэрыялаў Усесаюзнай канферэнцыі па „Вялікаму Дняпру“, са зводнай паяснялънай запіскі Укрводгаса—Укргіправода і шматлікіх праектаў, прапанаваных на 1 Усесаюзнай канферэнцыі „Вялікага Дняпра“.

і р. Волч'ю к р. Торцу, прытока р. Паўночнага Данца; на захадзе-ж праз свае прытокі р. Рось або р. Цецераў да прытокаў Паўднёвага Буга. У верхнім цячэнні Днепр штучным шляхам злучаецца з сумежнымі сістэмамі: Бярэзінская сістэма з выхадам праз р. Улу к р. Заходняй Дзвіне і выхадам у Рыжскі заліў Балтыцкага мора, Дняпроўска-Бугская на Заходні Буг, затым р. Віслу з выхадам у Балтыцкае мора каля Данцыга і Огінская сістэма на р. Нёман з выхадам у Балтыку каля г. Мемеля-Клайпеды (гл. карту на стар. 16).

Асноўныя прытокі Дняпра (за выключэннем р. Дзясны), а іменна: Друць, Бярэзіна, Прыпяць і Сож, распалажаны на тэрыторыі Совецкай Беларусі, прычым разам са сваімі прытокамі ствараюць свайго роду водны веер, што з'яўляецца вельмі спрыяючымі ўмовамі для ахопу сістэмай „Вялікага Дняпра“ асноўных раёнаў БССР. На тэрыторыі БССР, г. зн. у верхняй частцы Дняпра, да рэчы найменш вывучанай, ляжыць ключ да вырашэння выхаду дняпроўскай воднай магістралі ў Балтыцкае мора, у прыватнасці на Ленінград.

Толькі ў гэтым годзе Беларуская акадэмія навук праз Навуковы камітэт „Вялікага Дняпра“, які існуе пры Прэзідыуме БелАН, пры дапамозе сістэмы сваіх інстытутаў, галоўным чынам Ін-та эканомікі, геалогіі і гідрагеалогіі, фізіка-матэматычнага і інш.,—прыступіла да комплекснага вывучэння праблемы „Вялікага Дняпра“ ў той яе частцы, якая адносіцца галоўным чынам да БССР. Экспедыцыйныя навукова-вышукальныя работы 1933 года, праводзімыя на ўчастку Орша—Віцебск—Ловаць, павінны навукова абаснаваць найбольш кароткі выхад магістралі на Ленінград.

Трэба адзначыць, што суднаходны ўчастак Дняпра пачынаецца іменна ад Оршы ўніз.

Дняпроўскі басейн, займаючы велізарнейшую прастору ад стэпаў Совецкай Украіны на поўдні з яе багатымі вугольнымі і жалеза-руднымі залежамі і высокаразвітай металургічнай базай, з новымі ўзнікшымі вакол Днепрабуда прамысловымі цэнтрамі—к поўначы, багатай залежамі торфу і цэнных нярудных выкапняў і лясных масіваў, дасць вялікія магчымасці далейшага развіцця рознастайных галін народнай гаспадаркі, у тым ліку цяжкой і лёгкай прамысловасці.

Праз свае міжраённыя штучныя абваднявальныя злучэнні „Вялікі Днепр“ атрымлівае выхад у Паўночны Крым, а праз Сівашскі канал у Азоўскае мора і праз Манычскі канал атрымае злучэнне з Каспійскім морам і сістэмай „Вялікай Волгі“. Пры наяўнасці ўноў адкрытага ўжо Беламорска-Балтыцкага канала атрымаецца злучэнне скразным унутрыкантынентальным шляхам пяці мораў і цэлай сістэмы рачных басейнаў.

Па свайму размаху гэта праблема грандыёзна не толькі з пункту погляду рэканструкцыі водных шляхоў СССР, але і тэхнічнай рэканструкцыі велізарнейшых прастораў усёй народнай гаспадаркі. Гэты водны шлях будзе завяршацца на працягу раду бліжэйшых пяцігодак, ператвараючыся пасту-


СЫСТЭМА ВЯЛІКАГА ДНЯПРА
Умоўныя абвязначэньні
Злучэньні
Торф
Каменны вугаль
Жалязьняк
Марганец
Фосфарыты
Крэйда і вапна
Дзярж. границы
Балтыцкае мора
Азоўскае мора
Чорнае мора
Масква
Кіеў
Харкаў
Растоў
Херсон
Мікалаеў
Дон

пова, але планамерна, у буйную транзітную міжморскую магістраль, дапамагаючы бурнаму росту прадукцыйных сіл, размешчаных на ім і прылеглых раёнаў.

Дняпроўскі басейн багаты вялікай колькасцю рэк, якіх налічваецца больш 6 тысяч,[1] галоўнейшыя з іх можна характарызаваць наступнымі лічбамі:[2]

| №№ | Назва ракі | Плошча басейна у кв. км | Даўжыня ракі ў км | Сярэдне-шматгадовы сток у млрд. куб. м |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Днепр . . . . . | 505.812 | 2.016 | 55,8 |
| 2 | Прыпяць . . . . | 119.490 | 620 | 12,9 |
| 3 | Бярэзіна . . . . | 23.479 | 440 | 5,0 |
| 4 | Дзясна . . . . . | 86.829 | 867 | 11,4 |
| 5 | Сож . . . . . . | 40.915 | 465 | 7,5 |

Уплыў гэтых водных рэсурсаў на развіццё народнай гаспадаркі праяўляецца ў наступных асноўных напрамках наступным чынам.

У адносінах воднага транспарта даўжыня суднаходнага шляха ад 1 да 3,65 м глыбіні[3] вылічаецца ў 9.485,5 км.

Што датычыцца гідра-энергетыкі, то яе агульная магутнасць арыентыровачна вылічаецца у 1.680 тыс. кв. пры аддачы парадку 9-10 млрд.

У адносінах меліярацыі мяркуецца абваднение пры дажджаванні Сярэдняга, Ніжняга Дняпра і Паўночнага Крыма каля 3.549 тыс. га, а разам з Дняпро-Бугскімі стэпамі каля 3.877 тыс. га; асушка-ж забалочаных плошчаў каля 4.681,3 т. га пры асваенні гэтых плошчаў каля 4.280,0 тыс. га.

Што датычыцца вадаснабжэння, то яго характарызуюць наступныя паказчыкі: ужыванне вады для меліярацыі 13,7 млрд. куб. м (без дажджавання) і 8,4 млрд. куб. м (пры дажджаванні) і для прамыслова-бытавых патрэб каля 10 млрд. куб. м у год. Пры гэтым трэба адзначыць, што гідрастанцыі сістэмы „Вялікага Дняпра“ ўключаюцца ў агульную сістэму энергаснабжэння, абслугоўваючы сваёй таннай энергіяй уноў узнікаючыя народна-гаспадарчыя комплексы і камбінаты, адыгрываючы пры гэтым ролю гідраакумулятараў.



[1] П. Л. Мастаков, Список рек Днепровского басейна, изд. императорской академии наук, С.-Петербург, 1913 г.

[2] Лічбы Укрводгаса.

[3] Паступовае давядзенне глыбінь магістральных міжморскіх каналаў звыш 7 м, а нават па меркаванні аднаго з аўтараў праекта Беламорска-Балтыцкага канала інж. Магілка да 12 м, магчыма і будзе залежыць ад далейшага развіцця тэхнікі і гаспадарчай мэтазгоднасці, але яно прадугледжваецца ўжо ў аснове праектавання „Вялікага Дняпра“ галоўным яго інжэнерам Магілка.

Выхад Данбаса на Днепр, выхад „Вялікага Дняпра" на Ленінград і ў далейшым злучэнне з сістэмай рэк СССР і сярэдняй Еўропай і г. д. робяць гэты водны шлях у транспартных адносінах вельмі важным не толькі для аднаго Дняпроўскага басейна.

У рэзультаце-ж меліярацыйных мерапрыемстваў цэлыя раёны (абвадненне і асушка) ператвараюцца ў багацейшыя крыніцы высока-якаснай тэхнічнай сыравіны і каштоўнейшых сельска-гаспадарчых культур і крыніцай быстрага развіцця жывёлагадоўлі з адначасовым штуршком для развіцця цяжкай і лёгкай прамысловасці са скарыстаннем залежаў торфу ў энергетычных і хімічных адносінах.

Развіваючаяся комунальная гаспадарка (новыя прамысловыя цэнтры) будзе задавальняцца піццёвай вадой, а таксама прамысловасць так наз. тэхнічнай вадой.

Дняпроўскі басейн уладае багацейшымі прыроднымі рэсурсамі ў выглядзе данецкага вугалю, жалезных і марганцавых руд Крывога Рога і Нікаполя, бурага вугалю, каалінаў, агнеўпорных глін з вялікім процантам алюмінія, сыравіны для каліевых угнаенняў, фасфарытаў, торфаў, лясного матэрыяла, соляй, будаўнічых матэрыялаў і г. д., да гэтага часу скарыстаных або ў малай ступені або нават зусім нескарыстаных.

На аснове гэтага будуць пабудаваны шматлікія індустрыяльныя камбінаты, якія зменяць у корані твар зараз яшчэ індустрыяльна неразвітых раёнаў і абласцей.

Праблема „Вялікага Дняпра" адыграе велізарнейшую ролю далейшага этапа паскоранай індустрыялізацыі раней адсталых был. царскіх „акраін"—калоній, падобна таму, як аналагічная роля прадназначана для праблемы Ангара-Енісейскага камбіната ў адносінах да ўсходніх рэспублік і абласцей СССР.

У падобным вырашэнні такіх грандыёзных комплексных народна-гаспадарчых праблем самым наглядным чынам праяўляецца сусветна-гістарычнае значэнне і ажыццяўленне на практыцы ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Мы не будзем застанаўлівацца на радзе іншых вельмі важных пытанняў, якія датычацца развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі, лясной і рыбнай гаспадаркі і г. д., а таксама прыводзіць арыентыровачных вылічэнняў міжраённых вытворчых і інш. сувязей.

Даволі толькі ўспомніць, што „Вялікі Днепр" стане магутнай воднай артэрыяй, па якой будуць ісці ва ўсіх напрамках патокі прамысловай сыравіны (данецкі вугаль, крыварожская жалезная руда, нікапольскі марганец, хібінскія апатыты, каўказская нафта і г. д.) і патокі гатовых прадуктаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Галоўныя магістралі з цэлым радам адгалінаванняў, пад'язных і сплаўных водных шляхоў, пры адначасовым усебаковым комплексным скарыстанні водных рэсурсаў, злучаць прамысловыя цэнтры СССР як Ленінград, Масква, Бранск, Гомель, Бабруйск, Менск,

Віцебск, Кіеў, Чэркасы, Крэмянчуг, Днепрапятроўск, Запарожжа, Нікаполь, Херсон і г. д., а праз злучэнне з сумежнымі раённымі басейнамі і сістэму каналаў, аддаленыя раёны і басейны 5 мораў: Балтыцкага, Чорнага, Азоўскага, Каспійскага і Белага.

Для далейшага развіцця соцыялістычных прадукцыйных сіл БССР праблема „Вялікага Дняпра" мае выключна важнае значэнне. Яна павінна стаць у цэнтры грамадскай увагі. Таму народна-гаспадарчаму значэнню праблемы „Вялікага Дняпра" для БССР будзе прысвечаны спецыяльны наш нарыс і калектыўная праца, распрацаваныя на аснове экспедыцыйных вышукванняў, праводзімых на працягу 1933 г. Інстытутам эканомікі і радам другіх інстытутаў Беларускай акадэміі навук.

Наколькі работа нашых навукова-тэхнічных сіл хвалюе нашых класавых ворагаў сведчаць шматлікія водзывы фашысцкага і соцыял-фашысцкага друку, прысвечаныя праблеме „Вялікага Дняпра".

Прывяду адзін вельмі характэрны водзыў цэнтральнага органа польскіх соцыял-фашыстаў: „Злучэнне Чорнага мора з Балтыцкім адным суцэльным водным шляхам будзе мець значэнне эпохі для сусветнага гандлю".[1]

Не гледзячы на злосныя выпады адносна „фантастычных совецкіх планаў" па вырашэнню праблемы „Вялікага Дняпра", усё-ж гэты орган злейшых нашых ворагаў не можа не прызнаць значэння гэтай праблемы і яе рэальнасці, хоць ён не разумее яе сапраўднай грандыёзнасці, зводзячы яе толькі к транспартнай праблеме.

Што-ж датычыцца праславутай „большэвіцкай фантазіі", аб якой баўтаюць так ахвотна паны фашысты і соцыял-фашысты з II Інтэрнацыянала, узводзячы паклёп на СССР, то нашы гіганцкія дасягненні першай пяцігодкі цалкам выкрываюць манеўры фашыстаў і іх лакеяў—соцыял-фашыстаў. Апіраючыся на дасягнутыя велізарнейшыя поспехі першай пяцігодкі, мы смела падводзім тэарэтычную базу пад такія грандыёзныя новыя праблемы, якой і з'яўляецца праблема „Вялікага Дняпра", бо ў штодзённай нашай рабоце мы кіруемся зусім чоткімі ўказаннямі правадыра нашай партыі і сусветнага пролетарыята тав. Сталіна, які нас вучыць, што спалучэнне рэволюцыйнага размаха будаўнікоў соцыялізма з амерыканскай дзелавітатцю—стыль ленінізма ў рабоце і, што рэволюцыйны размах—„гэта тая жывіцельная сіла, якая будзіць мысль, рухае ўперад, ламае мінулае, дае перспектыву. Без яго немагчымы ніякі рух уперад".

---

[1] „Robotnik", ад 21 красавіка 1933 г.



І. І. Равун

# Пролетарыят БССР [1]

Перамога пролетарскай рэволюцыі вызваліла прамыслова-адсталую Беларусь, б. калонію царска-капіталістычнай Расіі, ад улады капітала. Дыктатура пролетарыята абумовіла новыя законамернасці ў эканоміцы краіны. Пролетарыят, які пасля Кастрычніцкага перавароту зрабіўся суб'ектам гаспадарчага будаўніцтва, накіроўваючы развіццё згодна пастаўленай мэты—робіць змяненні ў структуры насельніцтва ў цэлым і пролетарыяце ў прыватнасці.

У нашым артыкуле мы абмяжоўваем сябе задачай вывучэння напрамку развіцця вядучай групы насельніцтва БССР—пролетарскага складу. Тут мы хочам канкрэтным матэрыялам паказаць, якім чынам развіццё самага важнейшага фактара вытворчасці—рабочага—адлюстроўвае сабой новыя вытворчыя адносіны соцыялістычнай гаспадаркі пераходнага перыяду; паказаць фактычным матэрыялам, што ў адрозненне ад развіцця пролетарыята Беларусі ва ўмовах капіталізма, якое прыводзіць да абсалютнага збяднення пролетарскага насельніцтва, ва ўмовах БССР, дзе дзейнічае новы закон соцыялістычнай рэпрадукцыі, адбываецца павелічэнне вытворчых рабочых, уключэнне жанчын у вытворчы працэс і знішчэнне беспрацоўя; паказаць з лічбамі ў руках, як у БССР адбываецца сістэматычнае павышэнне кваліфікацыі рабочых, перамяшчэнне пролетарыята ў новыя галіны вытворчасці, змяненне яго структуры і соцыялістычная канцэнтрацыя рабочых. Паказаць на канкрэтным матэрыяле, як пролетарская дыктатура праводзіць палітыку пролетарскага інтэрнацыяналізма ў прамысловасці БССР, як ва ўмовах дыктатуры пролетарыята адбываецца сістэматычнае палепшанне матэрыяльна-бытавога становішча рабочых. Нашай задачай з'яўляецца разглядзець развіццё пролетарыята БССР у яго руху, у яго развіцці.

Соцыялістычная гаспадарка ў БССР развіваецца на падставе закона расшыранай соцыялістычнай рэпрадукцыі. Гэта

[1] Гэты артыкул з'яўляецца часткай працы, якая змешчана ў зборніку „Народная гаспадарка БССР за 16 гадоў".

абумоўлівае высокія тэмпы развіцця прадукцыйных сіл і расшырэнне социялістычных адносін. Гэта абумоўлівае павелічэнне вытворчых рабочых, якія атрымалі сваю социялістычную якасць.

Неабходнасць высокіх тэмпаў развіцця прадукцыйных сіл вынікае з таго моманту, што нам прыходзіцца ў найбольш кароткі тэрмін дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. Неабходнасць яшчэ больш высокіх тэмпаў развіцця народнай гаспадаркі БССР выцякае з указанняў партыі аб неабходнасці знішчэння фактычнай няроўнасці б. калоній і поўкалоній капіталістычнай Расіі, якая нам засталася ў спадчыну ад капіталізма.

Магчымасць высокіх тэмпаў развіцця выцякае з характара нашай вытворчасці, дзе знішчаны супярэчнасці паміж грамадскім характарам працы і прыватна-капіталістычнай формай прысваення, дзе знішчана капіталістычная канкурэнцыя і анархія вытворчасці, дзе социялістычныя адносіны да працы, социялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, социялістычны план з'яўляюцца асноўнымі фактарамі арганізацыі вытворчасці. Магчымасць яшчэ больш высокіх тэмпаў развіцця народнай гаспадаркі БССР выцякае з таго моманту, што пролетарыят усяго СССР, пад кіраўніцтвам ВКП(б), сістэматычна дапамагае адсталым рэспублікам, каб разам завяршыць поўную пабудову социялізма ва ўсім СССР. За 15 год БССР з аграрна-адсталай краіны ператварылася ў індустрыяльна-аграрную, высока-развітую краіну. Ужо ў 1932 г. валавая прадукцыя прамысловасці БССР складала 52%, а валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі 48% народнай гаспадаркі.

Совецкі рабочы—будаўнік социялізма—з'яўляецца часткаю сусветнага пролетарыята. Ён паказвае рабочаму класу капіталістычных краін шлях рэволюцыйнага вырашэння ўсіх супярэчнасцей капіталістычнай сістэмы вытворчасці. У социялістычнай сістэме вытворчасці на нашых фабрыках і заводах асноўная прадукцыйная сіла грамадства—рабочы заняў сваё адпаведнае месца, непасрэдны вытворца стаў калектыўным уласнікам сродкаў вытворчасці, стаў суб'ектам гаспадаркі. Вось чаму Ленін у самыя цяжкія моманты жыцця Совецкага саюза пісаў: „У краіне, якая разбурана, першай задачай з'яўляецца ратаваць працоўных... першая прадукцыйная сіла ўсяго чалавецтва ёсць рабочы клас, калі ён выжыве, мы ўсё выратуем і аднавім".

Імперыялістычная вайна, польская і нямецкая акупацыі прывялі да амаль поўнага разбурэння народнай гаспадаркі БССР. З колькасці больш 700 прадпрыемстваў з колькасцю 22 тысячы рабочых у прамысловасці засталося ўсяго 480 прадпрыемстваў, астатнія былі знішчаны пры дапамозе прамых разбурэнняў, падпальванняў, вывазу і распродажу абсталявання акупантамі. Зараз-жа пасля аднаўлення совецкай улады ў Беларусі, не глядзячы на цяжкае эканамічнае становішча СССР, пролетарыят БССР, пры дапамозе пролета-

рыята Саюза, пачынае аднаўляць народную гаспадарку. Соцыялістычная індустрыялізацыя аднаўленчага і рэканструкцыйнага перыядаў уносіць найглыбейшыя змяненні ў структуру насельніцтва БССР.

**Насельніцтва БССР (у тыс. чал.)**

| | 1926 | 1932 | Процант росту |
|---|---|---|---|
| 1. Усё насельніцтва . . . | 4983,2 | 5467,3 | + 9,7 |
| а) гарадское нас. . . . | 779,0 | 940,8 | +20,8 |
| б) сельскае „ . . . | 4204,2 | 4526,5 | + 7,7 |
| 2. Удзельная вага | | | |
| а) гарнасельніцтва . . . | 15,6% | 17,2% | — |
| б) сельскага насельніцтва . | 84,4% | 82,8% | — |

У той час, калі за гады 1926—1932 усё насельніцтва БССР вырасла на +9,7%, насельніцтва гарадоў узрасло на +20,8%, калі ў даваеннай Беларусі за 17 год, 1897—1914, гарадское насельніцтва вырасла ўсяго на 12,4%—то за 6 год ад 1926 да 1931 Совецкая Беларусь мае рост на 20%. Пры разглядзе росту насельніцтва паасобных гарадоў гэты момант выступае яшчэ больш ярка.

**Рост насельніцтва гарадоў (1926=100)**

| Гарады | 1926 | 1931 | Рост |
|---|---|---|---|
| Менск. . . . . . . . | 131.528 | 163.050 | 124,0 |
| Віцебск . . . . . . . | 98.808 | 117.318 | 118,7 |
| Гомель . . . . . . . | 86.393 | 109.920 | 127,2 |

Растуць не толькі буйныя гарады, але і правінцыяльныя дробныя гарады і мястэчкі. Так, мы маем рост наступных гарадоў:

| Гарады | 1926 | 1931 | Рост |
|---|---|---|---|
| Бабруйск. . . . . . . | 51.385 | 62.283 | +21,2 |
| Магілеў . . . . . . . | 50.104 | 56.879 | +13,5 |
| Орша . . . . . . . | 20.009 | 31.308 | +56,5 |
| Барысаў . . . . . . . | 25.840 | 33.426 | +29,4 |

Рад быўшых мястэчак і вёсак ператвораны ў гарады з салідным складам рабочых, як Крычаў з яго цэментным камбінатам і яшчэ рад дробных гарадоў з 40% і больш пролетарыята (Слуцк, Рагачоў. Быхаў, Ветка, Мазыр, По-

лацк, Рэчыца). Рост буйных гарадоў адбываецца не толькі за кошт натуральнага прыросту насельніцтва, але і з прычыны быстрых тэмпаў індустрыялізацыі мы маем сюды быстры іміграцыйны прыток насельніцтва вёсак і мястэчак.

Яшчэ большыя рэволюцыйныя зрухі адбыліся за гэты час у самым соцыяльным складзе насельніцтва гарадоў.

**Гарадское насельніцтва па соцыяльным групам (1926=100)**

| Гады | Рабочых | Служачых | Працоўны непролетарскі склад | Паразітуюч. элементы |
|---|---|---|---|---|
| 1926 . . . . . | 66.214 | 78.056 | 110.930 | 9.843 |
| Проц. да ўсяго насельніцтва. . . | 27,8 | 21,0 | 28,8 | 2,6 |
| 1931 . . . . . | 161.031 | 105.557 | 59.712 | 2.311 |
| Проц. да ўсяго насельніцтва . . . | 36,9 | 24,2 | 13,7 | 0,8 |
| Процант росту змянення ў насел. . | +143,2 | +35,2 | —42,2 | —76,5 |

Як відаць з табліцы, за ўказаны перыяд у БССР маецца велізарны рост пролетарскага складу насельніцтва за кошт памяншэння непролетарскіх груп насельніцтва і ліквідацыі беспрацоўя. Ужо ў 1931 г. мы маем амаль ліквідацыю непрацоўных паразітычных элементаў горада. Соцыяльныя зрухі структуры ўсяго насельніцтва, якія адбываюцца ў БССР, відны з наступнай табліцы:

**1926=100 (у тысячах)**

| Гады | Усяго насельніцтва | Рабочых і служач. | Калгаснае насельніцтва | Лік членаў прам. арц. | Непрацоўн. насельн. горада |
|---|---|---|---|---|---|
| 1926 | 4983,2 | 242 | 17,5 | (1929) 17,6 | 9.843 |
| 1932 | 5467,3 | 532 | 1528,5 | 41,8 | (1931) 2.311 |

Такім чынам пры росце ўсяго насельніцтва да 109,7 проц. пролетарыят вырас да 219,9%, да 40,1% гаспадарак знаходзіцца ў калгасах, а непрацоўнае насельніцтва гарадоў у 1931 г. скарацілася ў адносінах 1926 г. на 76,5%. Соцыялістычны сектар стаў пераважным ва ўсёй БССР. Калектывізацыя саматужнай прамысловасці вырасла да 237,1%. За чатыры гады ад 1908 да 1912 пролетарыят Беларусі вырас усяго на 5,9%, а за 4 гады аднаўленчага перыяду ад 1922/23 г.—да 1925/26 пролетарыят прамысловасці чатырох наркаматаў БССР вырас да 128%. Калі ўзяць тэмпы росту

цэнзавай прамысловасці, то атрымаем рост на 377,2%; у 1926 г. пролетарскае насельніцтва БССР складае 11,3 проц., а ў 1932 г. 20%.

**Рост рабочых і служачых БССР (у тысячах)**

| | Усе галіны | Прамысло-васць | Будаўніцтва |
|---|---|---|---|
| 1927/28 | 244,7 | 54,0 | 26,4 |
| 1932 | 537,2 | 126,6 | 77,5 |
| Проц. росту | 147,0 | 120,8 | 171,8 |

Грандыёзны рост пролетарыята БССР выклікан соцыялістычным характарам нашай вытворчасці, дзе рабочы больш не раб, а гаспадар становішча. Закон капіталістычнай рэпрадукцыі абумоўлівае павелічэнне рэзервнай арміі працы, закон соцыялістычнай рэпрадукцыі пераходнага перыяду абумоўлівае як рост асноўных фондаў, так і павелічэнне вытворчага пролетарыята і ліквідацыю беспрацоўя.

**Дынаміка руху беспрацоўя (у тыс.)**

| 1927/28 | 1928/29 | 1930 | 1931 | 1932 |
|---|---|---|---|---|
| 50,1 | 31,11 | 20,7 | няма | няма |

Ліквідацыя беспрацоўя ў СССР у цэлым і ў БССР у прыватнасці адбывалася ў час, калі ва ўсіх капіталістычных краінах панаваў найглыбейшы эканамічны крызіс, калі $^3/_4$ пролетарыята ўсіх краін з'яўляюцца беспрацоўнымі, калі ў Заходняй Беларусі пад уладаю польскага фашызма ўсё прамысловае жыццё спынілася, калі ва ўсіх капіталістычных краінах, пачынаючы са скончэння сусветнай імперыялістычнай вайны 1914 г., існуе хранічнае беспрацоўе.

Рэволюцыйная практыка пролетарыята разбіла ўшчэнт усе нацыяналістычныя тэорыі аграрнага перанасялення Беларусі. Нацыянал-дэмакраты, пад сцягам абароны беднаты, настайваючы на няўхільнасці аграрнага перанасялення БССР, праводзілі палітыку перасялення і высялення беднаты з пагранічных раёнаў, умацоўваючы кулацкую гаспадарку гэтых раёнаў, чым падрыхтоўвалі плацдарм для польскай акупацыі БССР. Комуністычная партыя выкрыла ўсе шкодніцкія тэорыі, разбіла контррэволюцыйную нацдэмаўшчыну, ліквідавала аграрнае перанасяленне вёскі і беспрацоўе.

Усе гэтыя перамогі соцыялістычнай індустрыялізацыі атрыманы ў жорсткай барацьбе пролетарыята супроць класавага ворага і яго агентаў, супроць правага і „левага" апар-

тунізма, супроць markознага роду шавінізмаў. Вялікадзяржаўныя шавіністы і нацдэмы праводзілі курс на ператварэнне БССР у аграрны прыдатак—першыя да прамысловай буржуазнай Расіі, а другія да Польшчы. Яны праводзілі палітыку развіцця кулацкай гаспадаркі ў земляробстве і затрымлівалі развіццё соцыялістычнага сектара. Усе яны рыхтавалі інтэрвенцыю супроць СССР і БССР. У галіне саматужнай прамысловасці яны затрымлівалі развіццё калектывізацыі саматужнай прамысловасці, займаліся прамым шкодніцтвам, засмечваючы прамысловыя арцелі кулацка-буржуазнымі элементамі. У галіне прамысловасці яны развівалі тэорыю „самабытнасці“ Беларусі і немагчымасці індустрыялізацыі яе, садзейнічалі развіццю капіталістычнай прамысловасці, займаючыся шкодніцтвам у будаўніцтве соцыялістычнай прамысловасці, свой „план“ яны абгрунтавалі на тэорыі „затухаючай крывой“. Яны выступалі супроць выкарыстоўвання усіх прыродных рэсурсаў для развіцця народнай гаспадаркі. Яны развівалі толькі швейную прамысловасць і гэтым самым хацелі падрыхтаваць рынак збыту для тэкстыльнай прамысловасці фашыстоўскай Польшчы.

Толькі разгромам правага і „левага“ апартунізма, контррэволюцыйнага трацкізма, буржуазнага нацыяналізма, мы атрымалі перамогу ў народнай гаспадарцы БССР, атрымалі рэволюцыйныя зрухі ў складзе насельніцтва і пролетарыята БССР і народная гаспадарка ў сваёй пераважаючай большасці стала соцыялістычнай. Рост асноўных фондаў адбываецца ва ўсіх частках гаспадаркі. За гг. 1927—1932 асноўныя фонды групы „А“ выраслі на 366,6%, а групы „Б“ на 279,8%. Капіталаўкладанне за ўказаныя гады маецца: у групе „А“ на 159.059 тыс., а ў групе „Б“ на 102 869,9 тыс. рублей. Размеркаванне рабочых па асобных галінах адбываецца наступным чынам.

**Сярэдне-гадавая колькасць рабочых паасобных частак прамысловасці чатырох наркаматаў**

| Галіны | 1913 | Проц. да ітога | 1932 | Проц. да ітога | Рост у проц. |
|---|---|---|---|---|---|
| Торф | Не б | ыло | 4.620 | 6,4 | — |
| Металаапрац. | 1.344 | 5,9 | 7.475 | 10,4 | 556,2 |
| Лесахімія | Не б | ыло | 112 | 0,2 | — |
| Дрэваапрац. | 3.622 | 15,9 | 10.216 | 14,2 | 182,1 |
| Скураная | 501 | 2,2 | 4.862 | 6,8 | 970,4 |
| Вытв. паперы | 2.916 | 19,8 | 3.543 | 4,9 | 121,5 |
| Запалкавая | 2.278 | 10,8 | 4.487 | 6,2 | 197,0 |
| Тэкстыльная | 2.437 | 10,7 | 6.461 | 9,0 | 265,1 |
| Швейная | Не б | ыло | 12.713 | 17,7 | — |
| Паліграфічная | 764 | 3,4 | 1.396 | 1,9 | 182,7 |
| Харчасмакавая | 5.102 | 22,4 | 5.217 | 7,3 | 102,3 |

З табліцы відаць, што няма ні адной галіны прамысловасці, дзе-б не было росту рабочых. У металаапрацоўчай прамысловасці рост выражаецца ў 556,4%, у дрэваапрацоўчай прамысловасці рост на 182,1%, у скураной прамысловасці на 970,4%, у запалкавай на 197%, у тэкстыльнай на 265,1%, у паліграфічнай вытворчасці на 182%, у шкляной прамысловасці на 142%, у папяровай на 121,5% і г. д. Апрача таго паявіліся новыя галіны вытворчасці, дзе занята вялікая колькасць рабочых, як тарфяная, лесахімічная і г. д. Апрача гэтага ўдзельная вага рабочага складу ў адносінах да ўсёй прамысловасці змянілася. Так у 1913 г. у металаапрацоўчай прамысловасці ўдзельнічала 5,9% рабочых, а ў 1932 г. 10,4%. У скураной у 1913 г. удзельнічала 2,2%, а ў 1932 г.—8%. У харчавой прамысловасці ў 1913 г. мелі 22,4% рабочых, а ў 1932 г.—7,3%. Гэта адбываецца не гледзячы на абсалютны рост харчовай прамысловасці і занятых ёю рабочых.

Асабліва характэрны зрухі ў складзе пролетарыята пры разборы будаўнічай і сельска-гаспадарчай групы пролетарыята. Разгортванне соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, амартызацыя і пабудова нанава ўсёй прамысловасці выклікае грандыёзны рост будаўнічых рабочых. Так, калі ў 1925/26 г. у будаўніцтве БССР было занята рабочых і служачых усяго 14,5 тыс. чал., то ў 1932 г. занята 77,6 тыс. чалавек, што складае рост на 633,8%. Рост соўгасаў і іх умацаванне павялічвае ўдзельную вагу сельска-гаспадарчых рабочых. Так на 1-е студзеня 1933 г. толькі ў 9 трэстах сістэмы Наркамсоўгаса і Наркамзема маецца пастаянных рабочых 18.087, сюды не ўваходзіць вялікая колькасць будаўнічых рабочых, працуючых у соўгасах і сезонныя рабочыя.

Яшчэ больш яркі прыклад высокіх тэмпаў індустрыялізацыі БССР і зрухаў у складзе пролетарыята паказвае стан канцэнтрацыі рабочых на паасобных прадпрыемствах. Так, калі да імперыялістычнай вайны з колькасці больш 700 прадпрыемстваў толькі на 46 прадпрыемствах мелася ад 100 да 500 рабочых, то ў БССР у 1932 г. мы маем іншае становішча.

**Групоўка прадпрыемстваў БССР па ліку рабочых (у проц.)**

| Прадпрыемствы | 1928 | 1932 |
|---|---|---|
| Да 100 рабочых . . . | 13,9 | 6,0 |
| Ад 101—500 " . . . | 43,8 | 23,1 |
| " 501—1000 " . . . | 19,9 | 18,6 |
| " 1001—3000 " . . . | 22,7 | 43,1 |
| Звыш 3000 . . . . | — | 9,2 |

На 70% прадпрыемстваў БССР працуюць на кожным прадпрыемстве ў паасобку больш чым 500 рабочых. Мы бачым з табліцы дынамікі развіцця народнай гаспадаркі, што калі ў 1928 г. у 13% прадпрыемстваў працуе да 100 рабочых у кожным, то ў 1932 г. толькі ў 6% прадпрыемстваў працуе па 100 рабочых на кожным. Затое мы бачым як колькасць буйных прадпрыемстваў з вялікім складам рабочых увесь час павялічваецца. Так, калі ў 1928 г. у БССР не было ні аднаго прадпрыемства са складам пролетарыята больш 3000 у кожным, то ў 1932 г. такіх прадпрыемстваў налічваецца больш 9%. Масавае ўключэнне ў вытворчасць працоўных з вёсак і мястэчак, учарашніх дробна-таварных вытворцаў на буйных прадпрыемствах з высокай тэхнікай, сярод шырокага калектыва рабочых, перавыхоўвае і пераварвае іх у пролетарскім катле, дзе адбываецца сістэматычнае зжыванне дробна-буржуазнай ідэалогіі, адбываецца пераробка чалавека, выпрацоўваецца ва ўчарашняга селяніна пролетарская ідэалогія.

Гераічная праца рабочых БССР пры брацкай дапамозе пролетарыята СССР і пад кіраўніцтвам ВКП(б) і КП(б)Б, забяспечыла выключныя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва. За гады існавання Совецкай Беларусі прамысловасць у велізарнай сваёй большасці нанава пабудавана. Пушчаны ў ход дзесяткі новых буйнейшых заводаў, энергетычная гаспадарка рэспублікі ўзмацнілася і аднавілася. Соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі займае звыш палавіны ўсей пасеўнай плошчы БССР. Рабочы клас БССР вырас якасна і колькасна.

Калі ва ўсіх капіталістычных краінах кваліфікаваная праца выцясняецца і замяняецца некваліфікаванай, у БССР мы маем адваротную з'яву—сістэматычны працэс замены некваліфікаванай працы кваліфікаванай. Так, у англійскай стальной прамысловасці ў 1928 г. мелася 62,3% некваліфікаваных рабочых, 21,7% малакваліфікаваных і толькі 16% кваліфікаваных. А ў БССР у 1930 г. пры ўмове велізарнага росту вытворчых рабочых, калі ў прамысловасць штогод уліваецца вялікая маса некваліфікаваных рабочых з вёсак і мястэчак, усё-такі ва ўсей цэнзавай прамысловасці БССР маецца:

| | |
|---|---|
| высокакваліфікаваных рабочых . . . | 4,8% |
| кваліфікаваных рабочых . . . . | 17,1% |
| некваліфікаваных . . . . . . | 35,5% |

За гады 1923—1928 у шкляной прамысловасці Англіі маецца скарачэнне кваліфікаваных рабочых на 70%. У БССР-жа ў 1930 г. ва ўказанай галіне прамысловасці некваліфікаваных рабочых маецца ўсяго 38,4%.

Совецкая ўлада сістэматычна праз спецыяльную сістэму навучання праводзіць перакваліфікацыю рабочых. Рост

удзельнай вагі кваліфікаваных рабочых у прамысловасці БССР відзен з наступнай табліцы:

**Дынаміка размеркавання рабочых па кваліфікацыі ў прамысловасці БССР (у процантах).**

| Галіны прамысловасці | Кольк. абслед. прадпр. | Год і месяц | Высока кваліф. рабоч. | Кваліфікав. | Мала кваліфікав. | Некв. рабоч.[1] |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Металаапр. . . . | — | 1930 | 3,8 | 13,6 | 35,5 | 38,4 |
| „ . . . . . | 6 | 1933 студз. | 2,9 | 28,6 | 62,6 | 15,9 |
| Шкляная . . . | — | 1930 | 1,2 | 23,2 | 35,8 | 38,4 |
| „ . . . . . | 3 | 1933 сак. | 7,3 | 31,8 | 23,0 | 37,9 |
| Запалкав. . . . | — | 1930 | 1,6 | 7,8 | 9,3 | 76,1 |
| „ . . . . . | 1 | 1933 сак. | 1,2 | 9,1 | 19,2 | 76,5 |
| Дрэваапр. . . . | — | 1930 | 1,9 | 10,7 | 35,7 | 44,6 |
| „ . . . . . | 12 | 1933 сак. | 3,2 | 15,6 | 30,0 | 51,2 |
| Папяров. прам. . . | — | 1930 | 5,6 | 18,7 | 37,7 | 28,7 |
| „ „ . . . | 3 | 1933 сак. | 10,6 | 20,2 | 33,8 | 35,2 |
| Харчасмакавая . . | — | 1930 | 4,2 | 25,0 | 33,8 | 24,9 |
| „ . . . . | 6 | 1933 сак. | 4,3 | 33,8 | 25,8 | 36,1 |
| Швейн. прам. . . | — | 1930 | 0,3 | 18,8 | 37,0 | 15,9 |
| „ . . . . | 6 | 1933 | 16,1 | 47,6 | 20,6 | 15,7[2] |

Не гледзячы на тое, што матэрыялы, якія маюцца ў нашым распараджэнні на 1933 г., не ахопліваюць усе прадпрыемствы ўказаных галін, але і гэтыя няпоўныя матэрыялы паказваюць на тэндэнцыю развіцця пролетарыята. У гэтай табліцы ярка выражана, якім чынам характар соцыялістычнай рэпрадукцыі сістэматычна выклікае павелічэнне кваліфікаванай рабочай сілы за кошт памяншэння ўдзельнай вагі некваліфікаванай працы. У той час, калі пры капіталістычным спосабе вытворчасці, дзякуючы процілеглым законамернасцям адбываецца працэс сістэматычнага скарачэння ўдзельнай вагі кваліфікаванай працы, у БССР за гг. 1930—1933 маем грандыёзны рост кваліфікаванай працы і падзенне ўдзельнай вагі некваліфікаванай працы. У металаапрацоўчай прамысловасці кваліфікаваных і высокакваліфікаваных было 17,4%, а ў 1933 г.—39,5%, некваліфікаваная праца зменшылася з 38,4 да 15,9%. У швейнай прамысловасці было 19,1% кваліфікаваных і высокакваліфікаваных рабочых, а ў 1933 г.—63,7%. У дрэваапрацоўчай прамысловасці было 12,6% кваліфі-

[1]) На 1930 г. не ўключаюцца вучні і невядомыя.

[2]) Матэрыялы на 1930 г. узяты са зборніка Дзяржплана БССР, а на 1933 г. па матэрыялах Наркампрацы БССР.

каваных і высокакваліфікаваных рабочых, а ў 1933 г. стала 18,8% і г. д. і да т. п.

У капіталістычных краінах, дзе рабочыя з'яўляюцца стваральнікамі дадатковай вартасці і прыбытку для капіталістаў, там пытанне аб кваліфікацыі не адыгрывае самастойнай ролі. Раз капіталіст мае магчымасць атрымання большага прыбытку пры дапамозе выцяснення кваліфікаванай працы і заменай яе некваліфікаванай жаночай і дзіцячай працай, гэта мерапрыемства робіцца неабходнасцю капіталістычнай рэпрадукцыі. Праца-ж у соцыялістычнай вытворчасці СССР мае на мэце забяспечанне расшыранай соцыялістычнай рэпрадукцыі, забяспечанне прадукцыйнага, грамадскага і індывідуальнага спажывання пролетарыята, будуючага соцыялізм. Тут канкрэтная спажывецкая вартасць, якасць прадукта, стан кваліфікацыі рабочага, адыгрывае самастойную ролю першачарговай важнасці. Соцыялістычная вытворчасць патрабуе кваліфікаванай рабочай сілы з шырокімі палітэхнічнымі ведамі, для ўтварэння соцыялістычнай спажывецкай вартасці, для задавальнення патрэбнасцей соцыялістычных вытворцаў. Развіццё нашай гаспадаркі вядзе да таго, каб... „частковага рабочага, простага носьбіта пэўнай, частковай грамадскай функцыі замяніць усебакова развітым індывідуумам, для якога розныя грамадскія функцыі прадстаўляюць змяняючыя адзін аднаго спосабы жыцця і дзейнасці" (Маркс).

Працэс ліквідацыі процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай можа ажыццяўляцца пры ўмове, калі соцыялістычны рабочы будзе выконваць не толькі функцыю выканаўцы, але і ролю арганізатара вытворчасці, настройшчыка аўтаматаў і кантралёра над дзейнасцю машын. А гэта магчыма толькі пры ўмове, калі тэхнічнае навучанне як тэарэтычнае, так і практычнае зойме ў нашых школах адпавядаючае месца. Пастаноўка партыяй пытання аб аўладанні тэхнікай вытворчасці на пэўным этапе, з'яўляецца адным з важнейшых фактаў соцыялістычнай вытворчасці, дзе работнік павінен стаць поўным кіраўніком вытворчага працэса, а не быць рабом машыны. Той момант, што пролетарыят пераходнага перыяду ў асноўнай сваёй масе не стаў яшчэ палітэхнічна адукаваным чалавекам, абавязвае нас паралельна з падрыхтоўкай кадраў, на падставе палітэхнічнай адукацыі, перакваліфікаваць рабочых, падняць іх канкрэтную кваліфікацыю, патрабаваць ад кожнага работніка стаць спецыялістам сваёй справы. Само па сабе фабрычнае вучнёўства, падрыхтоўка кадраў праз ФЗВ, фактычна ёсць з'ява неабходнага часовага характара, якая адпавядае *тэрміновым* задачам насычэння кадрамі нашай прамысловасці пры існуючым узроўні агульнай і спецыяльнай адукацыі ў краіне. Увядзенне ўсеагульнай палітэхнічнай адукацыі стварае зусім іншую базу, на падставе якой будуць рыхтавацца новыя спецыялісты вытворчасці праз спецыяльную сістэму гэтай адукацыі.

Калі ў капіталістычных краінах адбываецца самая нязносная эксплаатацыя дзяцей і падлёткаў, у СССР дзеці абавязкова праходзяць агульнае палітэхнічнае навучанне. Большая частка падлёткаў, якая ўдзельнічае ў вытворчым працэсе, з'яўляецца вучнямі ФЗВ. Так, у 1931 г. у БССР 20.800 падлёткаў, якія ўдзельнічалі ў вытворчасці, з'ўляліся вучнямі ФЗВ, дзе рыхтуюцца кваліфікаваныя кадры, дзе рыхтуецца здаровая змена для рабочых, дзе падлётак працуе скарочаны рабочы дзень.

Зрухі, якія адбываюцца ў пролетарыяце БССР, праяўляюцца ў тым, як удзельнічае жаночая праца ў сістэме нашай вытворчасці. Пры капіталізме факт уключэння жанчын у вытворчасць азначае пагоршанне становішча пролетарыята, выцясненне кваліфікаванай рабочай сілы з вытворчасці і зніжэнне зарплаты ўсіх рабочых наогул і жанчын у прыватнасці. Іншае становішча маецца ў СССР, дзе беспрацоўе ліквідавана, дзе совецкая ўлада павышае кваліфікацыю ўсіх рабочых, дзе жанчына ўключаецца ў вытворчасць, не выцясняючы рабочых, а наадварот, паляпшаючы становішча сям'і ў цэлым і жанчыны ў прыватнасці, павышэннем грашовай зарплаты рабочых, вызваленнем жанчын ад кухні, расшырэннем яе кругавіду і падняццем яе культурна-палітычнага ўзроўню.

**Колькасць і ўдзельная вага жанчын у вытворчасці БССР за 1932 г. (без с.-г. сектара)**

| | Усяго | У т. л. жанчын | Удзельн. вага жанч. | |
|---|---|---|---|---|
| Усяго . . . | 395.370 | 123.641 | 31,3 | (Па матэрыялах) ЦНГУ БССР) |
| У цэнзавай прамысловасці . . . | 120.645 | 46.664 | 38,7 | |

Маюцца такія галіны, дзе жанчыны займаюць яшчэ больш важнае месца. Так у галіне асветы працуе 49,1% жанчын. Па лініі грамадскага харчавання 74,2%, ва ўрачэбна-санітарнай справе 71,5% і г. д. і т. п.

Асабліва характэрным для быстрага тэмпа індустрыялізацыі БССР з'яўляецца стан рабочых па ўзросту. Так, у 1932 г. у прамысловасці БССР было рабочых да 22-гадовага ўзросту 41,1%, што паказвае на маладасць нашай прамысловасці, на вялікую ўдзельную вагу новых папаўненняў і на быстрыя тэмпы індустрыялізацыі.

Папаўненне рабочага складу адбываецца не толькі за кошт падрастаючага пакалення рабочых, але і за кошт уключэння ў прамысловую вытворчасць сялянскіх слаёў. Абследванне, праведзенае ЦСПСБ, паказвае на рост удзельнай вагі сялян наогул і калгаснікаў у прыватнасці ў прамысловай вытворчасці.

**Социяльнае паходжанне рабочых (у процантах).**

| | Рабочых | Сялян | Служачых | Саматужнікаў | Паразіт. элем. |
|---|---|---|---|---|---|
| Электрапрамысловасць | | | | | |
| а) 1930 г. люты . . | 62,8 | 27,4 | 7,5 | 6,5 | 2,6 |
| б) 1933 г. май . . | 40,7 | 49,5 | 6,3 | 2,0 | 1,5 |
| Папяровая: | | | | | |
| а) 1930 г. люты . . | 58,3 | 28,5 | 3,7 | 3,6 | 0,8 |
| б) 1933 г. май . . | 60,1 | 34,8 | 1,9 | 2,7 | 0,5 |
| Харчасмакавая: | | | | | |
| а) 1930 г. люты . . | 51,2 | 26,0 | 5,4 | 12,1 | 3,0 |
| б) 1933 г. люты . . | 46,2 | 43,5 | 3,8 | 5,8 | 0,7 |

**Склад рабочых, маючых сувязь з сельскай гаспадаркай (за 1933 г.)**

| | Не маючых сувязі | Сувязь з сельскай гаспадаркай | У тым ліку калгаснікаў |
|---|---|---|---|
| Харчасмакавая . . . . | 71,6 | 28,4 | 64,4 |
| Папяровая . . . . . | 92,4 | 7,6 | 46,0 |
| Электрапрамысловая . . . | 88,3 | 11,7 | 58,1 |

У гэтых табліцах па матэрыялах 3 саюзаў, якія не даюць вычэрпваючай характарыстыкі ўсёй вытворчасці БССР, паказаны той напрамак развіцця, як у працэсе быстрага тэмпа індустрыялізацыі адбываецца папаўненне пролетарыята за кошт сялянства, але не наогул сялянства, а калгаснага сялянства. Паказана, што абсалютны рост рабочых уплывае на змяншэнне ўдзельнай вагі дзяцей рабочых, што ўдзельнічаюць у прамысловасці БССР і павелічэнне ўдзельнай вагі дзяцей сялян.

Ленінская нацыянальная палітыка ва ўмовах дыктатуры пролетарыята выражаецца не толькі ў быстрых тэмпах развіцця прадукцыйных сіл і грандыёзным павелічэнні і канцэнтрацыі рабочых на прадпрыемствах БССР, КП(б)Б праводзіла і праводзіць палітыку пролетарскага інтэрнацыяналізма ў соцыялістычнай прамысловасці, планава размяркоўваючы і пераразмяркоўваючы рабочых, уключаючы ў соцыялістычную вытворчасць шырокія масы карэннага насельніцтва. На агульным фоне соцыялістычнай індустрыялізацыі і росту рабочага насельніцтва ўсіх нацыянальнасцей, што жывуць на тэрыторыі БССР, павялічваецца ўдзельная вага беларускай часткі пролетарыята, знішчаецца замкнутасць паасобных

галін, у якія раней мелі доступ рабочыя толькі адной або другой нацыянальнасці. У 1932 г. размеркаванне цэнзавай прамысловасці розных нацыянальнасцей БССР характарызуецца наступным чынам: беларусоў 63,7%, яўрэяў—25,6%, рускіх—5,0%, палякаў—3,4% і інш. 4,5%, тады як у 1929 г. у цэнзавай прамысловасці БССР мелася—беларусоў 50,9%, яўрэяў—33,5%, рускіх—8%, палякаў—5,4% і інш.—2,2%. Пры агульным росце рабочых усіх груп насельніцтва, рабочыя беларусы, адпаведна іх удзельнай вазе ў складзе ўсяго насельніцтва БССР, займаюць сваё месца ў прамысловасці.

Яркую карціну інтэрнацыяналізацыі пролетарыята нашай вытворчасці дае табліца дынамікі, перагрупоўкі рабочых па асобных галінах за гады 1926—1932 г. (гл. таб. № 2 на стар. 33).

З табліцы відаць, што ў Беларусі маем найглыбейшы працэс інтэрнацыяналізацыі і карэнізацыі рабочых. Характэрна, што шкляная прамысловасць, дзе да вайны абсалютная большасць рабочых складалася з польскага насельніцтва, у сучасны момант мае да 80% беларускіх рабочых. У швейнай прамысловасці, дзе яшчэ ў 1926 г. працавала ўсяго 2,9% беларусоў, у сучасны момант працуе 49%. У „вопратцы і туалеце“, дзе яшчэ ў 1929 г. мелася 14,2% беларусоў, у 1932 г. працуе 49,5%. У электрапрамысловасці ў 1926 г. яўрэйскіх рабочых было 11%, а ў 1932 г.—15,3%. У хімічнай прамысловасці ў 1926 г. яўрэйскіх рабочых было 17,9%, а ў 1932 г.—22,9%, польскіх рабочых у 1926 г.—1,7%, а ў 1932 г.—2,6%. У швейнай прамысловасці польскіх рабочых у 1926 г. было 0,1%, а ў 1932 г.—2,0%. У паліграфічнай прамысловасці ў 1926 г. польскіх рабочых было 1,2%, а ў 1932 г.—1,4%.

Перамога пролетарскага інтэрнацыяналізма атрымана ў барацьбе з усякага роду апартунізмам, вялікадзяржаўным шавінізмам, якія ўсякімі спосабамі стараліся затрымаць працэс карэнізацыі і інтэрнацыяналізацыі ў соцыялістычнай вытворчасці БССР, якія не хацелі мірыцца з *роўнапраўем* беларускіх працоўных. Перамога пролетарыята атрымана ў барацьбе супроць контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны, якая ўсякімі спосабамі старалася затрымаць працэс індустрыялізацыі, аднабакова развіваючы нашу прамысловасць, якая не давала магчымасці правядзення палітыкі пролетарскага інтэрнацыяналізма ў БССР.

Для пролетарыята Беларусі патрэбна нацыянальная, усім даступная культура для перавыхавання ў духу інтэрнацыяналізма працоўных мас і ажыццяўлення задач пролетарскай дыктатуры, г. зн. для больш быстрай пабудовы соцыялізма. Толькі ворагі пролетарыята могуць проціпастаўляць задачы нацыянальнага вызвалення задачам пабудовы соцыялізма. Толькі разгром контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны і контррэволюцыйных нацыяналістычных яўрэйскіх партый „Бунд“, „Поалей-Цыён“ і г. д., якія культывавалі нацыянальную варожасць сярод пролетарыята, аслабляючы пролетарскае

*Табліца № 2*

**Размеркаванне рабочых цэнзавай прамысловасці БССР па нацыянальнасцях (у працантах)**

| | 1926 г. | | | | | 1929 г. | | | | | 1932 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Белар. | Яўр. | Руск. | Пал. | Інш. | Белар. | Яўр. | Руск. | Пал. | Інш. | Белар. | Яўр. | Рус. | Пал. | Інш. |
| Электрапрам. | 64,8 | 11,8 | 22,1 | 5,9 | 6,2 | 60,7 | 2,9 | 7,9 | 6,5 | 4,0 | 71,1 | 15,3 | 8,3 | 2,1 | 33,2 |
| Тарфяная | Няма звестак | | | | | 63,1 | 0,4 | 42,7 | 2,8 | 1,0 | 77,3 | 0,6 | 4,6 | 8,3 | 9,2 |
| Здабыванне і пераапрац. мін. | Няма звестак | | | | | 79,5 | 5,1 | 5,1 | 2,6 | 7,7 | 94,4 | 0,9 | 1,4 | 1,4 | 1,9 |
| Металаапрацоўч. | 40,1 | 28,1 | 19,2 | 6,9 | 5,7 | 49,0 | 6,2 | 7,4 | 5,0 | 2,4 | 56,8 | 33,1 | 4,6 | 2,7 | 2,8 |
| Апрацоўка мін. | 61,8 | 5,3 | 15,6 | 13,5 | 3,8 | 72,9 | 8,1 | 6,6 | 9,9 | 2,5 | 85,5 | 4,2 | 3,8 | 8,8 | 2,7 |
| Хімічная прам. | 31,2 | 17,9 | 47,4 | 1,7 | 1,8 | 53,3 | 27,3 | 13,3 | 5,1 | 1,0 | 61,8 | 22,3 | 9,4 | 2,6 | 3,9 |
| Апрацоўка дрэва | 42,6 | 32,1 | 17,2 | 3,8 | 4,3 | 59,7 | 27,2 | 4,5 | 5,3 | 3,3 | 69,9 | 19,1 | 4,4 | 5,5 | 3,1 |
| Папяровая прам. | Няма звестак | | | | | 75,6 | 9,8 | 4,1 | 7,5 | 3,1 | 84,4 | 6,3 | 2,3 | 5,5 | 1,5 |
| Скураная і футр. | 17,5[1] | 70,8 | 7,4 | 2,7 | 1,6 | 31,7 | 55,0 | 4,8 | 5,6 | 2,9 | 48,5 | 44,1 | 3,8 | 1,9 | 1,7 |
| Апрацоўка матэр. жывёл. паходж. | Няма звестак | | | | | 17,8 | 73,4 | 6,4 | 1,9 | 0,5 | 49,0 | 42,2 | 4,4 | 3,4 | 1,0 |
| Тэкстыльная | 42,7 | 37,5 | 15,2 | 2,6 | 2,0 | 63,5 | 24,0 | 5,3 | 5,5 | 1,7 | 78,6 | 12,2 | 5,1 | 1,9 | 2,2 |
| Харчасмакавая | 36,2[2] | 46,9 | 10,7 | 2,9 | 3,3 | 37,9 | 46,7 | 7,3 | 4,6 | 3,5 | 67,9 | 23,9 | 4,3 | 2,1 | 1,8 |
| Вопратка і туалет | Няма звестак | | | | | 14,2 | 76,6 | 6,3 | 2,0 | 0,9 | 49,5 | 40,6 | 5,9 | 2,5 | 1,5 |
| У тым ліку: | | | | | | | | | | | | | | | |
| а) швейная | 2,9 | 94,6 | 2,2 | 0,1 | 0,2 | 4,3 | 83,4 | 9,5 | 1,7 | 1,1 | 49,5 | 40,5 | 6,6 | 2,0 | 1,5 |
| б) вытвор. скуран. і абутку | Няма звестак | | | | | 17,6 | 75,4 | 3,3 | 2,9 | 0,8 | 22,7 | 64,5 | 9,5 | 2,0 | 1,3 |
| Паліграфічная | 16,8 | 72,2 | 8,0 | 1,2 | 1,8 | 15,9 | 75,9 | 5,7 | 1,7 | 0,8 | 26,0 | 65,0 | 6,0 | 1,4 | 1,6 |
| Навукова-мастацкая | Няма звестак | | | | | 59,3 | 30,0 | 4,9 | 2,9 | 2,0 | 52,7 | 35,0 | 5,8 | 2,7 | 3,8 |

[1] За 1926 г. уваходзіць і абутковая.
[2] За 1926 г. без табачнай.

Матэрыялы за 1926 г. узяты са зборніка Ін-та яўр. культуры БелАН, 1929—1932 г. па матэрыялах КНГУ.

адзінства, падрыхтоўваючы падзенне Совецкай улады,—даў магчымасць уступлення Совецкай Беларусі нароўні з усім СССР у перыяд соцыялізма.

Пераход партыі ад палітыкі абмежавання і выцяснення кулака да палітыкі ліквідацыі карэнняў капіталізма выклікала ўзмацненне актывізацыі контррэволюцыйных элементаў унутры СССР.

У БССР гэты пераход характарызаваўся ўзмацненнем дзейнасці контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны. Далейшы разгром рэштак нацдэмізма, разаблачэнне і разгром нацыяналістычных элементаў, якія скарыстоўваюць партбілет для падрыхтоукі інтэрвенцыі і з'яўляюцца непасрэднымі агентамі польскай дэфензывы,—ёсць залог пабеды пролетарыята ў яго барацьбе за канчатковую пабеду соцыялізма ў СССР.

Размеркаванне пролетарыята сярод паасобных галін і прадпрыемстваў, пераразмеркаванне нацыянальнага складу, усе мерапрыемствы па развіццю пролетарыята БССР адбываюцца не стыхійна, а планава. Дыктатура пролетарыята, развіваючы соцыялістычную эканоміку краіны, планава развівае і перарабляе самога рабочага якасна і колькасна, планава размяркоўвае і пераразмяркоўвае рабочую сілу. Пры капіталізме размеркаванне рабочай сілы адбываецца стыхійна, праз дзеянне закона вартасці і дадатковай вартасці, у БССР — краіне дыктатуры пролетарыята, дзе беспрацоўе ліквідавана, дзе няма працэса аграрнага перанасялення, дзе дзейнічаюць соцыялістычныя законамернасці пераходнага перыяду,—размеркаванне рабочай сілы адбываецца толькі свядомым дзеяннем нашай дзяржавы. Усе мерапрымствы па размеркаванні і пераразмеркаванні пролетарыята вынікаюць з асноўнай задачы пераходнага перыяду найбыстрэйшай перабудовы соцыялізма.

Працэс соцыялістычнай індустрыялізацыі патрабуе ліквідацыі культурнай адсталасці і быстрага павышэння агульнаадукацыйнага ўзроўню пролетарыята. Таму адной з асноўных задач нашай пяцігодкі з'яўляецца разгортванне культурнай рэволюцыі. Мерапрыемствы Совецкай улады прывялі да найвялікшых поспехаў у гэтай галіне. Так, да рэволюцыі ў Беларусі было 76% непісьменных, а ў канцы 1932 г. непісьменных у гарадах маецца ўсяго 2%.

**Характарыстыка пісьменнасці гарадскога насельніцтва БССР за гады 1926-1931 (у процантах).**

| Ад 10 да 15 год | | | Ад 16 да 50 год | | | Ад 10 да 50 год | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 | 1930 | 1931 | 1926 | 1930 | 1931 | 1926 | 1930 | 1931 |
| 91,2 | 99,5 | 100 | 83,9 | 93,0 | 95,2 | 85,2 | 95,8 | 96,5 |

У дарэволюцыйнай Беларусі праз пачатковую школу праходзіла ўсяго 34% дзяцей. У Совецкай Беларусі ў пачатку 1933 г. уведзена ўсеагульнае навучанне на базе сямігадовай школы. Да рэволюцыі ў Беларусі існавала вельмі мала сярэдніх школ і ні адной вышэйшай. У сучасны момант у нас маецца 130 тэхнікумаў, 32 ВНУ, 61 рабфак і 10.000 груп вячэрняй адукацыі для дарослых рабочых. У 1931 г. у Совецкай Беларусі выдавалася 182 газеты, 30 часопісаў, 1.474 назвы кніг з тыражом у 10.716.048 экз.

У Беларусі маецца 188 клубаў, 16 тэатраў і г. д.

Калі разгледзець склад студэнцтва ВНУ з пункту погляду социяльнага, то мы ўбачым велізарны рост рабочай праслойкі. Так на 1/I 1933 г. склад дзяцей рабочых у специяльных навуковых установах наступны:

**Социяльны склад студэнцтва рэспубліканскіх навуковых устаноў БССР (ліпень 1933 г.)**

| | Усяго студэнтаў | У тым ліку рабоч. і дзяц. рабочых | Процант рабочых і дзяцей рабочых |
|---|---|---|---|
| Рабфакі . . . . | 8,625 | 5,230 | 60,3 |
| Тэхнікумы . . . . | 14,650 | 5,298 | 36,2 |
| ВТНУ . . . . . | 3,036 | 1,542 | 50,8 |

(Матэрыялы КНГУ БССР).

Пролетарыят, будаўнік социялізма, актыўна змагаецца за пастаўленыя ім задачы. Лепшым паказчыкам актыўнасці рабочых у галіне социялістычнага будаўніцтва з'яўляецца ахват ударніцтвам і соцспаборніцтвам рабочых прамысловасці БССР.

**Ударніцтва ў прамысловасці БССР**

| | Усяго раб. | Мужчын | Жанчын | Член. КП(б) | Член. ЛКСМ | Моладзі да 24 г. | Дарослых ад 24 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/VII-31 г. | 61,4 | 63,4 | 68,5 | 71,2 | 60,7 | 64,3 | 59,8 |
| 1/I-32 г. | 69,4 | 61,0 | 67,3 | 84,1 | 75,8 | 73,4 | 66,5 |

Актыўнасць рабочага класа расце штодзённа і штогадзінна. Уперадзе ідуць члены КП(б) — авангард рабочага класа; адстаюць жанчыны-работніцы і рабочыя старэйшых узростаў, што паказвае на недастатковую выхаваўчую работу, праведзеную сярод іх. Яркім паказчыкам новых адносін да працы з'яўляецца выкананне плана першага пяцігоддзя ў БССР за 4 гады. Рабочы клас актыўны не толькі на сваёй фабрыцы, ён цікавіцца жыццём не толькі свайго прадпрыемства, а жыццём усёй краіны, міжнародным становішчам, становішчам у секцыях Комінтэрна і г. д. Сістэматычны

рост інтарэса да палітычных пытанняў відны з дынамікі росту чытаемасці і выпіскі газет рабочымі. Так, па выбарачнаму абследванню КНГУ відна, што ў 1932 г. на 1 рабочага цэнзавай прамысловасці прыходзіцца па выпісцы газет 37 экземпляраў у месяц і тры кнігі, набытыя на працягу года.

Рост актыўнасці і палітычнага ўзроўню пролетарыята відны з таго, як выконваецца рэалізацыя дзяржаўных пазык. Так, з рэалізаваных 6 дзяржаўных пазык у БССР на суму 139.000.000 руб., 116,4 млн. рэалізавана ў горадзе. Рост актыўнасці пролетарыята відаць і з таго ўдзелу рабочых у правадзілых мерапрыемствах совецкай улады ў галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі, у пасеўных і загатоўчых кампаніях, у соцыялістычным сумяшчальніцтве, у шырокім уключэнні рабочых ад станка ў кіруючы склад кіраўнічага апарата. Гэты рост відаць у разгортванні совецкай дэмакратыі, у разгортванні пролетарскай крытыкі і самакрытыкі, у росце пролетарскіх грамадскіх арганізацый.

Асабліва заметны рост палітычнай актыўнасці рабочых у росце комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.

**Склад КП(б)Б па полу і соцыяльнаму становішчу**

| Гады | Мужчын | Жанчын | Рабочых | Сялян | Інш. служ. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927 . . . | 22453 | 2928 | 13482 | 7,300 | 4599 | 25381 |
| Процант да агульнага ітога . . . | 88,5 | 11,5 | 53,1 | 28,8 | 18,1 | 100. |
| 1/Х-1932 г. . | 55117 | 8561 | 41648 | 17,164 | 4866 | 63668 |
| Процант да агульн. ітога | 86,6 | 13,4 | 65,4 | 27,0 | 7,6 | 100 |
| Рост у проц. | 145,5 | 192,4 | 208,9 | 135,1 | 5,8 | 150,8 |

Закон капіталістычнай рэпрадукцыі абумоўлівае абсалютнае і адноснае збядненне пролетарыята. Закон соцыялістычнай рэпрадукцыі пераходнага перыяду абумоўлівае сістэматычнае павышэнне жыццёвага ўзроўню пролетарыята.

Жыццёвы ўзровень пры капіталізме нельга вызначаць заработнай платай, даход пролетарыята нятоесамы яго дабрабыта, як вартасць не ёсць тое самае, што спажывецкая вартасць. Даход пролетарыята паказвае толькі на колькасную розніцу ва ўзроўні даходу. Нават павелічэнне зарплаты не паляпшае становішча рабочых; зарплата пры капіталістычным спосабе вытворчасці маскіруе эксплаатацыю рабочых. Прынцыпова іншае адбываецца ў СССР, дзе зарплата з'яўляецца часткай грамадскага прадукта, індывідуальна спажытага рабочымі. Гэтая частка не можа адлюстроўваць жыццёвы ўзровень пролетарыята, паколькі яна не ўключае соцыяльна-бытавых фондаў спажывання і рад паслуг, якія рабочыя атрымліваюць ад совецкай дзяржавы. Апрача гэтага нельга зводзіць становішча рабочага класа да норм спажы-

вання сродкаў харчавання, бо выдаткі на харчаванне складаюць толькі 53-54 проц. бюджэта, рэшта прыходзіцца на вопратку, абутак, жыллё, культурныя патрэбнасці і інш. Калі зарплата пры капіталізме затушоўвае нізкі жыццёвы ўзровень пролетарыята, то зарплата ў СССР наадварот, не адлюстроўвае сабой поўнасцю ўвесь дабрабыт пролетарыята, атрыманы ад пролетарскай дзяржавы. Маркс даказаў, што рэзервная армія, беспрацоўе, няўпэўненасць у заўтрашнім дні з'яўляюцца бічом рабочага класа і ўваходзяць у жыццёвы ўзровень пролетарыята пры капіталізме. „Паглядзеце на капіталістычныя краіны, якія жудасці там адбываюцца на глебе беспрацоўя. У гэтых краінах ёсць зараз не менш 30—40 млн. беспрацоўных. Што гэта за людзі? Аб іх звычайна кажуць што гэта — „кончаныя людзі". Яны кожны дзень дамагаюцца работы, шукаюць, гатовы прыняць амаль любыя ўмовы работы, але іх не прымаюць на работу, бо яны „лішнія" людзі. І гэта ў той час, калі велізарныя масы тавараў і прадуктаў выкідваюцца на вецер з-за капрызаў „пястуноў" лёсу—сынкоў капіталістаў і памешчыкаў. Беспрацоўным адмаўляюць у харчах, таму што ім няма чым плаціць за прадукты, ім адмаўляюць у прытулку, бо ім няма чым плаціць за кватэру. Чым і дзе яны жывуць? Жывуць у трушчобах вялікіх гарадоў, а больш за ўсё у хібарках за горадам, наспех пабудаваных беспрацоўнымі з дошак ад скрынак і дрэўнай кары. Але гэта ня ўсё. Ад беспрацоўя церпяць не толькі беспрацоўныя. Ад яго церпяць таксама і рабочыя, якія яшчэ маюць работу, бо наяўнасць вялікай колькасці беспрацоўных стварае для іх няўстойлівае становішча на прадпрыемстве, няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Сёння яны працуюць на прадпрыемстве, але не ўпэўнены, што прачнуўшыся заўтра не даведаюцца, што яны ўжо звольнены" (Сталін).

Прынцыпова іншае адбываецца ў СССР, дзе дыктатура пролетарыята зніштожыла беспрацоўе. Калі пры капіталізме на кожнага працуючага мы маем трох беспрацоўных, то ў СССР увесь рабочы клас актыўна ўдзельнічае ў соцыялістычным будаўніцтве, што безумоўна, уздымае жыццёвы ўзровень яго. Яшчэ Марксам было даказана, што пры капіталізме ў жыццёвы ўзровень пролетарыята ўваходзіць інтэнсіўная эксплаатацыя, працягласць жыцця і г. д. У палепшанне жыццёвага ўзроўню пролетарыята ў СССР уваходзіць не толькі сама зарплата, а складаны ланцуг фактараў, як бытавога палепшання, фізічнага стану рабочага і яго сям'і, скарачэнне рабочага дня, механізацыя працоўных вытворчых працэсаў, палепшанне ў галіне прафесіянальнай гігіены, кватэрныя ўмовы, комунальнае абслугоўванне, укараненне павышанай адукацыі сярод рабочых і г. д.

Пры капіталістычным спосабе вытворчасці ўцягванне жанчын у вытворчы працэс з'яўляецца фактарам пагоршання становішча рабочых. Капіталіст, у якога галоўнай мэтай вытворчасці з'яўляецца атрыманне прыбытку, канкурэнцыю

жаночай працы выкарыстоўвае для зніжэння зарплаты ўсяго рабочага класа ў цэлым і жанчын асабліва. Пашыраная соцыялістычная рэпрадукцыя абумовіла ліквідацыю беспрацоўя ў СССР і ўключэнне жанчын у вытворчы працэс нароўні з мужчынамі, з роўнай зарплатай. Значыць уключэнне жанчын у вытворчы працэс паднімае жыццёвы ўзровень рабочай сям'і. Паводле даных кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку ў 1931 г. у прамысловасці СССР удзельнічала 28 проц. жанчын; у 1932 г. у цэнзавай прамысловасці БССР удзельнічала 38,7 проц. жанчын. Лік працуючых членаў сям'і, якая складаецца ў сярэднім з 4 чалавек, за 1928/1931 гг. вырас на 25,2 проц., што безумоўна паляпшае дабрабыт сям'і. Факт аграмаджання функцый хатняй працы дае магчымасць выкарыстання працы работнікаў на больш прадукцыйнай рабоце. Фабрыка - кухня, хлебазавод, механізаваная малочная ферма, механізаваная пральня, дзіцячыя яслі і сады, грамадская сталоўка—вось прадпасылка ўключэння ў вытворчасць жанчын, вось умова палепшання жыццёвага ўзроўню рабочай сям'і. Грамадскім харчаваннем ахоплена ў СССР 70 проц. рабочых вядучых галін прамысловасці, 50 проц. усіх рабочых і 40 проц. усяго гарадскога насельніцтва Саюза. Фізічны аб'ём грамадскага харчавання ленінградскага рабочага складае 13 проц. усяго яго харчавання. Яслямі ў 1932 г. у гарадах СССР ахоплена 38 проц. дзяцей гэтага ўзросту і 70 проц. дзяцей рабочых; у БССР маюцца 17.738 пастаянных коек і 58.683 сезонных коек у яслях; 123.649 дзяцей рабочых у БССР ахоплены дзіцячымі садамі і пляцоўкамі. Пашырэнне аграмаджання функцый хатняй працы садзейнічае перабудове быту рабочых, паляпшае становішча рабочых тым, што ўключае ў прыбытковы бюджэт рабочай сям'і новы заработак і вызваляе рабочага ад куплі раду прадметаў першай неабходнасці па рыначных цэнах, дае магчымасць падняць культурны ўзровень жанчыны, вызваляючы яе ад кухні.

У 1913 г. на 100 рабочых фабрычна-заводскай дзейнасці прыходзілася па 2 проц. дзіцячай працы і 9 проц. працы падлёткаў. Уключэнне дзяцей і падлёткаў у прадукцыйную працу пагаршала становішча пролетарыята ў цэлым, зніжала яго зарплату, асабліва дзяцей і падлёткаў, якія пры самай нізкай аплаце працавалі нароўні з дарослымі і эксплаатаваліся больш, чым дарослыя. У вытворчасці СССР дзіцячай працы няма і не можа быць, а падлёткі, якія ўключаны ў вытворчую дзейнасць, з'яўляюцца ў большай колькасці вучнямі ФЗВ. Так, у СССР 750 тыс. вучняў ФЗВ уключаны ў вытворчасць, 7,8 проц. падлёткаў, якія ўдзельнічаюць у фабрычна-заводскай дзейнасці, абумоўліваюць павышэнне кваліфікацыі і сярэдняга заработку рабочага; яны працуюць на прадпрыемстве скарочаны рабочы дзень.

Сярэдняя гадавая зарплата рабочых у 1932 г. вырасла ў параўнанні з 1928 г.—на 67 проц., а ў 1932 г. у БССР маем рост зарплаты ў параўнанні з 1925/26 г. на 273,4 проц.

У 1930 г. (па цэнах 1913 г.) гадзінная аплата рабочага складала 22,4 кап., у той час, як у 1913 г. рабочы атрымліваў толькі 11,8 кап. Паводле падлікаў т. Каца мы маем наступны рост асабістага спажывання ў СССР: калі 1913 г. мы возьмем за 100, то 1926 г. раўняецца 102,8 проц., 1927 г.— 110,0 проц., 1928 г.— 120,4 проц., 1929 г.— 124,1 проц., 1930 г.—128,2 проц. Паводле матэрыялаў, сабраных контррэволюцыянерам Пракаповічам, пецярбургская рабочая сям'я ў 1908 г. на харчаванне аднаго чалавека траціла 80 р. у год. Расходы на харчаванне аднаго рабочага Ленінграда (у цэнах 1913 г.) у 1931 г. складаюць 109 р. У 1930 г. расходы на вопратку (па цэнах 1913 г.) складаюць 32 р. 44 кап., у той час як у 1913 г. яны складалі 22 р. 44 к. Калі мы возьмем фізічны аб'ём спажывання да рэволюцыі і ў сучасны момант, то атрымаем наступную карціну:

| Прадукты | 1909 г. Маскоўская ф-ка (у кг у месяц) | 1931 г. Маскоўская вобл. без Масквы (у кг) | 1933 г.[1] фабр. „Пролетарка" (у кг) |
|---|---|---|---|
| Мука і хлеб у мучных адзінках . . . . . | 9,10 | 14,71 | 1,8 |
| Крупы . . . . . | 2,54 | 1,64 | 2,16 |
| Бульба . . . . . | 7,45 | 12,05 | 12,05 |
| Гароднiна . . . . | 2,25 | 5,61 | 9,7 |
| Мяса і сала . . . . | 1,03 | 1,90 | 3,8 |
| Рыба . . . . . | 0,16 | 1,39 | 3,0 |
| Масла (кароўе) . . . | 0,7 | 0,7 | 0,7 |
| Раслінны алей . . . | 0,82 | 0,13 | 0,2 |
| Цукар . . . . . . | 0,34 | 1,31 | 1,31 |

Такое-ж становішча наглядаецца ў БССР (па бюджэтнаму абследванню 167 сямействаў). Апрача гэтага ў даныя харчавання не ўключана грамадскае харчаванне, якое ахоплівае у БССР 68 проц. рабочых і павялічвае спажыванне рабочых яшчэ больш. Так у БССР у 1932 г. маюцца сталовых (акрамя самадзейных) 1127 са зваротам каля 86 мільёнаў руб., колькасцю блюд каля 195 мільёнаў. Таксама не ўваходзіць сюды спажыванне ў часе знаходжанняў у доме адпачынку, на курорце і г. д. Так у зачыненай рабочай сталоўцы ўдарнікі атрымліваюць у абед 120—150 гр мяса, 200 гр хлеба і г д.

Недастатковы рост спажывання мясных і малочных прадуктаў за паказаны 1931 г. аб'ясняецца шкодніцтвам ліквідаванага кулацтва. Недахват мясных прадуктаў кампенсуецца, як відаць, з табліцы, іншымі прадуктамі спажывання. Наогул па ўсіх прадуктах спажывання мы маем павелічэнне спажывання; маем у 1931 г. у параўнанні з 1928 г. рост

[1] Балоцін, „Пытанні забяспечання". Выд. Огиз, 1934 г.

сярэдняга падушнага спажывання рабочага класа па такіх прадуктах, як хлеб—на 16 проц., крупа—35 проц., гароднiна—201 проц., рыба—203 проц., цукар—25 проц., кандытарскія вырабы—115 проц. У 1933 годзе маем велізарнейшы рост спажывання мяса ў параўнанні з ранейшымі гадамі. Наша харчовая прамысловасць ператварылася з адсталага саматужнага промысла ў магутную індустрыю. Усяго за першую пяцігодку па асноўных галінах харчовай прамысловасці Наркамснаба пабудавана 553 прадпрыемствы, з іх 70 кансервных заводаў, 40 халадзільнікаў, 10 мясакамбінатаў, 15 беконных фабрык, 6 цукровых заводаў, 10 маслабойных заводаў, 1 крухмала-патачны камбінат, 11 крухмала-сушыльных заводаў, 15 яйка-птушкавых камбінатаў, 4 малочных заводы, 227 механізаваных масларобных і да т. п. заводаў, 7 маргарынавых заводаў, 7 кандытарскіх фабрык, 3 макаронныя фабрыкі, 32 фабрыкі-кухні, 22 садова-гародных перапрацоўваючыя камбінаты, 74 тралеры і 1 плывучы кітабойны завод, 1 саляны промысел, 7 камбікармовых заводаў.

У агульнай сістэме мерапрыемстваў па палепшанню становішча рабочага класа—соцыяльнае страхаванне займае віднае месца. Няма ні адной галіны ў жыцці савецкага рабочага, куды-б не пранікала соцыяльнае страхаванне, забеспячэнне інвалідаў працы і г. д. У адрозненне ад страхавання ў капіталістычных краінах, дзе яно кладзецца на плечы саміх рабочых, вылічаецца з зарплаты рабочых і служыць мэтай забяспечання мінімума ў часе беспрацоўя, соцыяльнае страхаванне ў Совецкім саюзе з'яўляецца адной з форм палепшання дабрабыта рабочых. Толькі ў СССР сапраўды ажыццяўляецца дзяржаўнае страхаванне рабочых, якое ахапляе 22 млн. чал. Бюджэт соцстраха ў 1932 г. складаў 3,5 млн. руб. пры адсутнасці ў нас беспрацоўя, значыць і расходаў на дапамогу беспрацоўным. У 1932 г. на кожнага застрахаванага прыходзілася 163 руб. 96 кап. у год асігнавання, толькі у 1932 г. у БССР на соцстрах зрасходвана 71 мільён руб.; удзельная вага соцстраха ў саюзным бюджэце складае 7,4 проц. Дапамогамі па страхаванні ахоплены не толькі часова непрацаздольныя, але і інваліды. Паводле матэрыялаў, сабраных тав. Баеўскім, сярэдні перыяд інваліднасці роўны прыблізна 10 гадам; у 1932 г. колькасць забяспечваемых інвалідаў складала 6,3 проц. застрахаваных. У сярэднім у бюджэце рабочага паступленне страхавых сум складае 12 проц. Толькі праз курорты, дамы адпачынку і мясцовыя санаторыі соцстраха ў 1932 г. прапушчана 1.471 тыс. чал., а ў БССР 20.000 чал.

Мерапрыемствы па аздараўленні рабочага насельніцтва не абмяжоўваюцца дзеяннем соцстраха. Дзяржаўная сістэма совецкай аховы здароўя з'яўляецца адной з умоў палепшання добрабыта рабочых.

У 1913 г. не было ні аднаго здраўпункта, у 1932 г. пры прадпрыемствах БССР ёсць 157 пунктаў. У гарадах БССР ёсць урачэбных амбулаторый 98, дыспансераў—37, дзіцячых

кансультацый—43, бальнічных коек—8,198, санаторый і дамоў адпачынку 36 і 46 лагераў юных піянераў. Бюджэт Наркамаховы здароўя ў агульным бюджэце Наркамфіна займае не апошняе месца. Аздараўленне ўмоў працы адбываецца пры дапамозе скарачэння рабочага дня да 7 гадзін у 83,7% прадпрыемстваў БССР і раду затрат на тэхніку бяспекі, якія штогод павялічваюцца. Калі ў 1913 г. сярэдні рабочы дзень складаў 9,6 гадзін, то ў 1932 г. у СССР 83 проц. рабочых пераведзена на 7-гадзінны рабочы дзень.

**Затраты на аздараўленне працы на 1 рабочага (у рублях)**

| | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. |
|---|---|---|---|---|
| Група „А" . . . . . | 18,7 | 28,1 | 32,1 | 46,7 |
| „ „Б" . . . . . | 14,8 | 22,5 | 15,9 | 19,1 |

Гэта абумовіла скарачэнне няшчасных выпадкаў. Так, няшчасных выпадкаў, працягласцю больш 4 тыдняў сярод аўстрыйскіх застрахаваных на кожныя 1000 чал. прыходзіцца 16, а ў СССР—9,6 выпадкаў.

У капіталістычных краінах зніжэнне жыццёвага ўзроўню рабочых адбываецца дзякуючы кватэрным умовам, дзе ў сярэднім рабочаму прыходзіцца траціць да 20 проц. сваёй зарплаты і жыць у антысанітарных умовах, па чардаках і сутарэннях без усякага комунальнага абслугоўвання, далёка ад трамвая, з жыллёвай плошчай да 1 куб. м на аднаго чалавека. Адваротнае мы маем у СССР, дзе не гледзячы на кватэрныя труднасці, мы маем пастаяннае палепшанне кватэрных умоў.

**Затраты на жыллёвае будаўніцтва (у млн. руб.)**

| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | Усяго за 4 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Затраты . . . . | 462 | 633 | 827 | 1698 | 3620 |
| Нанова пабудованая плошча ў млн. кв. м. . | 3,3 | 5,2 | 7,0 | 16,1 | 31,6 |

У БССР, пачынаючы з 1928 г. пабудавана дзяржавай і жыллёвай кааперацыяй жыллёвых будынкаў на 301 358 кв. м. Капітальныя ўкладанні ў камунальную гаспадарку БССР за 1929—1932 складаюць 66,4 мільёны руб.

**Развіццё камунальнай гаспадаркі БССР**

| | Трамвай | | Каналізацыя | | Лазні | | Пральні | | Аўто, якія абслуг. комгасы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кол. вагон. | Клм. | Кол. | Пад'ём вады у суткі | Кол. | Кол. пам. у гадз. | Кол. | Клг. бялізн. за 7 гадзін. | Колькасць |
| 1917 | 20 | 6.15 | 16 | 4,56 | — | — | — | — | — |
| 1932 | 57 | 43,44 | 29 | 47,95 | 136 | 9172 | 3 | 3016 | 45 |

Тав. Баеўскі падае параўнальныя цікавыя даныя становішча кватэрных умоў рабочых 1929 г. з кватэрнымі ўмовамі рабочых 1898 г.

**Процант сем'яў з плошчай кв. м на 1 ч.**

| Крыніца даных | Да 3-х кв. м. | Ад 3 да 4 кв. м. | Звыш 4 кв. м. |
|---|---|---|---|
| Абследванні па Уладзімірскай губ. 1898 г. . . . . | 65,5 | 28,4 | 6,1 |
| Профперапіс па Івана-Вазнесенскай вобл. 1929 г. . . | 19,6 | 15,8 | 64,60 |

За 6 год (1927—1932 г.) нанова пабудавана каля 60 млн. кв. м або 42 проц. плошчы, якая мелася ў гарадах у 1926 г. До 25 прац. рабочых маюць кватэры з жылплошчай у 8 кв. м. на аднаго чалавека. Па камунальнаму абслугоўванню рабочых мы стаім на непараўнаўча вышэйшым месцы ў параўнанні з буйнейшымі гарадамі Польшчы.

**Процант сем'яў рабочых, ахопленых галоўнымі відамі комунальнага абслугоўвання.**

| | Электра-газавае асвятленне | Вадаправод | Каналізацыя |
|---|---|---|---|
| Масква . . . . | 98,8 | 85,4 | 67,3 |
| Ленінград . . . | 79,8 | 90,8 | 87,3 |
| Варшава . . . . | 21,6 | 63,4 | 18,4 |
| Лодзь . . . | 17,2 | 19,2 | 3,3 |
| Дамброўскі р-н . . . | 35,7 | 9,0 | 0,0 |

(Па матэрыялах Баеўскага)

Перасяленне рабочых у цэнтр гарадоў, набліжэнне трамвайных ліній да рабочых раёнаў безумоўна паляпшае становішча рабочых. Рост культурнага ўзроўню рабочых, які паказаны намі ў пачатку артыкула, таксама павышае жыццёвы ўзровень пролетарыята. Увесь комплекс мерапрыемстваў па палепшанні добрабыта рабочых прыводзіць да змяншэння хвароб, смяротнасці рабочага насельніцтва. Так агульная смяротнасць за 1911—1913 гг. на 1000 чал. складала 31,5, а ў 1928 г. усяго 17,9 чал. На 1000 нованароджаных дзяцей за гады 1909—1910 маецца 260 смяротных выпадкаў у год, а ў 1928 г. усяго 167 выпадкаў, а ў БССР у 1931 г. усяго 80 выпадкаў. На 10.000 сухотных рабочых Ленінграда ад 20 да 59 год было смяротных выпадкаў у:

| | 1895—1904 г. | 1923 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Мужчын . . . | 73,1 | 41,5 | 21,0 |
| Жанчын . . . | 47,9 | 17,9 | 8,0 |

(Па матэрыялах Баеўскага

Цікава прасачыць параўнальныя даныя аб колькасці народжаных і памёршых у нас і ў капіталістычных краінах Еўропы. У 1913 г. у Расіі перавышэнне народжаных над памёршымі складала 2,3 млн., а ў СССР у 1930 г. 3 млн. У капіталістычных краінах Еўропы перавышэнне колькасці народжаных над памёршымі пала на 3,4 млн., у 1913 г. да 3 млн. („Правда").

**Сярэдне-гадавая смяротнасць насельніцтва Беларусі на 10.000 чалавек**

| Назва хвароб | 1922 г. | 1925 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|
| Эпідэмічныя хваробы . . | 61,9 | 20,6 | 9,1 |
| Інфекц. не эпідэм . . . | 34,6 | 22,3 | 17,0 |
| Хваробы органаў дыхання . | 36,1 | 26,8 | 19,1 |
| Хваробы органаў стрававання | — | 11,1 | 8,2 |
| Хваробы нованароджж. . . | 4,3 | 5,3 | 3,3 |

Нашы далейшыя задачы ў галіне палепшання жыццёвага ўзроўню рабочых і калгаснікаў больш грандыёзныя. Мы не павінны выходзіць з мінулага, дзе працоўным жылося непараўнальна горш, чым зараз; пры пастаноўцы партыяй задач аб жыццёвым узроўні мы павінны „выходзіць з растучых патрэбнасцей рабочых у сучасным" (Сталін).

Прыведзеныя лічбы аб росце пролетарыята СССР, аб росце яго актыўнасці і яго інтэрнацыяналізацыі, аб росце комуністычнай партыі, даныя аб соцыяльных зрухах у складзе насельніцтва, аб зрухах, якія адбыліся ў структуры самога пролетарыята, аб яго культурна-палітычным росце, аб сістэматычным узняцці жыццёвага ўзроўню пролетарыята гавораць аб тым, з якімі поспехамі, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і КП(б)Б Совецкая Беларусь ідзе да пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Б. Л. Бенцман

# Аб прадмеце эканомікі прамысловасці

## (Крытычныя заметкі)

Марксісцка-ленінская эканамічная тэорыя, як адзіная навуковая тэорыя, не задавальняецца і не можа задаволіцца толькі аб'ясненнем або апісаннем эканамічных з'яў. Апошняе—гэта лёс вульгарнай буржуазнай эканоміі ад пошлага Сея да сучаснага яе свяцілы Зомбарта. Сучасная буржуазная эканамічная тэорыя, як і соцыял-фашысцкая тэорыя, з'яўляецца нечуваным ашуканствам рабочага класа і замазваннем глыбока-антаганістычных працэсаў загніваючага капіталізма. Марксісцка-ленінская рэвалюцыйная эканамічная тэорыя, ускрываючая сутнасць грамадскіх адносін, заканамернасці іх руху і нязбежнасць гістарычных змен аднэй фармацыі другой, з'яўляецца мацнейшай зброяй у вялікай барацьбе пролетарыята за рэвалюцыйную перабудову свету, за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Вывучэнне эканомікі прамысловасці, таксама, як і канкрэтнай эканомікі іншых галін можа быць плодатворным толькі тады, калі яна будзе апірацца на марксісцка-ленінскую эканамічную тэорыю.

Неабходна таму коратка, перад тым як перайсці да крытыкі буржуазных і апартуністычных „тэорый", устанавіць тыя адпраўныя пункты, якія дае нам марксісцка-ленінская палітычная эканомія для вызначэння прадмета канкрэтнай эканомікі.

Марксісцка-ленінская палітычная эканомія ў шырокім сэнсе вывучае законы развіцця грамадскай вытворчасці і ў вузкім сэнсе—законы зараджэння, развіцця і гібелі капіталістычнага спосаба вытворчасці. Пад вытворчасцю Маркс разумее прысваенне індывідумам прадметаў прыроды ўнутры данай грамадскай формы і праз яе. Вытворчасць існуе заўсёды толькі як грамадская вытворчасць, як вытворчасць на данай гістарычнай ступені развіцця, якая разглядаецца Марксам канкрэтна—гістарычна. „Вытворчасць наогул, — кажа Маркс,—гэта абстракцыя, але абстракцыя, маючая сэнс, паколькі яна сапраўды выдзяляе агульнае, фіксуе яго і тым

пазбаўляе нас ад паўтарэнняў. Аднак гэтае агульнае і сходнае, выдзеленае шляхам параўнання, само з'яўляецца многакратна расчлененым і заключае ў сабе розныя азначэнні". Такім чынам „Азначэнні, якія сапраўдны наогул для вытворчасці павінны быць выдзелены іменна для таго, каб з-за адзінства, якое абумоўлена ўжо тым, што як суб'ект—чалавецтва, так і аб'ект—прырода з'яўляюцца тымі-ж самымі, не былі забыты істотныя адрозненні" (К. Маркс, „Уводзіны да крытыкі палітычнай эканоміі", стар. 53). Такім чынам Маркс абвяргае ўсю мудрасць сучасных эканамістаў, якая заключаецца ў забыцці канкрэтных, гістарычных адрозненняў і ў звядзенні грамадскага працэса вытворчасці да тэхнічнага працэса з тым, каб гістарычна-абмежаваны спосаб вытворчасці — капіталістычны, выдаць за натуральна-гістарычны. Возьмем, напрыклад, буржуазнага вучонага праф. Фойхта, ён, паўтараючы зады ранейшых буржуазных эканамістаў, піша: „Усякая гаспадарчая дзейнасць складаецца з паасобных дзеянняў, зместам якіх з'яўляецца дасягненне пэўнай мэты пры дапамозе адпавядаючых ёй сродкаў, або-ж ужыванне даных сродкаў для дасягнення адпавядаючай ім мэты. Як мэты, так і сродкі бываюць пры гэтым вельмі рознастайныя. У якасці *мэт* мы назавем адшуканне і выкарыстанне натуральных багаццяў, выраб прылад або машын. Перавозка чалавека з аднаго месца ў другое, перадача звестак ...сродкамі для гэтага служаць: асабістая рабочая сіла, духоўныя здольнасці, прыродныя сілы, уключаючы сюды і сілу жывёл, натуральныя і штучныя матэрыялы, апараты, машыны, розныя прылады" („Техническая экономика", стар. 7). Тут, як мы бачым, усё змешана ў адну кучу: грамадскі спосаб вытворчасці зводзіцца да тых ці іншых тэхнічных прыёмаў, вытворчыя адносіны выключаюцца з прадукцыйных сіл і апошнія існуюць па-за пэўнай соцыяльнай формай. Маркс-жа, наадварот, лічыць, што няма вытворчасці наогул, што існуе толькі пэўны даны спосаб вытворчасці і што таму вывучэнню падлягае іменна даны канкрэтны спосаб вытворчасці, калі мы не жадаем паўтараць старых ісцін, як, напрыклад, тое, што ніякая вытворчасць немагчыма без сродкаў працы і г. д. Значыць, „... калі гутарка ідзе аб вытворчасці, то заўсёды аб вытворчасці на пэўнай грамадскай ступені развіцця, аб вытворчасці індывідаў, якія жывуць у грамадстве" (К. Маркс, „Уводзіны да крытыкі палітычнай эканоміі"). Гэтага палажэння, якое ўказвае на гістарычны характар капіталістычнай вытворчасці, на няўхільнасць гібелі капіталістычнага спосаба вытворчасці і якое з'яўляецца азбучнай ісцінай марксізма, да гэтага часу ніяк не хочуць зразумець апалагеты капіталізма.

Грамадская вытворчасць існуе як вытворчасць, заснаваная на падзеле працы. Падзел працы ўласцівы яшчэ дакапіталістычнаму спосабу вытворчасці. У першабытнай абшчыне падзел працы ўзнікае не як грамадскі падзел працы, а ў сувязі з полавымі і ўзроставымі адрозненнямі індывідумаў. Пры ка-

піталізме грамадскі падзел працы заснаваны на таварным абмене і па сваім характары з'яўляецца анархічна стыхійным.

З пункту погляду арганізацыйна вытворчай структуры грамадскага працэса працы Маркс адрознівае агульны падзел працы, г. зн. падзел грамадскай вытворчасці на яе буйныя віды або галіны, як прамысловасць, землеробства і г. д. Прыватны падзел працы, г. зн. падзел працы ўнутры данай галіны вытворчасці, напрыклад, падзел прамысловасці на паасобныя галіны (здабываючая, апрацоўчая і г. д.) і, нарэшце, адзінкавы падзел працы, пад якім Маркс разумее падзел працы ўнутры данай майстэрні, фабрыкі і г. д. Такім чынам *кожная галіна вытворчасці прадстаўляе сабою частку ўсёй грамадскай вытворчасці, як цэлага.*

Адзінства грамадскага працэса вытворчасці абумоўліваецца тым, што *ўсім галінам* вытворчасці ўласцівы працэс працы ў яго агульных рысах, як „прысваенне індывідумам прадметаў прыроды ўнутры пэўнай грамадскай формы“ (Маркс, „Уводзіны да крытычнай эканоміі“, стар. 54). Даючы найбольш агульнае вызначэнне зместа працэса грамадскай вытворчасці ў не залежнасці ад тэй ці іншэй формы вытворчых адносін, Маркс, піша: „Простыя моманты працэса працы, наступныя:

1. мэтазгодная дзейнасць або самая праца,
2. прадмет, на які дзейнічае праца і
3. прылады, якімі ён дзейнічае“ (Маркс, „Капітал“, т. I, стар. 120).

У такіх агульных момантах працэс працы ўласцівы ўсім грамадска-эканамічным фармацыям і ў той-жа час ён з'яўляецца элементарнай прадпасылкай кожнай галіны вытворчасці.

Побач з падабенствам розных галін вытворчасці, іх розніца ў найбольш агульным відзе перш за ўсё заўсёды прадстаўляецца як розніца структурных суадносін простых момантаў працэса працы ўнутры данай галіны вытворчасці. У розніцы адпаведных суадносін паміж простымі момантамі ў працэсе працы ў адных галінах грамадскай вытворчасці ад другіх яе галін і па ўдзельнай вазе паасобных момантаў у працэсе канкрэтнай працы

Гэтыя адрозненні механістамі, якія даследваюць толькі паверхоўнасць з'яў, зводзяцца да тэхнічных адрозненняў, але яны па самаму свайму зместу соцыяльныя. Гэтыя адрозненні прадстаўляюць сабой адрозненні прадукцыйных сіл і ў прыватнасці тэхнікі адной галіны ад другой. Але прадукцыйныя сілы данай галіны ёсць вынік агульнага стану грамадскіх прадукцыйных сіл, якія знаходзяць сабе форму руху і развіваюцца іменна ў даным грамадстве, з яе сукупным працэсам вытворчасці, які развіваецца па пэўных законах, уласцівых данаму грамадству. Такім чынам, прадукцыйныя сілы соцыяльна абумоўлены. Кожная грамадская эканамічная фармацыя базуецца на пэўных прадукцыйных сілах, як

асновы грамадска-эканамічнага і палітычнага развіцця (тэхніка стварае адзін бок прадукцыйных сіл, значэнне якога аднак вельмі celaorэ для розных грамадстваў). Вытворчыя адносіны, вызначаемыя прадукцыйнымі сіламі, як форма развіцця апошніх, абумоўліваюць і напрамак і характар развіцця прадукцыйных сіл, і выражаюць іх праз адпаведную грамадска-эканамічную форму.

У капіталізме важнейшыя вядучыя перадавыя прадукцыйныя сілы канцэнтруюцца ў прамысловасці. У працэсе няроўнамернага развіцця прамысловасць развівае больш высокую грамадскую прадукцыйную сілу працы, узводзячы на больш высокую ступень усю грамадскую тэхніку. Разам з гэтым земляробства ў сусветным маштабе асуджаецца на адставанне. У той-жа час капіталізм кладзе эканамічны, класавы штамп на прадукцыйныя сілы, выражаючы іх праз капітал. Адзіныя грамадскія прадукцыйныя сілы капіталізмам раздвайваюцца на дзве часткі капітала супроцьстаячых адна адной. Пастаянны капітал, які толькі і мае сэнс для капіталістаў таму, што яму стала супроцьстаіць рабочая сіла, заўсёды гатовая, вымушаная прыняць форму зменнага капітала.

Розніца паміж галінамі капіталістычнай вытворчасці прымае форму адрознення ў структуры капітала, у адносінах пастаяннага і асноўнага капітала да пераменнага або ў арганічнай і тэхнічнай яго пабудове. Больш высокая развітая капіталістычная галіна выражае сваю перавагу ў капіталізме на мове больш высокай структуры капітала. Галоўныя ўчасткі капіталізма канцэнтруюць у сабе каласальныя прадукцыйныя сілы, высока развітую тэхніку і надзвычайна масіўны пастаянны капітал.

Кожная галіна вытворчасці можа існаваць толькі ў рамках данага канкрэтна-гістарычнага спосаба вытворчасці і, як такавая, кожная галіна вытворчасці мае паасобныя функцыі. Прамысловасць прадстаўляе сабою пэўную галіну вытворчасці, частку сукупнай вытворчасці, значэнне якой ва ўсёй сістэме вытворчасці рознае, у залежнасці ад таго, на якой ступені грамадска-гістарычнага развіцця знаходзіцца грамадства і яго вытворчасць.

Як частка грамадскай вытворчасці, кожная галіна дынамічна носіць у сабе законамернасці ўсёй грамадскай вытворчасці. Адначасова кожная галіна вытворчасці адрозніваецца ад вытворчасці ў цэлым тым, што грамадскія прадукцыйныя сілы тут прымаюць асобую форму выражэння і ім адпавядае спецыфічна-канкрэтны характар вытворчых адносін, якія згрупоўваюцца ў кожнай асобнай галіне вытворчасці, дзе яны робяцца рычагамі развіцця прадукцыйных сіл. Законы, устаноўленыя ў палітычнай эканоміі, як агульныя, ствараюць агульны змест вывучэння асобных галін вытворчасці, і такім чынам вывучэнне асобнай галіны вытворчасці з'яўляецца перш за ўсё канкрэтызацыяй і развіццём гэтых агульных законаў. З другога боку, кожная па-

асобная галіна вытворчасці характарызуецца асобнымі законамернасцямі, якія вынікаюць з канкрэтнай формы існавання і развіцця данай галіны ва ўсёй сістэме народнай гаспадаркі (вытворчасці) і якія цалкам падпарадкаваны агульным законам грамадскага способа вытворчасці і вызначаюцца ў кожнай грамадскай эканамічнай фармацыі яе вядучай галіной. „Кожная форма грамадства мае пэўную галіну, маючую перавагу над другімі, умовы якой таму вызначаюць месца і ўплыў усіх іншых“ (Маркс).

У пісьме да Шмідта Энгельс пісаў: „Як толькі гандаль прадуктамі адасабляецца ад вытворчасці ва ўласным сэнсе, ён ідзе сваім уласным рухам, над якім у агульным і цэлым пануе вытворчасць, але ў асобных выпадках і ўнутры гэтай агульнай залежнасці ён, гандаль, усё-ж ідзе сваімі ўласнымі законамі, якія ўласцівы прыродзе гэтага новага фактара. У гэтага руху (гандлю) ёсць свае ўласныя фазы і ў сваю чаргу ён робіць адваротны ўплыў на рух вытворчасці“ (Маркс, Энгельс, Письма, стар. 307).

Адсюль вынікае, што эканоміка пэўнай галіны вытворчасці, якая выдзелілася з усёй сукупнай вытворчасці, павінна займацца не толькі вывучэннем канкрэтных форм выражэння агульных законаў палітычнай эканоміі ў данай галіне, але і вывучэннем эканамічных законамернасцей, якія развіваюцца толькі ў данай галіне. Спробы-ж звесці так званыя канкрэтныя эканоміі да простага дадатку да палітычнай эканоміі сумы канкрэтных фактаў—выходзяць з меншавіцка-ідэалістычнай метадалогіі і прыводзяць да адрыву тэорыі ад практыкі і іх механістычнага супраціўлення адзін аднаму. Такая метадалогія скажае сутнасць Марксавай эканамічнай тэорыі.

Гэтай метадалогіі прытрымліваліся ў нас цэлы рад эканамістаў, пісаўшых аб прадмеце эканомікі прамысловасці. Крытыка гэтай метадалогіі дана паміж іншым у вучэбніку Інстытута эканомікі КА пад рэд. Хмяльніцкай—„Эканоміка соц. прамысловасці“ і мы тут на гэтым застанаўлівацца не будзем. Мы мусім тут бегла застанавіцца над адным артыкулам т. Хмельніцкай, які яшчэ і зараз рэкамендуецца як навучальны дапаможнік у нашых ВНУ і які зусім не раскрытыкаваны ні аўтарам, ні другімі тт., і ў якім, нарэшце, сканцэнтраваны памылкі меншавіцкага парадку ў пытанні прадмета эканомікі прамысловасці, тым больш, што гэты артыкул мае многаабяцаючы загаловак.[1]

Не адрозніваючы абстракцыю дыялектычную ад фармальна-лагічнай, адрываючы логіку ад гісторыі, абстрактна-тэарэтычны аналіз ад канкрэтна-гістарычнага, т. Хмяльніцкая зводзіць марксаву палітычную эканомію да абстрактных фармальна-лагічных законаў, і таму задачай спецыяльных эканомік, па яе думцы з'яўляецца напаўненне канкрэтнымі фактамі „абстрактных законаў“, устаноўленых Марксам у „Капітале“. Такой пастаноўкай пытання самі спецыяльныя

[1] „Марксава тэарэтычная эканомія і спецыяльныя эканамічныя навукі“.

эканомікі трацяць усю сваю самастойнасць, вынікаючую з асобнай формы руху данай галіны, як кажа Энгельс, а займаюцца толькі апісаннем „асаблівасці праяўлення ўсеагульных законаў“ (Хмяльніцкая).

На базе такой „метадалогіі“ аўтар зводзіць эканомію прамысловасці, як і іншыя галіны эканомікі, у „навуку“ апісальную, пазбаўленую тэарэтычнага значэння. „Месца яго (тэарэтычнага аналізу—Б.) займае *канкрэтнае апісанне* не ў парадку хаатычнага награмаджэння фактаў, якімі займалася гістарычная школа, а на аснове ўстаноўленых Марксам абстрактна-тэарэтычных законаў“ („Праблема эканомікі“, № 1, стар. 52, 1929 г.). Паводле гэтага вызначэння Хмяльніцкай выходзіць, што задачай канкрэтных эканомік з'яўляецца—папоўніць марксаву тэарэтычную эканомію цэлым радам канкрэтных прыкладаў і апісаннем цэлага раду канкрэтных фактаў. Такое вызначэнне прадмета не мае нічога агульнага з марксізмам, а яно цалкам прымыкае да рубіншчыны, разрывае факты і навуку, тэорыю і практыку, раскладае іх па палічках. У марксавай тэарэтычнай эканоміі—тэорыя, а ў нас у канкрэтнай эканоміцы—факты і практыка. Таму „прадмет сацыяльнай эканамічнай навукі, які прысвечаны асобнай галіне народнай гаспадаркі, не толькі больш чым прадмет тэарэтычнай эканоміі, але і *якасна* адрозніваецца ад апошняга“ (там-жа, стар. 52).

Такім чынам, мы тут маем закончанае процістаўленне канкрэтнай эканомікі—навукі, якая апісвае факты,—марксавай тэарэтычнай эканоміі, якой выхалашчваецца ўвесь багацейшы рознастайны змест падобна да кастрыраванай буржуазнай палітэканоміі. Канкрэтныя эканомікі ствараюць новую якасць эканамічных навук, якія, па думцы Хмяльніцкай, робяць вывады, якія карэнным чынам супярэчаць вывадам марксавай тэарэтычнай эканоміі. Калі з марксавай тэарэтычнай эканоміі лагічна выцякае адмаўленне асобных законаў у адносінах да асобных галін гаспадаркі, то і характар тых вывадаў, якія з'яўляюцца рэзультатам даследвання спецыяльных эканамічных навук, карэнным чынам адрозніваецца ад вывадаў і пабудовы тэарэтычнай эканоміі“ (там-жа, стар. 50). Адсюль вынікаюць два палажэнні: папершае, што нібы марксісцка-ленінская палітычная эканомія адмаўляе спецыфічныя законамернасці ў адносінах да пэўных галін народнай гаспадаркі, падругое, што гэтыя асобныя законы карэнным чынам супярэчаць законам і вывадам марксісцка-ленінскай палітычнай эканоміі. Для кожнага марксіста зразумела, што і тое і другое ні ў якім разе не адпавядае сапраўднасці. Што датычыцца адмаўлення асобных законамернасцей у адносінах да пэўных галін грамадскай вытворчасці, то сам Маркс не толькі ўстанавіў, але і даў ім поўны аналіз у „Капітале“ ды іншых сваіх працах. Гэтыя законамернасці не толькі не супярэчаць у корані асноўным законам капіталістычнай вытворчасці, а, наадварот, толькі на іх аснове могуць развівацца.

Яшчэ больш няправільным, недарэчным з'яўляецца другое палажэнне. Як вядома, асноўны вывад марксавай палітычнай эканоміі заключаецца ў няўхільнасці рэволюцыйнага крушэння капіталістычнага спосаба вытворчасці. Паводле-ж Хмяльніцкай выходзіць, што вывады прыкладных эканомік ад гэтага ў корані адрозніваюцца. Будучы рэдактарам нядрэнага вучэбніка па экономіцы сац. прам-ці і самым актыўным яго сааўтарам, т. Хмяльніцкая выправіла свае памылкі, парвала з буржуазнай, меншавіцкай метадалогіяй у галіне эканомікі прамысловасці, раскрытыкаваўшы свае ранейшыя работы, і ў прыватнасці хрэстаматыю па эканоміцы прамысловасці, напісанную ёю сумесна з т. Леонцьевым.

Асколкі буржуазных эканамістаў на совецкай зямлі асабліва стараліся ў галіне эканоміі прамысловасці. Гэтаму дапамагала і тое, што эканамісты-марксісты занадта захапіліся бясплоднай дыскусіяй з Рубіным, тым самым аслабіўшы эканамічны фронт на ўчастку канкрэтных эканомік. Характэрным для іх пісанняў у гэтай галіне з'яўляецца тое, што з аднаго боку, яны ўсе тэарэтычныя метадалагічныя ўстаноўкі чэрпаюць з тошчай буржуазнай палітэканоміі, а з другога боку, адмаўляюць неабходнасць самой эканамічнай тэорыі, прапануючы ўзамен спецыяльныя эканомікі і ў прыватнасці эканомію прамысловасці.

„Палітычная эканомія,—піша Гінзбург,—абстрактная навука". Яна ахапляе асноўныя законы, кіруючыя дзейнасцю чалавека, адхіляючыся ад жывой шматлікасці і густа сплеценай індывідуальнасці паасобных з'яў. Яна ўздымаецца высока над бягучымі эканамічнымі пытаннямі, каб тым самым шырэй *аглядзець* усю панараму гістарычнай барацьбы чалавека за існаванне..." („Эканоміка прамысловасці", ч. І, стар. 6).

Карыстаючыся неакантыянцкім метадам Рыкерта-Віндэльбланда, Гінзбург ператварае палітычную эканомію Маркса ў абстрактную беззмястоўную навуку, пазбаўляючы яе ўсякага рэволюцыйнага класавага зместа і пакідаючы за ёю толькі права „*аглядзець* усю панараму гістарычнай барацьбы чалавека за існаванне".

Лічачы, што эканоміка прамысловасці ў процілегласць палітэканоміі вывучае канкрэтныя факты, тое, што відаць на паверхні з'яў, паслядоўна вульгарнай школы Гінзбург, як сапраўдны прыказчык буржуазіі, гатоў афяраваць „чыстую навуку", каб без лішніх галаваломак заняткамі па палітычнай эканоміі навучыць сваіх гаспадароў выкачваць дадатковую вартасць. Ён спачувальна цытуе аднаго французскага аўтара, які піша, што „кнігі па палітычнай эканоміі... не задавальняюць маладых людзей, жадаючых працаваць у галіне прамысловасці, але веданне законаў прамысловасці неабходна і для іх". Таму Гінзбург прама заклікае да таго, каб дзюрынгаўскімі ісцінамі ў апошняй інстанцыі, якія прапануюцца буржуазнай эканоміяй прамысловасці, замяніць палітычную эканомію, ставячы перад сабою мэту—вырваць з рук нашых эканамістаў вастрэйшую зброю—маркса-ленін-

скую палітычную эканомію, проціпаставіўшы ёй шкодніцкую эканомію прамысловасці. „У параўнанні з палітычнай эканоміяй, эканомія прамысловасці,—піша ён,—канкрэтная, апісальная, прыкладная навука... Вось чаму гэтая навука неабходна ўсім, хто імкнецца да працы на ніве народнай гаспадаркі“ („Эканомія прамысловасці“, ч. I, стар. 6). У гэтым сваім вызначэнні, апрача шкодніцкага закліку да ліквідацыі палітычнай эканоміі, ён, папершае, ператварае эканомію прамысловасці з навукі ў рэцэптуру, у чыста дзяляцкі дапаможнік, адарваны ад агульнай эканамічнай тэорыі, у рэкамендацыйны спіс карысных парад для капіталістаў, прамыслоўцаў, які павінен даць „суму канкрэтных прамысловых ведаў, асваенне якіх неабходна ўсякаму практычнаму працаўніку прамысловасці, абслугоўваючаму яе эканоміку“ (Гінзбург, „Очерки промышленной экономии“, стар. 24). Падругое, тут фігуруе, як і ўсюды, эканомія прамысловасці наогул, незалежна ад грамадска-гістарычнай фармацыі і атожсамлена капіталістычная і ўсякая іншая прамысловасць.

Найбольш рэльефна імкненне буржуазных эканамістаў пабудаваць надгістарычную, надкласавую эканоміку прамысловасці знаходзіць сваё выражэнне ў звядзенні эканомікі прамысловасці да так званай навукі аб прадпрыемстве. Атожсамліванне прадпрыемства і прамысловасці прадстаўляе сабой найбольш выгадныя апалагетычныя пазіцыі змазвання класавай сутнасці вытворчых адносін у капіталістычнай прамысловасці. Эканомія прамысловасці, зведзеная да вучэння аб прадпрыемстве, павінна, па думцы вядомага нямецкага праф. Шмаленбаха, навучыць нас „уменню кіравання прадпрыемствам“. На словах спрачаючыся з Шмаленбахам, Гінзбург на справе імкнецца перанесці гэтую шкодную метадалогію на вывучэнне нашай прамысловасці. „Вывучаць эканоміку прамысловасці,—піша ён,—значыць вывучаць эканоміку прадпрыемства і сістэму грамадска-гаспадарчых сувязей, якія да яго прыцягваюцца. Формы прамысловасці існуюць толькі як формы *арганізацыі* (курсіў наш) прадпрыемстваў“ („Очерки промышленной экономики“, стар. 17). Атожсаміўшы прамысловасць і прадпрыемства, формы прамысловасці і формы прадпрыемства, гэты шкоднік зводзіць навуку аб прамысловасці да навукі аб арганізацыі прадпрыемстваў. Тое-ж самае, але больш проста робіць і другі шкоднік Бернштэйн-Коган, які ў прадмове да „Уводзін у эканомію прамысловасці“ кажа, што выходным пунктам яго даследвання з'яўляецца арганізацыйна-тэхнічнае вучэнне нямецкіх эканамістаў аб прадпрыемстве. Наўрад ці патрэбна даводзіць усю безгрунтоўнасць гэтай буржуазнай метадалогіі. Зусім зразумела, што прамысловае прадпрыемства нельга сабе ўявіць адасобнена, якое развіваецца выключна па ўласцівых яму законах. Прадпрыемства не прадстаўляе сабою закончанага эканамічнага адзінства, яно толькі таму і можа быць прадпрыемствам, існаваць ва ўсёй сістэме грамадскай вытворчасці, што яно нясе пэўныя функцыі ў гра-

мадскай вытворчасці. Не можа быць прадпрыемства наогул, таксама як няма прамысловасці наогул і вытворчасці наогул.

Законы грамадскай вытворчасці ствараюць аснову функцыянаваная прадпрыемства, яго дзейнасці. Таму зразумець прыроду прамысловага прадпрыемства можна толькі на аснове зразумення тых глыбокіх унутраных сувязей, якія існуюць паміж прадпрыемствам, прамысловасцю і ўсёй народнай гаспадаркай. Зразумець унутраныя законамернасці прадпрыемства значыць, між іншым, зразумець выражэнне існуючых адносін данага спосаба вытворчасці ў прадрыемстве. Што-ж пасля ўсяго сказанага застаецца ад прадпрыемства, узятага ізалявана, па-за яго рознастайнымі, соцыяльнымі, эканамічнымі і тэхнічнымі сувязямі ў працэсе грамадскай вытворчасці? На такім прадпрыемстве застаюцца толькі тыя агульныя рысы, якія характарызуюць прадпрыемства наогул, і якія маюць сэнс у навуковым аналізе толькі настолькі, паколькі яны пазбаўляюць нас ад паўтарэння, але абмяжоўваючыся якімі ні ў якім разе нельга аналізаваць ніводнага канкрэтнага прадпрыемства. Буржуазныя эканамісты, імкнуцца вывучаць эканоміку прадпрыемства само па сабе адарвана ад усёй капіталістычнай сістэмы. Яны штучна выгараджваюць прадпрыемства з надзвычайна складанага клубка супярэчнасцей, характарызуючых як капіталістычную прамысловасць, так і прадпрыемства ў сістэме капіталізма, вырашэнне якіх таксама немагчыма для буржуазна-эканамічнай навукі, як буржуазнай дыпламатыі і палітыцы немагчыма вырашыць пытання аб усеагульным раззброенні.

У капіталістычным прадпрыемстве буржуазныя эканамісты імкнуцца атожсаміць законы эканамічныя, вытворчыя адносіны і законы тэхнічныя і тым самым змазаць, скрыць антаганістычныя адносіны ў капіталістычным прадпрыемстве, падмяніць эканамічныя класавыя законамернасці законамі тэхнічнымі і перанесці супярэчнасці капіталістычнай фабрыкі спецыфічна-капіталістычнага парадку да супярэчнасці паміж чалавекам і прыродай.

Выкрываючы няправільнасць буржуазнага вучэння аб прадпрыемстве мы адначасова павінны не забываць, што вывучэнне эканомікі прадпрыемства стварае момант у вучэнні аб соцыялістычнай прамысловасці і, што вывучэнне эканомікі прамысловага прадрыемства ў сістэме прамысловай эканомікі павінна не толькі паказаць формы прадпрыемства, але і ўнутраную структуру яго, законамернасці ўнутранага яго функцыянавання. Іменна ў прамысловым прадпрыемстве паслядоўна соцыялістычнага тыпу найбольш выразна ўскрываюцца перавагі сістэмы нашай прамысловасці. Ускрываюцца новыя якасці прамысловага прадпрыемства, якія характарызуюць нашы прадпрыемствы паслядоўна соцыялістычнага тыпу ў адрозненне ад прадпрыемства капіталістычнага. Глыбокае адрозненне вытворчых адносін у нашым прадпрыемстве і капіталістычным заключаецца між

іншым у характары адносін да працы, „комуністычных метадаў працы“ (Сталін), існуючых на нашым прадпрыемстве. Гэтае адрозненне далей заключаецца ў характары суадносін паміж прадпрыемствам і ўсёй прамысловасцю і народнай гаспадаркай. Нашы прадпрыемствы развіваюцца ў адпаведнасці з усёй прамысловасцю і народна-гаспадарчым планам, між тым, як капіталістычнае прадпрыемства існуе, наадварот, у антаганізме з усёй прамысловасцю, з усімі іншымі капіталістычнымі прадпрыемствамі і з ўсёй народнай гаспадаркай. Канкрэтныя эканомікі, вывучаючы асобныя галіны грамадскай вытворчасці, займаюцца вывучэннем развіцця грамадскай тэхнікі ў данай галіне вытворчасці. Агульныя законамернасці тэхнічнага развіцця вывучаюцца палітычнай эканоміяй. У гэтым агульным дано найбольш істотнае для кожнай галіны. Аднак, адрозненне розных галін па структуры прадукцыйных сіл, спецыфічна-канкрэтны характар вытворчых адносін у паасобных галінах грамадскай вытворчасці, з'яўляецца тым фонам, на якім вырысоўваюцца розныя ўзроўні, характар і тэмпы развіцця тэхнікі. Асабліва значную ролю адыгрывае вывучэнне тэхнікі ў эканоміцы прамысловасці, бо прамысловасць як у капіталізме, так і ў пераходнай эканоміцы, канцэнтруе ў сабе важнейшыя, вядучыя, перадавыя прадукцыйныя сілы.[1] Таму эканоміка прамысловасці больш дэталёва займаецца вывучэннем тэхнікі прамысловасці. Але-ж вывучэнне тэхнікі ў эканоміцы прамысловасці мае месца не для таго, каб замяніць эканоміку прамысловасці яе тэхналогіяй. Эканоміка прамысловасці з'яўляецца эканамічнай навукай, вывучае тэхніку праз эканамічныя крытэры.

Нямецкі буржуазны эканаміст праф. Шмаленбах піша, што эканомія прамысловасці, па сваім духу больш набліжаецца да хімічнай і механічнай тэхналогіі, чым да навукі аб народнай гаспадарцы. Гэтым самым паважаны прафесар імкнецца замазаць класавую сутнасць супярэчнасцей капіталістычнай прамысловасці, прадставіўшы іх, як, незалежныя ад капіталістычнай гаспадаркі, тэхнічныя законы. Гэты манеўр прымяняецца зараз рознымі буржуазнымі і соцыялфашысцкімі „тэарэтыкамі“, якія ўзвальваюць віну за крызіс, нечуванае беспрацоўе і галечу дзесяткаў мільёнаў працоўных на неабузданую тэхніку. Зразумела, што наўрад ці многія паверацъ такой казцы, але-ж характэрным з'яўляецца тое, што сама буржуазія і яе ідэалогія пачынаюць адчуваць найвялікшыя супярэчнасці паміж прадукцыйнымі сіламі

[1] Нельга за гэтым агульным момантам забываць розніцу паміж капіталістычнай і паслядоўна-соцыялістычнай прамысловасцю, якая заключаецца ў тым, што капіталістычная прамысловасць на працягу свайго развіцця усё больш адрываецца і процістаўляецца другім галінам, як, напрыклад, сельскай гаспадарцы, абумоўліваючы гэтым іх адставанне, між тым, як развіццё нашай прамысловасці накіравана на соцыялістычны ўздым і рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі, на ліквідацыю адставання сельскай гаспадаркі.

і вытворчымі адносінамі, формай выражэння чаго з'яўляецца супярэчнасць паміж тэхнікай і эканомікай. Імкнучыся натуралізаваць социяльныя з'явы, буржуазныя эканамісты разглядаюць нават грамадскі падзел працы не як працэс социяльнаэканамічны, а тэхнічны. Так, напрыклад, Бернштэйн-Коган піша: „Падставай выдзялення прамысловасці ў спецыяльнасць, ці прафесію, з'яўляецца яе *тэхнічнае* выдзяленне з комплекса гаспадарчай дзейнасці, у чым і заключаецца яе асноўная супярэчнасць у сельскай гаспадарцы"... (Б.-Коган, „Введение в экономию промышленности", стар. 8).

Гэтая формула аднолькава выгадна як для апалагетавання капіталізма, так і для шкодніцтва социялізма. Па гэтай формуле выходзіць, што спецыфічна-капіталістычная супроцьлегласць паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай з'яўляецца агульна-чалавечай, вынікаючай з самага характара падзелу працы, дзякуючы неаднолькавасці іх тэхнікі. Справа-ж абстаіць якраз наадварот. Уласцівы капіталізму анархічны падзел працы абумоўлівае няроўнамернасць развіцця паміж прамысловасцю і земляробствам, заскакванне прамысловасці наперад і адставанне земляробства.

Само адрозніванне ўзроўню прадукцыйных сіл і тэхнікі, як яе часткі ў розных галінах вытворчасці і выбуханне прамысловасці на фоне адставання другіх галін (сельскай гаспадаркі) ёсць форма выражэння вытворчых адносін капіталістычнага спосаба вытворчасці. Таму, самі тэхнічныя адрозніванні прадстаўляюць сабою толькі момант больш глыбокіх эканамічных розніц паміж паасобнымі галінамі грамадскай вытворчасці і знаходзяць сваё выражэнне ў эканамічных катэгорыях. Напрыклад, тэхнічныя розніцы ў капіталістычнай вытворчасці праяўляюцца ў няроўнамернай арганічнай і тэхнічнай структуры капітала. Таму зразумець тэндэнцыі тэхнічнага развіцця можна толькі праз законы эканомікі.

Пад славесную шуміху аб соцыяльнасці эканоміі прамысловасці, Гінзбург, на самой справе, таксама як і Шмаленбах, лічыць эканомію прамысловасці навукай арганізацыйна-тэхнічнай. „Эканомія прамысловасці, — піша ён, — не можа забываць соцыяльную функцыю рабочага, прадпрыемцы, або тэхнічнага персанала, але мэтай яе даследвання з'яўляецца не пазнанне соцыяльнай сутнасці ўзаемаадносін, а вывучэнне тых канкрэтных метадаў, з дапамогай якіх ажыццяўляюцца вытворчыя задачы той сукупнасці асоб, якая стварае сабою прадпрыемствы, як гаспадарчы арганізм" (Гинзбуг, „Очерки промышленной экономики"). Адкінуўшы „арыгінальнае" азначэнне прадпрыемства, як сукупнасці асоб, мы бачым, што ўся задача эканоміі прамысловасці зводзіцца да вывучэння канкрэтных прыёмаў работы і рознага роду функцый, а іменна функцый прадпрыемцы, тэхнічнага персанала і рабочага, якія вынікаюць з тэхналагічнага працэса. Гінзбург забыў, напрыклад, такую „дробязь", што гэтыя функцыі з'яўляюцца функцыямі класавымі, аб

чым сведчаць шкодніцкія функцыі Гінзбурга і да яго падобных у савецкай соцыялістычнай прамысловасці. Трэба адзначыць, што ў гэтых перапевах Шмаленбаха для нашай прамысловасці, праследуецца шкодніцкая мэта разбраення нашай прамысловасці ад тых пераважнасцей, якія заключаюцца ў соцыялістычных вытворчых адносінах, пануючых у нашай прамысловасці.

Савецкая соцыялістычная прамысловасць нараджаецца на базе, створанай развіццём капіталістычнай прамысловасці. Развіццё савецкай прамысловасці адначасова азначае рэволюцыйную перабудову яе капіталістычнай матэрыяльнай асновы і стварэнне прамысловасці соцыялістычнай па форме і зместу.

Супярэчнасць паміж соцыялістычнымі вытворчымі адносінамі і неадэкватным ім матэрыяльна-тэхнічным характарам і ўзроўнем нашай прамысловасці з'яўляецца супярэчнасцю нашай прамысловасці. Але гэтая супярэчнасць выражае сабою соцыялістычны рост і перабудову нашай прамысловасці.

Соцыялістычная прамысловасць займае вядучую і пераважную ролю ва ўсёй сістэме народнай гаспадаркі, з'яўляючыся галіной, якая ў соцыялістычным падзеле працы кіруе ўсімі іншымі галінамі. Яна ў сваім развіцці накіроўваецца партыяй на чале з т. Сталіным на знішчэнне капіталістычных супярэчнасцей, ліквідацыю супроцьлегласці паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, горадам і вёскай і г. д.

Паслядоўна-соцыялістычная прамысловасць рэволюцыйна перарабляе ўсе астатнія галіны народнай гаспадаркі. Развіццё буйнай машыннай індустрыі адначасова азначае ўкараненне дасягненняў нашай машыннай індустрыі ў іншыя галіны народнай гаспадаркі, асабліва сельскай, пашыранае аднаўленне соцыялістычных вытворчых адносін.

Наша прамысловасць на аснове генеральнай лініі партыі стварыла ўласную машынабудаўнічую базу з навейшай тэхнікай. З укараненнем электрыфікацыі амаль на 0,9% нашага машынабудаўніцтва базуецца на індывідуальным электрычным прыводзе. Тым самым створан адэкватны тэхнічны базіс для соцыялістычнай прамысловасці і ўмовы стварэння адпаведна тэхнічнага базіса для ўсёй народнай гаспадаркі. Развіццё нашай прамысловасці, асабліва машынабудаўніцтва і ў прыватнасці сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва, з'явілася важнейшай асновай калектывізацыі, а тым самым і вырашэнне ленінскага пытання „хто—каго". На аснове генеральнай лініі партыі развіццё нашай соцыялістычнай прамысловасці забяспечыла паспяховае ператварэнне „СССР з краіны аграрнай і немагутнай, залежнай ад капрызаў капіталістычных краін у краіну індустрыяльную і магутную, поўнасцю самастойную і незалежную ад капрызаў сусветнага капіталізма" (Сталін).

Велізарнейшыя поспехі на гэтым шляху мае і прамысловасць БССР, якая насуперак шкоднікам і апартуністам розных нацыянальных масцей, на аснове правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, ператварылася ў адну з перадавых рэспублік соцыялістычнага Совецкага саюза. Развіццё соцыялістычнай прамысловасці з'явілася магутным рычагом выцяснення да канца капіталістычных элементаў з іх эканамічных пазіцый.

Развіццё нашай прамысловасці з'явілася магутным фактарам узмацнення абараназдольнасці нашай краіны. Наша соцыялістычная прамысловасць з'яўляецца адзінай прамысловасцю, якая развіваецца і з кожным днём усё больш і больш мацнее. У той-жа час, капіталістычная прамысловасць знаходзіцца ў нябачаным крызісе і ўсё больш і больш падрывае свае ўстоі. Вывучэнне ўсякай праблемы нашай прамысловасці з'яўляецца вывучэннем моцна квітнеючага, нечувана хутка растучага і магутнага індустрыяльнага арганізма совецкай соцыялістычнай эканомікі. Вывучэнне-ж усякай праблемы капіталістычнай прамысловасці аддае трупным пахам загніваючага капіталізма і яго індустрыяльнага асяроддзя.

Вывучэнне эканоміі нашай прамысловасці паслядоўнасоцыялістычнага тыпу павінна весціся з пункту погляду вялікіх пераважнасцей нашых соцыялістычных вытворчых адносін, выражаемых эканомпалітыкай дыктатуры пралетарыята, у генеральнай лініі партыі, што з'яўляецца магутным фактарам пераважнасцей прамысловасці, нашай сістэмы перад сістэмай капіталістычнай. Таму асабліва небяспечна перанясенне сюды буржуазна-шкодніцкіх механістычных канцэпцый. Аднак, трэба сказаць, што корані апошніх яшчэ дзе-ні-дзе адчуваюцца. Вось, напрыклад, вызначэнне совецкай соцыялістычнай прамысловасці, якое даецца ў праграме адпаведнага курса Магілеўскага педагагічнага інстытута, складзенай у 1933 г.

„Уся соцыялістычная прамысловасць у цэлым разглядаецца як складаны, але адзіны арганічны комплекс вытворчых працэсаў, маючых канчатковай мэтай здабыванне, апрацоўку, выраб і транспартаванне прадметаў спажывання шляхам максімальнага выкарыстання ўсіх наяўных крыніц так званай механічнай энергетыкі". Паўстае пытанне, чым, напрыклад, адрозніваецца па гэтым азначэнні соцыялістычная прамысловасць ад капіталістычнай і г. д. Ці-ж не ясна, што ў найбольш агульных тэхнічных вызначэннях тут выпалі ўсе перавагі нашай прамысловасці, уся яе эканамічная сутнасць. Безумоўна, што такія вызначэнні як агульныя, з'яўляюцца аднолькава адпавядаючымі прамысловасці ўсіх часоў і народаў, не даючы нічога для вывучэння іменна нашай прамысловасці.

Законамернасці нашай гаспадаркі, якія выражаюцца эканомпалітыкай дыктатуры пролетарыята, знаходзяць сабе асобую форму выражэння ў нашай прамысловасці. Яны вы-

ражаюцца тут праз асобую, выразную, паслядоўна-соцыялістычную, эканамічную базу ў спалучэнні з перадавой тэхнікай.

Зместам эканоміі прамысловасці з'яўляецца эканамічная палітыка дыктатуры пролетарыята, у прыватнасці палітыка ў адносінах да прамысловасці, як асноўнага закона нашага руху. Шкоднікі эканамісты, наадварот, развівалі такую „тэорыю", што менш за ўсё эканамічная палітыка можа ствараць змест эканомікі нашай прамысловасці. Вось што пісаў Бернштэйн-Коган: „У гэтай кнізе аўтар выходзіў з той асноўнай ідэі, што эканомія прамысловасці павінна быць эканоміяй у дакладным сэнсе слова і ў яе не павінны ўводзіцца, як гэта звычайна бывае, элементы прамысловай палітыкі" (Б.-Коган, „Введение в экономию промышленности").

З гэтай фармулёўкі цалкам выцякае, што не палітыка павінна кіраваць нашай прамысловасцю, а наадварот, шкоднікі жадалі таго, каб развіццё нашай прамысловасці пайшло-б паміма эканамічнай палітыкі дыктатуры пролетарыята.

Вучэбнік эканомікі соцыялістычнай прамысловасці пад рэдакцыяй Хмяльніцкай, правільна даючы крытыку буржуазным „тэорыям", супроцьстаўляючы эканоміку прамысловасці прамысловай палітыцы партыі і ўрада, сам аднак няправільна трактуе ролю эканамічнай палітыкі ў галіне прамысловасці.

„Вывучэнне эканамічнай палітыкі партыі, у прыватнасці, дырэктыў партыі ў галіне прамысловасці, з'яўляецца не задачай нейкай асобнай навукі (аб эканамічнай палітыцы, або палітыцы ў галіне прамысловасці), а неабходнай прадпасылкай усяго даследвання эканомікі соцыялістычнай прамысловасці" (стар. 38). Няправільнасць тут заключаецца ў тым, што галоўнейшы змест, асноўны закон руху нашай прамысловасці, эканамічная палітыка, разглядаецца толькі як прадпасылка даследвання эканомікі соцыялістычнай прамысловасці.

Проста смешным з'яўляецца пасля разгледжаных намі „вялікіх укладаў у навуку" буржуазных эканамістаў сцверджанне аб тым, што марксізм нічога не даў для эканоміі прамысловасці. Гінзбург, напрыклад, так і піша, што „марксісцкая думка і не спрабавала стварыць у гэтай галіне штонебудзь самастойнае" („Очерки промышленной экономики", стар. 5). Не будзем апраўдвацца перад Гінзбургам, але не цяжка здагадацца, што гэтая шкодніцкая ўстаноўка імкнецца адвесці ўсялякія сляды ад пошукаў чаго-небудзь карыснага ў марксісцка-ленінскім эканамічным вучэнні для эканомікі прамысловасці. Гэтая формула мае сваёй мэтай штурхануць займаючагася вывучэннем эканомікі прамысловасці ў абдымкі буржуазнай вульгарнай эканоміі. Гэтае сцверджанне не мае пад сабой ніякай падставы, апрача шкодніцкага імкнення пабудаваць эканоміку нашай прамысловасці без марксізма-

ленінізма, супроць яго, на падставе „навейшых даных“ буржуазнай эканамічнай „навукі“.

Маркс не напісаў вучэбніка па эканоміі прамысловасці, але займаючыся вывучэннем капіталістычнага спосаба вытворчасці, ён даў класічны аналіз прамысловасці і аналіз руху яе тэхнікі. Маркс, устанавіўшы законы развіцця капіталістычнай вытворчасці, разам з гэтым выкрыў законамернасці развіцця капіталістычнай прамысловасці ў сувязі з развіццём іншых галін народнай гаспадаркі. Ён даў тэорыю капіталістычнай індустрыялізацыі, паказаў яе рух з часу ўзнікнення капіталістычнай кааперацыі і тыя супярэчнасці, якія неміnуча нараджаюцца ёю, як-та: супярэчнасць паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, паміж горадам і вёскай, паміж рабочымі і капіталістамі, паміж ростам прадукцыйнасці працы і змяншэннем нормы прыбытку і т. д., што ў апошнім падліку з'яўляецца развіццём асноўнай супярэчнасці капіталізма, супярэчнасці паміж грамадскім характарам вытворчасці і прыватным характарам прысваення. Ленін развіўшы марксава вучэнне, паказаў асаблівасці індустрыялізацыі капіталізма ў эпоху панавання манаполіі (імперыялізм), выкрыў абвастрэнне супярэчнасцей капіталістычнай індустрыялізацыі ў гэтую эпоху, адкрыў закон няроўнамернага развіцця і выкрыў на гэтай аснове загніванне капіталізма і яго прамысловасці ў эпоху імперыялізма. На аснове марксавага вучэння, Ленін выкрыў законамернасці капіталістычнага развіцця прамысловасці ў Расіі і характар яе індустрыялізацыі, развіў вучэнне аб ролі нашай прамысловасці ў соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Сталін, на аснове вучэння Маркса—Леніна, выкрыў абвастрэнне супярэчнасцей імперыялізма ў часе ўсеагульнага крызіса і рэзкае скачкападобнае падзенне прамысловасці ў капіталістычных краінах у сучасным сусветным крызісе. Сталін развіў і абгрунтаваў тэорыю соцыялістычнай індустрыялізацыі, генеральны шлях развіцця нашай прамысловасці і яе вядучую ролю ва ўсёй сістэме нашай народнай гаспадаркі. У барацьбе на два фронты т. Сталін абгрунтаваў тэорыю соцыялістычнай індустрыялізацыі, вядучай і пераважаючай ролі нашай буйнай соцыялістычнай прамысловасці ў соцыялістычнай рэканструкцыі. На аснове вучэння Маркса—Леніна—Сталіна пролетарыят СССР, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пабудаваў буйную соцыялістычную прамысловасць—аснову фундамента соцыялістычнай эканомікі. На гэтай-жа аснове будуецца буйная соцыялістычная прамысловасць і ў БССР і ліквідуюцца карані яе адсталасці. Кіруючыся гэтай тэорыяй, партыя пабудавала план другой пяцігодкі—план пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Гэтая тэорыя з'яўляецца адзінай тэорыяй для вывучэння эканомікі соцыялістычнай прамысловасці.

---

П. А. Балабанаў

# Этапы развіцця цэнтралізаваных загатовак [1]

## Уводзіны

Палітыка загатовак у СССР гэта арганічная частка агульнай палітыкі ўзаемаадносін пролетарыята з асноўнай масай сялянства. На новым этапе палітыка загатовак вызначаецца палітыкай наступлення соцыялізма па ўсяму фронту, палітыкай ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі. Змычка на аснове простай таварнай гаспадаркі і змычка на аснове гаспадарак аграмаджаных, гэта, зразумела, неаднатыповы характар змычкі. Змычка пролетарыята з калгасным сялянствам—гэта больш высокая ступень сувязі, гэта змычка ў рамках аднатыповых соцыялістычных форм. У спалучэнні працы соцыялістычных прадпрыемстваў—калгасаў з працай паслядоўна-соцыялістычных дзяржаўных прадпрыемстваў і заключаецца асноўнае, прынцыповае адрозненне змычкі пролетарыята і калгаснага сялянства ад змычкі з асноўнай масай сялянства да калектывізацыі.

Участак загатовак з першых дзён пролетарскай рэволюцыі быў адным са шляхоў падрыхтоўкі беднякоў і сераднякоў да аграмаджання іх асноўных сродкаў вытворчасці.

Палітыка загатовак з'яўлялася і з'яўляецца ўчасткам жорсткай класавай барацьбы, бо на ўсіх этапах соцыялістычнага будаўніцтва яна выражала генеральную лінію ўзаемаадносін пролетарыята са сваімі саюзнікамі, апорай і класавымі ворагамі. Як неаддзялімая частка праблемы змычкі, палітыка загатовак цалкам і поўнасцю вызначалася праграмай, тактыкай і стратэгіяй партыі, прыстасавальна да даных умоў, данай абстаноўкі і суадносінам і класавых сіл (продраз-

[1] Гэты артыкул з'яўляецца часткай работы, напісанай аўтарам у якасці выпускной дысертацыі па семінару акадэміка Домбаля (III курс аспірантуры Ін-та эканомікі БелАН). Гэта работа ў перапрацованым выглядзе змешчана на рускай мове ў падручніку „Эканоміка совецкага гандлю", выданне Комакадэміі.

вёрсткі, проднал ог, загатоўкі шляхам закупкі, кантрактацыя, абавязковыя пастаўкі, маючыя сілу падатку і да т. п.).

Даць характарыстыку развіцця цэнтралізаваных загатовак на розных этапах (ваенны комунізм, нэп і яго перыяды: аднаўленчы і рэканструкцыйны, новы этап) і з'яўляецца мэтаю гэтай работы.

Пасля ўзяцця ўлады пролетарыятам, партыя на чале з Леніным ставіла сваёю мэтаю ў галіне цэнтралізаваных загатовак, арганізаваць абмен паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай.

„Правільнай палітыкай пролетарыята, які ажыццяўляе сваю дыктатуру ў дробна-сялянскай краіне, з'яўляецца абмен збожжа на прадукты прамысловасці, неабходныя сялянству. Толькі такая прадавольственная палітыка адказвае задачам пролетарыята. Толькі яна здольна ўмацаваць асновы соцыялізма і прывесці да яго поўнай перамогі. Проднал ог ёсць пераход да яе" (Ленін, т. XXVI, стар. 332).

25-га сакавіка 1918 г. Совет Народных Камісараў пастанавіў: „У мэтах узмацнення дзяржаўных загатовак збожжа і іншых прадавольственных прадуктаў на Камісарыят па прадавольствію ўскладаецца арганізацыя правільнага таваразбмену ў дзяржаўным маштабе".

Прыстасавальна да ўмоў тавараабмену, як формы цэнтралізаваных загатовак, былі выданы: дэкрэт ВЦВК „Аб абкладанні сельскіх гаспадароў натуральным падаткам, у выглядзе адлічэння часткі сельска-гаспадарчых прадуктаў" ад 30/X-1918 г. (апублікаваны ў „Известиях ВЦИК" 14-га лістапада 1918 г.). „Закон аб падатку дацІраваны 30 кастрычніка 1918 г. Ён быў прыняты—гэты закон, які ўводзіць натуральны падатак з земляробаў—але ў жыццё ён не ўвайшоў" (Ленін, т. XXVI, стар. 217).

Усё гэта гаворыць аб тым, што ўжо ў 1918 г. намячаўся проднал ог, як пераход да нармальнага абмену паміж горадам і вёскай. Але вымушаныя абставінамі вайны партыя і ўрад павінны былі часова спыніцца на продразвёрстцы, як неабходнай пры тых умовах форме загатовак.

*Развёрстка.* 24-га студзеня 1919 г. апублікаваны дэкрэт Соўнаркома ад 11 студзеня 1919 г. „О разверстке между производящими губерниями зерновых хлебов и фуража, подлежащих отчуждению в распоряжение государства" (Собрание узаконений № 1, 28 января 1919 г.). Дэкрэт матываваў развёрстку, як неабходную „у мэтах тэрміновай пастаўкі збожжа для патрэб Чырвонай арміі і бяззбожжавых раёнаў".

Продразвёрстка гэта спосаб загатовак перыяду ваеннага комунізма. „Загатоўка сыравіны павінна грунтавацца на сістэме дзяржаўнай развёрсткі і неабходнай здачы сыравіны згодна развёрстцы" (З рэзалюцыі IX з'езда РКП(б)).

Палітыка загатовак, праводзімая комуністычнай партыяй і совецкай уладай на працягу ўсяго перыяду была палітыкай класавай, ажыццяўляемай на аснове прынцыпу змычкі

з асноўнай масай сялянства і барацьбы з кулацтвам. Зусім антыпартыйным, не маючым нічога агульнага з генеральнай лініяй партыі, з'яўляецца прадстаўленне аб тым, што ў перыяд ваеннага комунізма такая форма цэнтралізаваных загатовак, як продразвёрстка—нівеліравала, ачышчала пад грабёнку ўсе лішкі ва ўсяго сялянства без залежнасці ад социяльнага прызнака, што продразвёрстка—гэта палітыка размычкі з бедняком і серадняком, выклікаемая ўмовамі ваеннага часу, грамадзянскай барацьбой, неарганізаванасцю размеркавальнага апарата совецкай улады і да т. п. Гэта—антысовецкія канцэпцыі. Ваенны комунізм не можа быць проціпастаўлены палітыцы змычкі пролетарыята з асноўнай масай сялянства таму, што гэта быў перыяд палітычнага і ваеннага саюза.

На IX Усерасійскім з'езде Советаў, Ленін сказаў: „Гэты саюз палітычны і ваенны, мы іспыталі ў самыя цяжкія гады нашай рэспублікі. Першы раз у 1921 г. перажываем гэты саюз як эканамічны“ (Ленін, т. XXVII, стар. 124).

„Неабходнасць змянення формы саюза выклікана тым, што саюз палітычны і саюз ваенны не мог быць прадаўжаемы так-жа проста ў галіне эканамічнай, калі ў нас буйнай прамысловасці яшчэ няма, калі яна разбурана вайной, нечуванай ні ў адной дзяржаве“ (Ленін, т. XXVII, стар. 125).

Ленін адносіць эканамічны саюз з асноўнай масай сялянства да 1921 г. да пачатку нэпа, указваючы ў той-жа час на наяўнасць палітычнага і ваеннага саюза і ў перыяд ваеннага комунізма.

Палітыка развёрсткі, вызначаючыся палітычным і ваенным саюзам не магла быць палітыкай, выражаючай антаганістычныя супярэчнасці, але ў той-жа час павінна была змяніцца ў такім напрамку, каб ваенны і палітычны саюз мог ператварыцца ў саюз эканамічны, бо „змычкі з сялянскай экономікай, з той новай экономікай, якую мы спрабавалі стварыць, у нас не было“ (Ленін, т. XXVII, стар. 229).

Сфармуляваныя Леніным асноўныя прынцыпы палітыкі загатовак у самы цяжкі перыяд барацьбы з голадам, калі, як пісаў Ленін 8-га мая 1918 г.: „Пасля міру з Украінай у нас застанецца хлеба не больш, чым *у абрэз*, каб не памерці з голаду“. Нават у той перыяд, калі стала пытанне аб прадавольственнай дыктатуры і аб надзвычайных паўнамоцтвах камісара прадавольствія, Уладзімір Ільіч распрацоўвае „асноўныя палажэнні дэкрэта аб прадавольственнай дыктатуры“, дзе зусім выразна намечана генеральная лінія барацьбы за збожжа, накіраваная супроць буржуазіі. „Трэба,—піша Ленін,—правесці бязлітасную і тэрарыстычную барацьбу і вайну супроць сялянскай і іншай буржуазіі, якая затрымлівае ў сябе лішкі збожжа“ (Ленін, т. XXX, стар. 382).

Значыцца, у самы цяжкі перыяд барацьбы з голадам, партыяй, кіруемай Леніным, рэзка праводзіўся ў палітыцы і практыцы цэнтралізаваных загатовак — продразвёрстцы — класавы прынцып.

Палітыка загатовак была зусім чотка звязана з палітыкай апоры на беднату.

У адозве ЦК РКП(б) у верасні 1920 г. так сфармуляваны класавы прынцып продразвёрсткі.

„Пры разгортванні нарада воласцю па сёлах і сёламі па асобных гаспадарках, у аснову кладзецца класавы прынцып, г. зн. найбольш заможнае, у сэнсе колькасці жывёлы і збожжа, сяло або гаспадарка нясе і большы цяжар развёрсткі". „Усякае-ж размеркаванне нарада волвыканкомамі або сельсоветамі па душах або дзесяцінах не павінна дапускацца. Бедная або пацярпеўшая частка насельніцтва не абкладаецца зусім, ёй нават аказваецца дапамога шляхам пераразмеркавання лішкаў ад заможных гаспадарак, якія засталіся пасля выканання дзяржаўнай развёрсткі".

У гэтай-жа адозве неаднакроць падкрэсліваецца тая мысль, што „развёрстка ўзгоднена з інтарэсамі маламоцных слаёў насельніцтва".

26-га мая 1918 г. Ленін піша вядомыя „тэзісы па бягучаму моманту", прынятыя ЦК РКП(б), на аснове якіх СНК выносіць пастанову аб прадавольственнай палітыцы. Прыводзім асноўныя палажэнні гэтых тэзісаў: „Ваенны камісарыят ператварыць у ваенна-прадавольственны камісарыят, г. зн. сканцэнтраваць $^9/_{10}$ работы ваеннага камісарыята на пераробцы арміі для вайны за збожжа і на вядзенні такой вайны на 3 месяцы: чэрвень—жнівень". „У атрады дзеючай (супроць кулакоў і інш.) арміі ўключыць ад $^1/_3$ да $^1/_2$ (у кожны атрад) рабочых галадаючых губерній і бяднейшых сялян адтуль-жа" (Ленін, т. XXX, стар. 387).

Апіраючыся на бяднейшае сялянства, накіраваць барацьбу супроць кулакоў—вось аб чым сведчаць гэтыя тэзісы. Усякае тлумачэнне продразвёрсткі, як палітыкі, накіраванай супроць сялянства ў цэлым—гэта паклёп на партыю. Продразвёрстка ажыццяўлялася на аснове палітыкі апоры пролетарыята на беднату і такой нейтралізацыі серадняка, якая пératварыла-б яго ў саюзніка не буржуазіі, а пролетарыята. Гэта пераканаўча даказваюць ленінскія „Тэзісы па прадавольственнаму пытанню", дзе намечаны мерапрыемствы, з дапамогаю якіх можна „нейтралізаваць у грамадзянскай вайне найбольш магчымую колькасць сялян" (Ленін, т. X, стар. 397).

І далей: „Пастанавіць рад самых экстраных мер па рэквізіцыі ўсіх прадуктаў гарадской прамысловасці для тавараабмену".

Гэта напісана 2 жніўня 1918 г., у перыяд дзеяння продатрадаў, уключаючых беднату, накіраваных супроць кулакоў. У мэтах нейтралізацыі серадняка ў барацьбе за збожжа ў галодны год ставіцца праблема тавараабмену і рэквізіцыі з гэтай мэтай прадуктаў гарадской прамысловасці. Ці мае гэта што-небудзь агульнае з трацкісцкай пастаноўкай пытання аб немагчымасці саюза з серадняком, або аб першапачатковым соцыялістычным накапленні за кошт асноўнай масы сялянства? Палітыка і практыка продразвёрсткі, як

формы цэнтралізаваных загатовах гаворыць аб тым, што лозунг нейтралізацыі серадняка нельга разумець у сэнсе ізаляцыі серадняко́ў ад палітычных падзей грамадзянскай вайны, а гутарка ідзе толькі аб такой нейтралізацыі, якая ў той-жа час заключае барацьбу за адваяванне іх ад уплыву буржуазіі горада і вёскі, барацьбы за саюз з рабочым класам супроць гэтай буржуазіі.

Вось чаму палітыку загатовак у самыя галодныя гады ваеннага комунізма нельга зразумець па-за палітыкай узаемаадносін пролетарыята з беднатой і серадняком; па-за барацьбой пролетарыята з кулацтвам. „Прызнаць абавязковымі самыя рашучыя, ні перад якімі фінансавымі афярамі не спыняючыяся меры дапамогі вясковай беднаце і меры даравога падзелу паміж ёю часткі сабраных лішкаў збожжа кулакоў“ (Ленін, т. XXX).

Продразвёрстка гэта цэлая сістэма загатовак, неадарваных ад абмену праз кааперацыю, сялянамі-пасеўшчыкамі збожжа на тавар. У самыя цяжкія галодныя гады, серадняк не толькі здаваў свае лішкі прадукцыі ў парадку продразвёрсткі, але здаваў і на абмен за промтавары. Продразвёрстка і тавараабарот паміж горадам і вёскай не былі проціпастаўляемымі і ўзаемавыключаючымі аперацыямі ў адносінах асноўнай масы сялянства. Той, хто не зразумеў гэтага, нічога не зразумеў у продразвёрстцы, для таго продразвёрстка—гэта толькі адміністрацыйнае ўзняцце ад усіх сялян без выключэння, ад сялянства ў цэлым усіх лішкаў. Зразумела, продразвёрстка тармазіла і перашкаджала развіццю тавараабмену, але яна ўсё-ж не выключала яго.

Палітыку загатовак перыяду продразвёрсткі нельга трактаваць толькі як сістэму неэквівалентнага абмену. У „Тэзісах па прадавольственнаму пытанню“ сказана: „Кааператывы абавязаць безадкладна дэкрэтам: 1) пабудаваць пры кожнай краме ссыпны пункт, 2) даваць тавары толькі па заборным кніжкам спажыўцоў, 3) сялянам-пасеўшчыкам не даваць ні аднаго тавара інакш, як у абмен за збожжа“ (Ленін, т. XXX, стар. 391).

Сутнасць палітыкі продразвёрсткі зводзіцца не проста да таго, каб адабраць усе лішкі ад усяго сялянства без залежнасці ад соцыяльных прызнакаў. Продразвёрстка—гэта перш за ўсё палітыка ўзяцця ад кулацтва і снабжэнне рабочага класа, арміі, бяднейшага сялянства і г. д. Продразвёрстка дапаўнялася работай кааперацыі, падпарадкаванай кампроду, якая ў абмен за збожжа выдавала промтавары. Гэта гаворыць аб тым, што продразвёрстка была не адзінай формай снабжэння.

Аб рэзультаце дзяржаўных збожжазагатовак у парадку развёрсткі гавораць наступныя лічбы (у млн. пудоў):

| 1917/18 г. | 1918/19 г. | 1919/20 г. | 1920/21 г. |
|---|---|---|---|
| 47,0 | 108,0 | 212,2 | 366,6 |

(Даныя Наркампрода і ЦСУ), у 1916/17 г. дзяржаўныя загатоўкі складалі 505 млн. пудоў.

Ленін ва ўсіх работах ускрыў сутнасць продразвёрсткі і яе гістарычную ролю ў эканоміцы ваеннага комунізма, якую яна адыграла, яе станоўчыя ўласцівасці, яе значэнне ў тых сувязях паміж пролетарыятам і сялянствам, якія былі ўласцівы вытворчым адносінам ваеннага комунізма. Продразвёрстка была выражэннем напружанай барацьбы пролетарыята на фронтах грамадзянскай вайны за захаванне і пабеду пролетарскай дыктатуры. Продразвёрстка дала магчымасць мабілізаваць усе рэсурсы, усе лішкі для сугуба цэнтралізаванага снабжэння фронта і тыла і тым пазбавіць рэволюцыйную краіну „ад кастлявай рукі голаду". Адмоўны бок продразвёрсткі зводзіўся, у асноўным да наступнага: продразвёрстка звужала і ў перспектыве ліквідавала-б зусім стымулы да развіцця тaварнасці сельскай гаспадаркі і падводзіла сельскую гаспадарку шчыльна да спажывецкай гаспадаркі. Яна не давала магчымасці праяўляць гаспадарчую актыўнасць, зацікаўленасць і ініцыятыву. Продразвёрстка магла існаваць на аснове ваеннага і палітычнага саюза пролетарыята і працоўнага сялянства, але яна не магла быць асновай для эканамічнай змычкі. Ва ўмовах продразвёрсткі нельга было ўсур'ёз і надоўга развіваць сельскую гаспадарку, павышаць ураджайнасць, уводзіць агратэхнічныя мерапрыемствы, у сілу чаго палітыка продразвёрсткі была несумяшчальнай з лініяй падняцця ўзроўню прадукцыйных сіл у сельскай гаспадарцы і знімала такія праблемы, як накапленне, рэнтабельнасць, падняцце прадукцыйнасці працы, г. зн. па сутнасці продразвёрстка не толькі не адпавядала задачы расшыранай рэпрадукцыі, а наадварот, яна звужала яе, набліжала момант, калі сельская гаспадарка магла апынуцца на ўзроўні спажывецкай гаспадаркі. Усё-ж, не гледзячы на ўсе гэтыя адмоўныя ўласцівасці, яна адыграла выключна вялікае значэнне і поўнасцю выканала тую гістарычную ролю, якая была на яе ўскладзена: шляхам самай жорсткай цэнтралізацыі размяркоўваць мабілізуемыя ў недастатковай колькасці, незадавальняючыя поўнасцю нават мінімальныя патрэбнасці краіны, тыя нязначныя харчовыя і сыравінныя лішкі, якія заставаліся ў сельскай гаспадарцы, разбуранай імперыялістычнай і грамадзянскай вайной.

*Продналог.* На Х-м з'ездзе Ленін унёс на зацверджанне пытанне аб замене продразвёрсткі продналогам. З'езд па гэтаму пытанню пастанавіў: „Развёрстка, як спосаб дзяржаўных загатовак харчу, сыравіны і фуража, замяняецца натуральным падаткам". На гэтым-жа з'ездзе Леніным было пастаўлена і вырашана пытанне аб тым, ці абавязкова з пункту погляду соцыялізма развёрстка, як дзяржаўная манаполія на ўсе лішкі.

„Для чаго нам патрэбна было замяніць развёрстку падаткам? Развёрстка прадпалагала забраць усе лішкі, устанавіць абавязковую дзяржаўную манаполію. Мы не маглі

паступіць інакш, мы былі ў стане вялікай нястачы. Тэарэтычна не абавязкова прынімаць, што дзяржаўная манаполія ёсць найлепшае з пункту погляду соцыялізма. Як пераходную меру ў краіне сялянскай, якая мае прамысловасць,—а прамысловасць працуе,—а калі ёсць некаторая колькасць тавараў, магчыма і прымяніць сістэму падатку і свабоднага абароту".

„Нам трэба, каб аб прынятым увечары-ж было паведамлена па радыё ва ўсё канцы свету, што з'езд урадавай партыі ў асноўным замяняе развёрстку падаткам, даючы гэтым цэлы рад стымулаў дробнаму земляробу расшырыць гаспадарку, павялічыць пасевы, што з'езд, уступаючы на гэты шлях, выпраўляе сістэму адносін паміж пролетарыятам і сялянствам і выражае ўпэўненасць, што гэтым шляхам будуць дасягнуты моцныя адносіны паміж пролетарыятам і сялянствам" (Ленін, т. XVII, стар. 247—248).

„Развёрстка ў вёсцы, гэты непасрэдны комуністычны падыход да задач будаўніцтва ў горадзе, перашкаджала пад'ёму прадукцыйных сіл і аказалася асноўнай прычынай глыбокага эканамічнага і палітычнага крызіса, на які мы натыкнуліся вясной 1921 года" (Ленін, т. XXVI, стар. 40).

„Продналог ёсць пераход ад ваеннага комунізма да правільнага соцыялістычнага прадуктаабмену" (Ленін т. XXVI, стар. 351).

Палітыка партыі па пераключэнню на эканамічны саюз пролетарыята і працоўнага сялянства пачалася фактычна з адмены продразвёрсткі і замены яе продналогам іменна таму, што ў той перыяд праз продналог можна было пачаць развіваць гандаль, гандлёвую змычку на аснове падняцця прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі. Гандаль быў тады тым звяном, ухапіўшыся за якое можна было выцягнуць увесь ланцуг.

Продналог—гэта палітыка разгортвання гандлю, эканамічная сувязь горада з вёскай. „Ва ўмовах краіны, разбуранай у галіне буйнай прамысловасці, ва ўмовах, якія патрабуюць ад нас навучацца перш за ўсё той эканамічнай сувязі, якая зараз няўхільна і неабходна. Гэта сувязь ёсць гандаль" (Ленін, т. XXVII, стар. 126).

Не выпадкова Ленін высунуў палажэнне аб неабходнасці пераглядзець „палажэнне аб кааперацыі" ў сувязі з адменай продразвёрсткі і ўвядзеннем продналога. Перагляд „палажэння аб кааперацыі" у сувязі з увядзеннем продналога быў неабходны таму, што тады гэта палажэнне грунтавалася на прыстасаванні кааперацыі да ўмоў ваеннага комунізма, было пабудавана на аснове продразвёрсткі. Кааперацыя была падпарадкавана Наркампроду. Членства было абавязковым, г. зн. фактычна кааперацыя была ў асноўным апаратам размеркавання.

Сутнасць продналога можна зразумець толькі на фоне ленінскага кааперацыйнага плана, на фоне новай эканамічнай палітыкі, як палітыкі не адступлення, а перабудовы радоў

для далейшага прасоўвання ад Расіі нэпаўскай да Расіі соцыялістычнай, для барацьбы з галоўным ворагам—дробна-буржуазнай стыхіяй. Ленін так і пісаў: „Галоўны вораг—„дробна-буржуазная стыхія“. „Або мы падпарадкоўваем яе свайму кантролю і ўліку, або яна скіне рабочую ўладу няўхільна і немінуча“ (Ленін, т. XXVI, стар. 347).

Увядзенне продналога і развіццё гандлю штурхала да перабудовы кааперацыі прыстасавальна да ўмоў новай эканамічнай палітыкі, да ўмоў продналога і рэалізацыі лішкаў, якія застаюцца пасля здачы падатку ў сялян праз кааперацыю.

„Падатак—гэта значыць тое, што дзяржава бярэ з насельніцтва без усякай узнагароды“. „Рабочая дзяржава не можа абыйсціся адным падаткам. З аднаго боку, яна хоча аперціся на падатак, вызначаючы яго прыблізна ўдвая меншым, чым была перад гэтым развёрстка, з другога боку, хоча аперціся на абмен прадуктаў у прамысловасці, на тыя або іншыя лішкі сялянскай вытворчасці. Значыць, у падатку ёсць частачка ранейшай развёрсткі і ёсць частачка таго парадку, які адзін толькі прадстаўляецца правільным, іменна: абмен прадуктаў буйных соцыялістычных фабрык на прадукты сялянскай гаспадаркі праз прадавольственныя органы дзяржаўнай улады, праз кааперацыю рабочых і сялян“ (Ленін, т. XXVI, стар. 229).

Пераход да праднaлога зусім не азначаў пераходу да буржуазнага ладу: „уяўляюць сабе справу так, як быццам-бы пераход быў ад комунізма наогул да буржуазнасці наогул“.

„Продналог ёсць адна з форм пераходу ад своеасаблівага „ваеннага комунізма“, вымушанага крайняй нястачай, разбурэннем і вайной да правільнага соцыялістычнага тавараабмену. А гэты апошні ў сваю чаргу ёсць адна з форм пераходу ад соцыялізма з асаблівасцямі, выкліканымі перавагай дробнага сялянства ў насельніцтве—да комунізма“ (Ленін, т. XXIV, стар. 331).

Продналог, як адна з форм цэнтралізаваных загатовак перыяду ўступлення ў нэп, адбіваў у сябе ўсю многастайнасць павароту ад ваеннага комунізма да эканамічнага саюза пролетарыята з асноўнай масай сялянства. Тады па новаму сталі праблемы рэпрадукцыі. Задачай дня было падняцце прадукцыйных сіл, г. зн. расшыраная соцыялістычная рэпрадукцыя, якая мела сваёй мэтаю ў перспектыве стварэнне матэрыяльнай базы і фундаманта соцыялістычнай эканомікі. Продналог азначаў спалучэнне расшыранай рэпрадукцыі і эканамічнага саюза з асноўнай масай сялянства. У гэтым ужо была закладзена асноўная сутнасць нэп'а рушыць, хоць і больш павольна, але на аснове змычкі з працоўным сялянствам, супроць кулакоў, апіраючыся на беднату, па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Продналог з гэтага пункту погляду быў моцным рычагом падняцця прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі, і значыцца, на тым этапе і ўсёй народнай гаспадаркі.

Проднaлог, як адно з эканамічных мерапрыемстваў, забяспечваючых эканамічны саюз з серадняком, патрэбны быў для далейшага працэса асераднячвання вёскі, як рычаг для расшыранай соцыялістычнай рэпрадукцыі народнай гаспадаркі, у першую чаргу, сельскай, як стымул для росту накаплення і спажывання як у горадзе, так і ў вёсцы. Гэтым і адрозніваецца проднaлог ад капіталістычнага падатку, у гэтым яго совецкая сутнасць, што ён быў падаткам, на аснове якога пачаўся пад'ём сельскай гаспадаркі.

Якое значэнне меў проднaлог для росту прадукцыйных сіл? Ён ствараў умовы для павелічэння таварнасці сельскай гаспадаркі, для развіцця тавараабароту паміж горадам і вёскай і ўстанаўлення новых эканамічных сувязей, выгадных і гораду і вёсцы. Імена таму проднaлог быў рэволюцыйным актам, у якім закладзена найглыбейшая эканамічная і палітычная задача, карэнная мэта: перагрупоўка сіл для ўступлення на арэну соцыялістычнага будаўніцтва з усёй масай працоўнага сялянства супроць кулацтва.

Проднaлог адыграў сваю гістарычную ролю па падняцці ўзроўню прадукцыйных сіл у тых адносінах, што ён расшырыў перспектыву вядзення гаспадаркі на аснове таварнай вытворчасці, звужаныя продразвёрсткай да ўзроўню спажывецкай гаспадаркі. У гэтым заключан а эканамічная мэтазгоднасць падатку, у гэтым выразілася яго матэрыяльная база для расшыранай рэпрадукцыі. Зусім відавочна, што проднaлог мог стаць неабходнай прадпасылкай соцыялістычнага накаплення толькі ў сувязі з сістэмай усіх рычагоў пролетарскай дыктатуры, як кааперацыя, бюджэт, крэдыт, цэны і г. д. Роля проднaлога ў росце прадукцыйных сіл не можа быць зразумелай без усёй сукупнасці вытворчых адносін і прадукцыйных сіл першых год новай палітыкі, накіраванай для новага, іншымі спосабамі і метадамі, наступлення соцыялізма. Проднaлог быў адным з рычагоў пролетарскай дыктатуры, прычым на тым этапе, адным з рашаючых вагароў у сістэме рэпрадукцыі на аснове нэп'а, у якім спалучаліся інтарэсы пролетарскай дзяржавы з інтарэсамі працоўнага сялянства і пераламлялася барацьба соцыялістычных тэндэнцый пролетарыята і таварна-капіталістычных тэндэнцый сялянства.

Калі пры сістэме продразвёрсткі нельга было ўстанавіць суадносін паміж накапленнем і спажываннем унутры сялянскай гаспадаркі, то здаўшы проднaлог, селянін ставіў сабе пытанне і аб „падатку" унутраным, асабістым, для сваёй уласнай гаспадаркі, г. зн. аб тым фондзе, які ў яго застанецца пасля здачы проднaлога, аб таварным лішку, аб тым як яго скарыстаць, каб у канцы кожнага года было больш і сродкаў вытворчасці і сродкаў спажывання, г. зн. селянін паставіў пытанне, як толькі кончылася сістэма продразвёрсткі, аб суадносінах паміж спажываннем і накапленнем унутры сваёй уласнай індывідуальнай гаспадаркі. Вось чаму, каб развіццё сельскай гаспадаркі пайшло па шляху, які рэгу-

люецца пролетарскай дыктатурай, адмена продразвёрсткі і ўвядзенне продналога патрабавала перагляду ўсёй сістэмы ўздзеяння, усёй сукупнасці рычагоў пролетарскай дыктатуры, каб пастаўленыя сялянствам пытанні накаплення не вырашаліся стыхійна, самацёкам, па-за ўздзеяннем эканамічнай палітыкі партыі і совецкай улады. У гэтай сувязі пановаму стала пытанне аб кааперацыі.

Продналог паставіў пановаму праблему рэнтабельнасці. Калі ва ўмовах продразвёрсткі і спажывецкіх тэндэнцый рэпрадукцыйнага працэса ў сельскай гаспадарцы для рэнтабельнасці не заставалася матэрыяльнай базы, стымула, то звязаны з продналогам рост тварнасці і тавараабароту прызваў да жыцця рэнтабельнасць, госразлік, эканомію сілы і сродкаў, г. зн. умовы падняцця прадукцыйнасці працы, прадукцыйных сіл. Паявіліся стымулы да накаплення і падняцця даходнасці. Шлях да гэтага—павышэнне ўраджайнасці, увядзенне агратэхнічных мерапрыемстваў і г. д. Так, продналог, як механізм новай эканамічнай палітыкі, правадзімай пролетарыятам планамерна, свядома, падняў хвалю развіцця прадукцыйных сіл і гэтым вырашыў сваю гістарычную задачу.

Продналог выканаў сваё прызначэнне толькі таму, што ён дзейнічаў не ізалявана ад усіх рычагоў пролетарскай дыктатуры, а ў спалучэнні з імі і з той абстаноўкай, якая склалася ў перыяд пераходу ад ваеннага комунізма да нэп'а, да аднаўленчага перыяду, прыстасавальна да таго ўзроўню прадукцыйных сіл. Продналог даў сялянству перспектыву развіцця на аснове таварнай гаспадаркі, на аснове змычкі з пролетарыятам, ажыццяўляючым дыктатуру і будуючага социялізм.

Продналог не супярэчыў прыродзе селяніна, як таваравытворцы, садзейнічаў развіццю таварнай вытворчасці і таму гэты падатак адлюстроўваў двойственную прыроду селяніна, як працаўніка і як дробнага буржуа. Продналог даваў магчымасць развіццю таварна-капіталістычных тэндэнцый сялянства, але ў спалучэнні з усімі рычагамі пролетарскай дыктатуры (кааперацыя, крэдыт, бюджэт, цэны і г. д.) продналог быў адной з форм социялістычнага накаплення.

„Продналог у агульным і цэлым даў селяніну ва ўсёй масе, бяручы ўсё сялянства, палягчэнне". „Селянін адчуў сябе больш забяспечаным пры продналогу і ў яго паднялася зацікаўленасць да гаспадаркі. Стараннаму селяніну, пры павышэнні прадукцыйных сіл, продналог адкрываў больш шырокую дарогу" (Ленін, т. XXVII, стар. 129).

*Перыяд 1921-22 г.* Першай загатоўчай кампаніяй ва ўмовах нэп'а была кампанія 1921-22 г., якой адкрываецца новы этап загатовак на аснове продналога і рыначнага абароту. Продналог у гэтых адносінах з'явіўся формай спалучэння цэнтралізаваных загатовак з развіццём тавараабароту. Загатоўкі, на аснове продналога і рыначнага абароту і харак-

тарызуюць пачатковую стадыю новай эканамічнай палітыкі ў галіне загатовак. Побач з Наркампродам у ролі загатоўцаў выступае кааперацыя, рад дзяржаўных арганізацый, з затым прыватнік.

У пачатку гэтага перыяду Наркампрод збірае налог. Ён-жа кіруе загатоўкамі шляхам заключэння спецыяльных дагавароў з кааперацыяй, прычым апошняя не вызвалена яшчэ ад дзяржаўнага размеркавання па планам Наркампрода.

13 мая 1921 г. Соўнарком выносіць пастанову аб выдзяленні значнага абменнага фонда ў распараджэнне рабочай кааперацыі. 17-га мая 1921 г. Соўнаркомам зацвярджаецца дагавор паміж Наркампродам і Цэнтрасаюзам аб передачы спажыўкааперацыі ўсіх загатовак прадукцыі і сыравіны. 1921-22 загатоўчы год праходзіць яшчэ ва ўмовах надзвычайна слабага развіцця загатовак, на аснове тавараабмену. Пераважную масу дае не тавараабмен, а продналог.

На 1/XI-1921 г. продналог даў па збожжа-фуражу 57,4 млн. пудоў, у парадку-ж тавараабмену ўсяго толькі 4,1 млн. пудоў. („На новых путях". Итоги новой экономической политики под редакцией комиссии СТО. Выд. СТО, стар. 143).

К гэтаму-ж перыяду адносіцца пачатак загатоўчай дзейнасці сельска-гаспадарчай кааперацыі. Да нэп'а сельска-гаспадарчай кааперацыі амаль не было, паколькі яе пярвічныя, нізавыя кааператывы былі падпарадкаваны сельска-гаспадарчай секцыі Губсаюзаў, а Усерасійскіх цэнтраў сельска-гаспадарчай кааперацыі ў пачатку нэп'а ўжо не было. 25 жніўня 1921 г. быў утворан Усерасійскі саюз сельска-гаспадарчай кааперацыі. У 1921-22 г. загатоўчая дзейнасць Сельскага саюза па дакладу Праўлення выражалася ў суме 4.500.000 залатых рублёў.

Значыць ужо ў 1921-22 г. сельска-гаспадарчая кааперацыя заняла моцныя пазіцыі ў галіне загатовак.

*Перыяд 1922-23 г.* Загатоўчая кампанія 1922-23 г. прайшла пад знакам рашучага пералому ў бок увязкі загатовак з абставінамі і ўмовамі развіцця тавараабароту ў краіне прыпрыстасавальна да прынцыпаў новай эканамічнай палітыкі. Калі ў 1921-22 г. было загатоўлена 381.407 збожжапрадуктаў (у дэкатонах), то ў 1922-23 г. было загатоўлена ўжо 591.592. Але характэрным для 1932-23 г. з'яўляецца тое, што фонды, прызначаныя для снабжэння загатовак складаліся на 1/X-1922 г. на $^3/_4$ з,тавараў. Асноўная маса загатовак праводзіцца апаратамі „Хлебапрадукт" (арганізаванага 5-га мая 1922 г. з капіталам у 40 млн. руб. золатам) і Наркампрода з прыцягненнем сельска-гаспадарчай і спажыўкааперацыі. Буйным дзяржаўным загатоўцам быў у гэту кампанію Дзяржбанк, які праводзіў загатоўкі непасрэдна ўласным апаратам, а таксама фінансаваў дзяржаўныя і кааперацыйныя арганізацыі. У 1922-23 г. да загатовак былі прыцягнуты

арганізацыі дзяржпрамысловасці і Дзяржгандля. Што датычыцца прыватных загатоўцаў, то ў 1922-23 г. яны ўжо ўдзельнічалі ў загатоўках, а ў некаторых раёнах удзельнічалі вельмі актыўна.

У 1921-22 г. ужо ўжываўся метад кантрактацыі бавоўны. Здача сырца праводзілася на аснове ўмоў, заключаемых Туркбаваўкомам з пасеўшчыкам і групай пасеўшчыкаў. З першага лістапада 1921 г. па 25 кастрычніка 1922 г. Галоўбаваўкомам куплена ў Туркестане бавоўны ў пераводзе на валакно 415.950 пудоў. У сезон 1922-23 г. 82.735 пудоў (там-жа, стар. 210). Загатоўкі ільну праводзіліся Наркампродам у парадку дзяржаўнага тавараабмену, Цэнтрасаюзам (пераважна для экспарта), Сельскім саюзам. Вялікі размах ільно-загатовак выклікаў неабходнасць выдзялення з Сельсаюза ільнянай кааперацыі. У рэзультаце гэтага ў жніўні 1922 г. быў арганізаваны Ільноцэнтр. Разгортвалі ільнозагатоўчыя аперацыі таксама ільнотрэсты і Дзяржгандаль. Загатоўцам шэрсці было паявое таварыства „Шэрсць“, якое арганізавалася ў сакавіку. З астатніх загатоўцаў буйнае месца занялі Наркамзнешгандаль, Цэнтрасаюз і Губсаюзы.

Загатоўкі скураной сыравіны праводзіліся ў першыя гады нэп'а Скурсіндыкатам і ўваходзячымі ў яго трэстамі, Дзяржгандлем, змешаным акцыянерным таварыствам „Скурсыравіна“, Цэнтрасаюзам, арандатарамі і прыватнымі заводчыкамі і прыватнікамі—скупшчыкамі. Мы спыняемся на загатоўчым апараце таму, што ён адбівае новыя формы загатовак, прыстасавальна да абстаноўкі нэп'а. Гэтыя формы складваліся на аснове развіцця тавараабароту, пераключэння метада загатовак іменна на гэты шлях. Без гэтага быў-бы незразумелы пераход ад праднолога да грашовай формы падатку.

XII з'ездам РКП(б) у красавіку 1923 г. была прынята: „Резолюция о налоговой политике в деревне“, якая адмяняе продналог. Натуральныя плацяжы замяняліся грашовымі. „Совецкая ўлада можа і павінна—у адпаведнасці з расшырэннем аб'ёма рынка—вызваліць селяніна ад абавязку ўносіць свае плацяжы дзяржаве ў натуральным выглядзе і даць яму магчымасць уносіць частку гэтых плацяжоў у грашовай форме“ (З рэзалюцыі XII з'езда РКП(б), красавік 1923 г).

Пачаўся новы этап загатовак непадатковага характара.

Палітыка загатовак на працягу ўсіх перыядаў соцыялістычнага будаўніцтва была палітыкай неаддзялімай ад агульных задач пролетарскай дыктатуры па стварэнні новага соцыялістычнага грамадства. На кожным этапе загатоўкі мелі свае спецыфічныя асаблівасці, уласцівыя данаму ўзроўню соцыялістычнага аграмаджання і развіцця прадукцыйных сіл. Продразвёрстка, продналог, загатоўкі ў форме куплі дзяржаўнымі і кааперацыйнымі органамі часткі сельска-гаспадарчай прадукцыі, кантрактацыя, як адна з форм загатовак, абавязковыя пастаўкі, маючыя сілу падатку, усе гэтыя формы, спосабы і метады цэнтралізаваных загатовак, якія адказ-

ваюць абстаноўцы і ўмовам соцыялістычнага будаўніцтва,— усё-ж маюць агульнае, уласцівае ім усім, якое заключаецца ў тым, што на ўсіх гэтых этапах палітыка загатовак выходзіла з генеральнай лініі партыі, вырашаючай карэнныя інтарэсы пролетарыята і асноўнай масы сялянства ў працэсе соцыялістычнага будаўніцтва.

*Перыяд 1923-24 і 1924-25 гг.* Загатоўкі 1923-24 г. адбываліся ў абстаноўцы крызіса збыту і „ножніц" па лініі прамтаварных і сельска-гаспадарчых цэн. XIII партканферэнцыя, у сувязі з гэтым прыняла мерапрыемствы па пераманганню становішча, склаўшагася на рынку, якія ідуць па шляху зніжэння цэн на промтавары, зніжэння выдаткаў гандлёвага апарата, павелічэння экспарта збожжа, скарачэння ролі прыватніка—скупшчыка і пасярэдніка ў загатоўках і г. д. У выніку гэтага года было загатоўлена 684.240 дэкатон збожжапрадуктаў супроць 591.592 дэкатон у 1922-23 г., 834,2 тыс. ц ільну і г. д. Гэты загатоўчы год з'яўляецца пераломным, бо характарызуецца адменай натуральнага падатку, г. зн. далейшым зрухам у бок развіцця загатовак да больш разгорнутай закупкі сельска-гаспадарчай прадукцыі. Вынікі 1924-25 г. у галіне загатовак, на аснове закупак далі буйныя рэзультаты, якія сведчаць аб значным росце тавараабароту паміж горадам і вёскай. У 1924-25 гг. па даных Наркамгандля было загатоўлена (у дэкатонах) збожжапрадуктаў 524.842, мяса—14.744, масла—4.801, ільну—12.082, пянькі—2.555, махоркі—3.674, табаку—2.184, шэрсці—4.656, масланасення—59.890, яек—749 тыс. скрынь, скур вялікіх (у тысячах)—4.879, скур малых—6.877.

Пасля замены натуральнага продналога грашовым падаткам для загатовак пачалася новая паласа, якая характарызуецца метадам закупак сельска-гаспадарчай сыравінай і харчовай прадукцыі кааперацыйнай сістэмай і дзяржаўнымі загатоўчымі арганізацыямі на аснове развіцця рыначнага тавараабароту. Асноўным таваpаправодзячым каналам стала спажыўкааперацыя, рэарганізаваная дапасавальна да ўмоў нэп'а. Змянілася сістэма каапеeравання. Замест прымусовага каапеeравання і падпарадкавання Наркампроду, кааперацыя перабудоўваецца на аснове добраахвотнага членства (Постановления ЦИК'а и СНК от 23/XII-1923 и 20/V-1924 г., „Известия ЦИК" от 30/XII-1923 г. и от 21/V-1924 г.).

Сістэма загатовак, правадзімая Наркампродам, уступіла месца новай сістэме, пры якой загатоўкі сталі арганічнай часткай дзяржаўных і кааперацыйных гандлюючых арганізацый, а таксама дзяржаўных прамысловых і саматужных арганізацый, якія загатаўлялі часткова сельска-гаспадарчую сыравіну непасрэдна. Па меры росту прыватнага гандлю, рос і ўдзел яго ў загатоўках у рамках, рэгулюемых дзяржавай, на пэўных умовах, прыцягваемых да загатоўчай работы, прычым, прыватны капітал адыгрываў дапаможную ролю ў загатоўках усіх відаў сельска-гаспадарчай прадукцыі. Дзяржаўныя

і каапэрацыйныя загатоўцы ў пачатку праводзілі загатоўкі даволі раскідана, што на практыцы прыводзіла да нездаровай канкурэнцыі паміж імі, ажыятажу, ўздуванню цэн і г. д. Для перамогі гэтых недахопаў у маі 1922 г. пры Совеце Працы і Абароны ўтворана асобая камісія па ўнутраным гандлю (Комунутргандаль) для рэгулявання ўнутранага рынка, рэарганізаваная потым у красавіку 1924 г. у Наркамунугандаль.

Па меры ўзмацнення пазіцыі каапэрацыі і дзяржавы выцясняецца з загатоўчага рынка прыватны капітал, загатоўчы апарат у сувязі з эканамічнай палітыкай па выцясненні і абмежаванні капіталістычных тэндэнцый усё больш і больш аграмаджваецца, соцыялістычны сектар яго робіцца пераважаючым, потым пануючым і нарэшце адзіным. Так, напрыклад, у 1926-27 г. доля аграмаджанага сектара на збожжавым гандлёвым рынку складала 83%. У перыяд закупкі, як метада загатовак, вялікая рэгулюючая і плануючая роля падала на Дзяржбанк, як арганізацыю, якая ў асноўным крэдытуе і фінансуе загатоўцаў. Вялікую ролю ў адносінах планавання і рэгулявання адыгрывала сістэма снабжэння вёскі промтаварамі, стымулюючая рост прапаноў, а таксама сістэма цэн, устанаўліваемая дзяржавай як для промтавараў, так і для загатаўліваемай сельска-гаспадарчай прадукцыі (канвенцыйныя цэны).

Перыяд загатовак у парадку закупкі прынёс, зразумела, вялікі зрух у бок каласальна-узмацняючагася прытоку загатаўляемых мас. Так, напрыклад, збожжазагатоўкі 1926-27 г. складаюць 270% да загатовак 1921-22 г. Калі-ж узяць у адносінах да 1917-18 г., то 1926-27 г. дае 1.370%. Гэты паказчык зусім відавочна гаворыць аб велізарных зрухах, якія адбыліся за час аднаўленчага перыяду ў аб'ёме загатовак. Загатоўка сыравіннай прадукцыі ў парадку закупак і кантрактацыі характарызуецца ў адносінах такіх культур, як бавоўна, лён, буракі цукровыя, тым, што таварны выхад гэтых культур амаль поўнасцю ахопліваецца планавымі загатоўцамі. Такія культуры, як табак, ахоплены былі планавымі загатоўцамі 1924-25 г. на 54,46%, 1926-27 г. на 93,6%, махорка: 57% і 88,8%.

1925-26 *загатоўчы год.* 1925-26 загатоўчы год быў годам буйнейшых поспехаў партыі і Совецкай улады ў галіне цэнтралізаваных загатовак. Гэты год рэканструкцыйнага перыяду даў значны скачок росту загатовак як па збожжапрадуктах, так і па сыравіне ў параўнанні з 24/25 годам. Аб гэтым гаварылі наступныя даныя Наркамгандля і ЦСУ. У 1925-26 г. загатоўлена (у дэкатонах) мяса—18.290 (14.744); масла—6.006 (4.801), масланасення—111.104 (59.890), ільну—18.436 (12.082), пянькі—4.406 (2.555), махоркі—8.520 (3.674), табаку—3.780 (2.184), шэрсці—1.564 (4.656—паказчык 1924-25 г., які перавышае 1925-26 г.), скуры вялікія—5.873 (4.879 у тыс. штук), скуры малыя—15.487 (6.881), футравіна ў тыс.руб. 29.645 (18.744), яек у тыс. скрынь 706 (749—паказчык 1924-25 г.,

які перавышае 1925-26 г.). Збожжа загатоўлена 434 млн. пудоў. Гэты поспех, зразумела, невыпадковы. У ім сказаліся працэсы рэканструкцыі і тая дапамога сельскай гаспадарцы, якая сістэматычна аказвалася дзяржавай па меры развіцця індустрыі. Растучыя прадукцыйныя сілы прад'яўлялі яшчэ большыя запатрабаванні. Гэтыя поспехі не маглі задаволіць росту патрэбнасці краіны, якая ішла па шляху расшыранай социялістычнай рэпрадукцыі. У гэтай сувязі XIV з'ездам партыі даецца дырэктыва.

„Падтрымліваць і штурхаць уперад развіццё сельскай гаспадаркі па лініі павышэння земляробчых культур, развіцця тэхнічных культур, павышэння тэхнікі земляробства (трактарызацыя), індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі, упарадкавання справы землекарыстання і ўсямернай падтрымкі рознастайных форм калектывізацыі сельскай гаспадаркі". Такі далейшы шлях класавай барацьбы на фронце загатоўчага перыяду. Да недахопаў 1925-26 загатоўчага года трэба аднесці ваганні паміж асеннімі цэнамі (калі збожжа прадае асноўная маса) і цэнамі другой палавіны года (калі прытрымаўшы хлеб, кулак прадае па больш высокай цане, чым бядняк і серадняк у першае паўгоддзе). Гэта была адна з форм класавай барацьбы на фронце загатовак таго перыяду. Партыя прыняла меры да далейшага абмежавання і выціснення эксплаататарскіх тэндэнцый кулацтва.

„Гэты год з'яўляецца першым,—гаварыў т. Сталін на XIV з'ездзе ВКП(б),—калі мы цяжар падатку, падатковы прэс звялі да мінімума, і калі селянін і агенты ўрада зыйшліся твар к твару на рынку, як роўныя. Вось гэтыя акалічнасці не былі ўлічаны нашымі плануючымі органамі, якія вазнамерыліся загатовіць на 1-га студзення 1926 г. 70% усіх загатовак збожжа на год. Не ўлічылі мы таго, што мужык таксама ўмее манеўраваць, што ён адкладвае свой валютны тавар—пшаніцу—для будучага, у чаканні далейшага пад'ёму цэн і лічыць лепшым пакуль што выходзіць на рынак з іншым, менш цэнным збожжам. Гэтага мы не ўлічылі".

Другім недахопам збожжазагатовак таго года—некаторы ажыятаж, як рэзультат вялікай колькасці загатоўцаў.

Ліпеньскі пленум ЦК ВКП(б) (у 1926 г.) па пытанню аб арганізацыі збожжазагатоўчага апарата выносіць наступную рэзалюцыю: „інтарэсы снабжэння ўнутранага збожжавага рынка, а таксама інтарэсы экспарта і правядзенне палітыкі цэн, адпавядаючай інтарэсам народнай гаспадаркі Саюза, патрабуюць захавання ў руках дзяржавы цэнтралізаванага збожжазагатоўчага апарата, які аб'ёмам сваіх загатовак і масай хлеба, што сканцэнтроўваецца ў яго руках, мог-бы фактычна панаваць як на загатоўчым, так і на спажывецкім рынку.

*1926-27 г.* 1926-27 г. праходзіць ва ўмовах далейшай рэканструкцыі. Гэта несумненна наклала адбітак на загатоўкі. Узмоцненыя рэканструкцыйныя працэсы, выкліканыя

соцыялістычнай індустрыялізацыяй і ростам прадукцыйных сіл, прад'явілі вялікія запатрабаванні да харчовага і сыравіннага рынка. Вырас аб'ём загатовак. Калі ў 1925-26 г. было загатоўлена 434 млн. пуд. збожжа, то ў 1926-27—596 млн. пудоў, масла ў 1925-26—6.006 дэкатон, у 1926-27 г.—ужо 7.800 дэкатон, яек (у тыс. скрынь)—706 і 1.405,2, шэрсці 1.564 і 3.216 дэкатон, пянькі 4.406 і 4.797, скур вялікіх (у тыс. штук) 5.873 і 7.611, скур малых 15.487 і 17.397, футравіны (у тыс. руб.) 29.645 і 50.210,5. Вынікі загатовак ільну далі зніжаны паказчык—12.947 дэкатон супроць 18.436 у 1924/26 г. Гэта тлумачыцца тым, што на лён, як і на некаторыя іншыя віды сыравіны, была ў перыяд загатовак 1926-27 г. некаторая неадпаведнасць паміж цэнамі на збожжа і сыравіну, а таксама на промтавары і збожжа. Каб ліквідаваць ствaрыўшыяся цяжкасці для расшырэння пасеву зерневых, асабліва тэхнічных культур, партыя ажыццяўляла лінію на зніжэнне промтаварных цэн і на захаванне ўстанавіўшагася ўзроўню збожжавых цэн у процівагу апазіцыйным патрабаванням аб тым, што „інтарэсы накаплення і тэмпы індустрыялізацыі дыктуюць палітыку высокіх прамысловых цэн". Партыя катэгарычна абвергла „недарэчныя, разлічаныя на стварэнне дадатковых цяжкасцей у развіцці народнай гаспадаркі дэмагагічныя прапановы апазіцыі" (Ліпеньскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б) 1927 г.). Асаблівасцю 1926-27 загатоўчага года з'яўляецца яшчэ і тое, што гэта быў год росту кантрактацыйнага метада загатовак і росту сельска-гаспадарчай кааперацыі ў загатоўках. Удзельная вага сельска-гаспадарчай кааперацыі ў загатоўках відаць з наступнай табліцы:

| | Збожжа | Бав. | Лён | Пянька | Таб. | Мах. | Шэрсць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925-26 г. | 24,0 | 75,5 | 23,6 | 12,0 | 66,0 | 65,2 | 40,0 |
| 1926-27 г. | 27,0 | 88,8 | 34,7 | 22,7 | 72,0 | 78,2 | 45,0 |
| Удзельная вага с/г кааперацыі ў снабжэнні прамысловасці сыравінай складала ў гэтыя-ж гады | | | | | | | |
| 1925-26 г. | — | 75,0 | 21,4 | 14,0 | 50,0 | 45,3 | 45,0 |
| 1926-27 г. | — | 89,0 | 24,4 | 11,1 | 83,5 | 80,0 | 55,0 |

Мы прыводзім даныя гэтых гадоў таму, што 1926-27 г. з'яўляецца годам значна большага пашырэння кантрактацыі.

Калі да 1926-27 г. кантрактаваліся галоўным чынам бавоўна, буракі, табак, то пачынаючы з 1926-27 г. кантрактацыя ахоплівае лён, сонечнік, канюшыну, хмель, кенаф і інш. прадукты.

Супастаўляючы ўдзельную вагу сельска-гаспадарчай кааперацыі ў загатоўках 1926-27 г. з 1925-26 мы бачым значнае павышэнне ролі сельска-гаспадарчай кааперацыі ў загатоўках і снабжэнні сыравіннай прамысловасці, галоўным чынам у сувязі з расшырэннем практыкі кантрактацыі.

*1927-28 загатоўчы год.* 1927—28 загатоўчы год характарызуецца ўмовамі далейшага паскоранага рэканструкцыйнага працэса соцыялістычнага будаўніцтва. Рост патрэбнасці, з аднаго боку, гібель каля 20% азімых пасеваў і недарод яравых культур у рашаючых раёнах, такавы фон, на якім адбывалася загатоўчая кампанія 1927-28 г., у працягу якога ўзніклі значныя затрудненні са збожжам.

Чым аб'ясняліся затрудненні са збожжам ў 1927-28 г.? Аналіз гэтых затрудненняў даны т. Сталіным.

„Аснова нашых збожжавых затрудненняў заключаецца ў тым, што рост вытворчасці таварнага збожжа ідзе ў нас больш павольна, чым рост патрэбнасцей на збожжа. Расце прамысловасць. Расце колькасць рабочых. Растуць гарады. Растуць, нарэшце, раёны вытворчасці тэхнічнай сыравіны (бавоўна, лён, буракі і г. д.), якія прад'яўляюць попыт на таварнае збожжа. Усё гэта вядзе да быстрага росту патрэбнасцей на збожжа, на таварнае збожжа" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 386). Тая акалічнасць, што серадняк стаў цэнтральнай фігурай земляробства, заключала ў сабе і дадатныя і адмоўныя бакі. Дадатным бокам працэса асераднячвання было тое, што па іншаму, чым пры капіталізме, адбывалася расслаенне вёскі. Асноўнай і пераважнай масай сталі серадцякі. Палітычна і эканамічна гэта азначала, што велізарныя слаі бядняцтва, на аснове ажыццяўлення генеральнай лініі партыі, падняліся на ўзровень серадняцкай індывідуальнай гаспадаркі, што з'яўлялася эканамічным выражэннем палітычнай лініі партыі апоры на беднату і саюза з серадняком. Гэты-ж працэс азначаў, што пралетарыят разам з асноўнай масай сялянства абмяжоўваў і выцясняў эксплаататарскія тэндэнцыі кулацтва.

Працэс асераднячвання вёскі і ператварэння серадняка ў цэнтральную фігуру ў земляробстве азначаў ўмацаванне пазіцый пролетарыята ў вёсцы на аснове палітычнай і эканамічнай змычкі.

Але ў той-жа час гэты працэс суправаджаўся драбненнем гаспадарак. У лічбовым выражэнні гэта выразілася ў тым, што калі да вайны налічвалася 15-16 мільёнаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак, то ў 1927-28 г. мы мелі ўжо 24-25 млн. сялянскіх гаспадарак, а гэта азначала, што працэс асераднячвання быў адначасова працэсам развіцця дробнатаварнай сельскай гаспадаркі, якая дае ў процівагу буйнай гаспадарцы мінімальную колькасць таварных лішкаў.

Тав. Сталін у гутарцы са студэнтамі Свярдлоўскага універсітэта 28-га мая 1928 г. на пытанне, чым аб'ясняецца

тое, што мы даем таварнага збожжа ў два разы менш, а вывозім заграніцу у 20 разоў менш, чым у даваенны час, сказаў:

„Аб'ясняецца гэта, перш за ўсё і галоўным чынам, змяненнем будовы нашай сельскай гаспадаркі ў рэзультаце Кастрычніцкай рэволюцыі, пераходам ад буйнай памешчыцкай і буйнай кулацкай гаспадаркі, якая давала найбольшую колькасць таварнага збожжа, да дробнай і сярэдняй сялянскай гаспадаркі, якая дае найменшую колькасць таварнага збожжа. Ужо адно тое, што да вайны мы мелі 15-16 млн. індывідуальных сялянскіх гаспадарак, а цяпер мы маем 24-25 млн. сялянскіх гаспадарак, ужо адно гэта гаворыць аб тым, што асноўнай базай нашай сельскай гаспадаркі з'яўляецца дробная сялянская гаспадарка, якая дае мінімум таварнага збожжа" („Вопросы ленинизма", стар. 388).

Калі ўлічыць, што дробная і сярэдняя індывідуальныя сялянскія гаспадаркі давалі к моманту збожжавых затрудненняў таварнага збожжа' 11,2% да сумы сваёй прадукцыі, то робіцца зусім відавочным, што гэтыя індывідуальныя гаспадаркі не маглі задаволіць узросшы попыт на збожжа.

Зусім няправільным, скажаючым сапраўднасць, было сцверджанне правых (Фрумкін) аб тым, што збожжавыя затрудненні грунтуюцца на дэградацыі сельскай гаспадаркі, бо ў асноўных раёнах селянін расшырыў яравы клін ад 2 да 20%. Аб гэтым гавораць таксама тыя лічбы, якія былі прыведзены т. Сталіным у гутарцы са студэнтамі інстытута Чырвонай прафесуры: у 1925-26 г. на 1-е красавіка было загатоўлена 434 млн. пудоў збожжа, у 1926-27 г. на 1-е красавіка было загатоўлена 596 млн. пудоў збожжа, а ў 1927-1928 г. на 1-е красавіка было загатоўлена 576 млн. пудоў. Калі ўлічыць вываз заграніцу, то ў выніку загатоўчай кампаніі 1927-28 г. у нас засталося для патрэбнасцей краіны на 100 млн. пудоў больш, чым у папярэднім годзе і на 230 млн. пудоў больш, чым у 1925-26 г. І калі ўсё-ж мы ў 1927-28 г. перажывалі збожжавыя затрудненні, то гэта аб'ясняецца социяльна-эканамічнымі зрухамі, якія прывялі да раздраблення сялянскіх гаспадарак, з аднаго боку, і ростам патрэбнасцей і сувязей з узрастаннем прамысловасці гарадоў, колькасці рабочых, з другога, пры супраціўленні і спекуляцыі кулацтва.

Лібчы, прыведзеныя тав. Сталіным у гэтай гутарцы, гавораць аб тых социяльна-эканамічных зрухах, якія маглі адбыцца толькі ва ўмовах пролетарскай дыктатуры, якая дае магчымасць асноўную масу таварнай прадукцыі збожжа здабываць не ў памешчыцкіх і кулацкіх гаспадарках, а ў гаспадарках сераднякоў і беднякоў, што азначала не толькі вызваленне асноўнай масы сялянства ад памешчыцкай эксплаатацыі, але і падрывала ў асноўным эканамічную магутнасць кулацтва, падняла асноўную масу беднякоў на ўзровень серадняткоў, падняўшы ў той-жа час матэрыяльнае становішча серадняка ў параўнанні з даваенным часам, зра-

біўшы серадняка цэнтральнай фігурай у земляробстве. Але гэта гаворыць таксама і аб тым, што ў 1926-27 г. таварнасць збожжа, складаўшая да вайны 26%, у 1926-27 г. знізілася ўдвая і складала толькі 13,3%. А ў гэтым-та і заключалася збожжавае затрудненне ў той перыяд. Значыць, гэтыя збожжавыя затрудненні нельга было лічыць простай выпадковасцю.

На красавіковай канферэнцыі ЦК і ЦКК ВКП(б), якая адбылася ў 1928 г., былі падведзены вынікі збожжавай кампаніі 1927-28 г., дзе быў даны аналіз збожжавых затрудненняў і намечан цэлы рад мерапрыемстваў па арганізацыі збожжа-загатоўчай кампаніі на 1928-29 г. Гэтыя мерапрыемствы павінны былі дасягнуць такіх мэт: ударыць па кулаках і скупшчыках—спекулянтах, ужываючы 107 артыкул крымінальнага кодэкса і раздачу 25% канфіскуемага па суду ў спекулянтаў збожжа вясковай беднаце ў пазычку; узмацніць як вытворчасць прамысловых тавараў, так і завоз і снабжэнне вясковага рынка ў збожжзагатоўчых раёнах, узяць частку вясковых накапленняў шляхам абкладанняў заможнай і кулацкай часткі вёскі і ўзмацнення ўзяцця сродкаў у вёсцы для прадукцыйнага іх ужывання ў самой вёсцы, напрыклад, пазыка ўмацавання сялянскай гаспадаркі, закон аб самаабкладанні і г. д., стварэнне адзінага фронта збожжавых загатоўцаў і ліквідацыя канкурэнцыі паміж імі. У адносінах палітыкі цэн было прынята рашэнне аб стабільнасці цэн на збожжа і паніжэнне цэн на промтавары. Пленум мабілізаваў увагу партыі зверху да нізу на паспяховае правядзенне збожжавых загатовак. Было прынята рашэнне аб праверцы і чыстцы савецкага, партыйнага і кааперацыйнага апаратаў у збожжазагатоўчых раёнах ад элементаў, „якія не бачаць класаў у вёсцы і не жадаюць сварыцца з кулаком“. Пленум цалкам і поўнасцю ўхваліў лінію палітбюро, даную ў дырэктыўных пісьмах ад 6 студзеня і 13 лютага 1928 г. па пытаннях збожжазагатовак, якая намеціла задачы па ўзмацненні збожжазагатовак, у тым ліку і мерапрыемствы, насіўшыя надзвычайны характар. Пленум прыняў меры да ліквідацыі скажэнняў, перагібаў, дапушчаных на мясцах з боку партыйных і савецкіх органаў, якія выразіліся ў тым, што забаранялася ўнутрывясковая купля і продаж збожжа і „вольны“ збожжавы рынак наогул, праводзіліся вобыскі ў мэтах выяўлення лішкаў, там-сям пачалі практыкаваць заграджальныя атрады, уводзіць прамы прадуктаабмен, спаўзаць на рэйкі продразвёрсткі, канфіскуючы збожжавыя лішкі без судовага ўжывання 107-га артыкула.

Пленум фармуляваў гэтыя скажэнні і перагібы, як скажэнні, што пагражаюць „даць працяглы адмоўны як эканамічны, так і палітычны рэзультат“, бо яны „парушаюць асновы эканамічнай палітыкі партыі, пагражаюць эканамічнай сувязі паміж горадам і вёскай, падрываюць сістэму крэдытаў і пагражаюць аслабленнем саюза рабочага класа і асноўных мас серадняцкага сялянства“.

„Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК лічыць, што затрудненні ў збожжазагатоўках, меўшыя месца ў гэтым годзе, нельга лічыць выпадковасцю. Гэтыя збожжазагатоўчыя затрудненні звязаны з труднасцямі быстрага тэмпа індустрыялізацыі краіны, дыктуемага пролетарскай дзяржаве ўсей міжнароднай і ўнутранай абстаноўкай, і з памылкамі планавага гаспадарчага кіраўніцтва".

Калі продразвёрстка, як форма загатовак у перыяд ваеннага комунізма, праходзіла на базе ваеннага і палітычнага саюза пралетарыята з асноўнай масай сялянства, то зварот у той або іншай форме да продразвёрсткі ва ўмовах рэканструкцыйнага перыяду быў-бы не толькі парушэннем палітычнага саюза, а азначаў-бы барацьбу з серадняком. „Бываюць і такія выпадкі, калі барацьбу з кулацтвам спрабуюць ператварыць у раскулачванне, а збожжазагатоўчую работу— у продразвёрстку, забываючы, што раскулачванне пры нашых умовах ёсць глупства, а продразвёрстка азначае не саюз, а барацьбу з серадняком" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 402).

Для вырашэння зерневай праблемы і перамагання труднасцей наогул ва ўмовах рэканструкцыі народнай гаспадаркі, патрэбны быў не зварот да метадаў гаспадарання ваеннага комунізма, а метады і спосабы вырашэння гаспадарчых затрудненняў, якія адказваюць новым умовам у новай абстаноўцы.

Вырашэнне задачы па ліквідацыі збожжавых затрудненняў трэба было перамагчы такімі спосабамі, якія азначалі-б значны і рэзкі зрух у падняцці тварнасці сельскай гаспадаркі на аснове рэканструкцыі яе, апіраючыся на рэканструкцыю прамысловасці. Трэба было пачаць шырокае насаджэнне соўгасаў і калгасаў, аб'ядноўваючы простых таваравытворцаў, „як адзіны шлях вырашэння праблемы сельскай гаспадаркі наогул і зерневай праблемы ў асаблівасці" (Сталин, „Вопросы ленинизма" стар. 634).

Трэба адзначыць, што гэтую карэнную праблему, як практычную задачу, паставіла ў парадак дня наша партыя яшчэ на XV з'ездзе, калі не было яшчэ ў нас сур'ёзных збожжавых затрудненняў. У вядомай рэзалюцыі XV з'езда „О работе в деревне" прама гаворыцца, што: „у сучасны момант задача аб'яднання і пераўтварэння дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектывы павінна быць пастаўлена ў якасці асноўнай задачы партыі ў вёсцы" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 634—635).

Гэта азначала таксама і тое, што без рашучага наступлення на капіталістычныя элементы вёскі, без барацьбы з правым апартунізмам, мы не атрымалі-б дасягненняў на фронце загатовак. Трэба было ўва што-б гэта ні стала пакончыць з самацёкам, трэба было арганізаваць загатоўкі, мабілізаваць асноўныя масы сялянства супроць кулакоў. У гэтых адносінах вялікую ролю адыграў урала-сібірскі метад збожжазагатовак. Сутнасць яго заключалася ў тым,

што ў збожжазагатоўках актыўны ўдзел прымалі бядняцка-серадняцкія масы, складаючы планы самаабкладання, накіраваныя супроць кулацтва, што дало магчымасць забраць збожжавыя лішкі ў вярхушачных слаёў вёскі, мабілізуючы непасрэдна для гэтай работы бядняцка-серадняцкія масы. „Урала-сібірскі метад тым уласна і добры, што ён аблягчае магчымасць падняць бядняцка-серадняцкія слаі супроць кулакоў, аблягчае магчымасць зламіць супраціўленне кулакоў і прымусіць іх здаць збожжавыя лішкі органам совецкай улады“ (Сталин, „Вопросы ленинизма“, стар. 528).

У выніку 1927/28 г. было загатоўлена збожжа 576 млн. пудоў, астатніх прадуктаў (у дэкатонах):—масла 8.247, масланасення—12.342, ільну—12.252, пянькі—6.537, шэрсці—3.978, махоркі—7.838, табаку—2.994, скур вялікіх—10.370 (у тыс. шт.), скур малых—23.925, яек (у тыс. скрынь)—1.797,9, футравіны (у тыс. руб.)—72.230,5. Гэтыя даныя гавораць, што ў барацьбе на два фронты, партыя, не гледзячы на труднасці (у т. л. і гібель азімых і частковы недарод яравых у асноўных раёнах), усё-ж у асноўным утрымала аб'ём загатовак амаль на ўзроўні 1926-27 г., а па некаторых прадуктах харчавання і сыравіны перашагнула ўзровень 1926-27 г. (па шэрсці, вялікіх і малых скурах, футравіне, пяньцы, масланасенні, яйкам і маслу).

*Загатоўкі першай пяцігодкі.* Калі ўзяць этап першай пяцігодкі, то спецыфікай у галіне загатовак была неабходнасць увязаць загатоўкі з тэмпам, аб'ёмам і ўзроўнем развіцця ўсёй народнай гаспадаркі на аснове соцыялістычнай індустрыялізацыі і рэканструкцыі прамысловасці ў сельскай гаспадарцы. Гэты працэс—стрыжань палітыкі загатовак на працягу ўсяго рэканструкцыйнага перыяду.

*1928-29 загатоўчы год*—першы год першай пяцігодкі. Аналіз вынікаў загатоўчай кампаніі гэтага года гаворыць аб тым, што планаванне больш глыбока ахоплівае ўсю сістэму загатовак у сэнсе ахопу планавымі загатоўкамі і валавой прадукцыі. Так, напрыклад, ахоп загатоўкамі валавой прадукцыі зернепрадуктаў складае каля 15%, ільно-валакна—50,3%, бавоўны—95,0%, цукровых буракоў—92,3, сонечніка—50,3, пянькі—12,7, табаку—87,9, махоркі—94,5, скур вялікіх—75,2, скур малых—40,2, шэрсці—40,7. Гэта гаворыць ужо аб зрухах у бок павелічэння планавага ўздзеяння на сістэму загатовак. Загатоўкі адбываліся ў абстаноўцы ўзмацняўшайся класавай барацьбы і часткова недароду 1928 г.

1929-30 г.—год вялікага пералому, год павароту асноўнай масы сялянства на калгасны шлях. Загатоўчы год адзначаецца павышэннем ролі грамадзянага сектара сельскай гаспадаркі ў загатоўках. 1929-30 г. з'яўляецца доказам правільнасці генеральнай лініі партыі ў барацьбе з правым апартунізмам. 1929-30 г. з'яўляецца адным з пацверджанняў правільнасці сталінскай ацэнкі прыроды нашых гаспадарчых затрудненняў.

У пастанове ЦК ВКП(б) ад 29 чэрвеня 1929 г. партыя дае дырэктывы ў галіне арганізацыйных задач загатоўчай кампаніі 1929-30 г.: „Неабходна папярэдзіць паўтарэнне памылак мінулых год—захапленне самацёкам... Для націску на кулака,—буйнага трымальніка збожжа, для супроцьдзеяння супраціўленню кулацкіх слаёў неабходна з самага пачатку кампаніі скарыстаць вопыт арганізацыі бядняцка-серадняцкай грамадскасці вакол партыі і советаў, які набыты ў рэзультаце мінулай кампаніі. Гэты вопыт павінен быць скарыстаны з тым, каб збожжавая кампанія з самага пачатку пайшла з найбольшай арганізаванасцю".

Партыя накіроўвае ў вёску для арганізацыі загатовак, выкананне якіх з'яўляецца ўмовай выканання пяцігодкі, большэвікоў і беспартыйны рабочы актыў для ўмацавання ў класавай барацьбе з кулацтвам пазіцый соцыялістычнага сектара і мабілізацыі беднякоў і серадпякоў вакол задачы выканання плана загатовак. У 1930 г. было загатоўлена 1.350 млн. пудоў зерня.

Вынікі загатовак 1929-30 г. даюць наступныя рэзультаты: (у дужках узяты 1928/29 г.): ільно-валакна—226.895 (172.450), пянькі—66.254 (65.988), бавоўны—824.868 (788.295), цукровых буракоў—6.038.510 (9.366.790). Соцыялістычны сектар дае ўдвая больш, чым у загатоўках 1928-29 г., хоць пераважную масу загатоўчай зерневай прадукцыі далі яшчэ аднаасобнікі—11.879.165 т. Гэта сведчыць аб тым, што як гады, характарызаваныя гадамі труднасцей, асабліва ў адносінах збожжазагатовак, так і 1929-30 г. быў годам не размычкі, як сцвярджалі правыя апартуністы, а далейшага ўмацавання змычкі з асноўнай масай сялянства ў абстаноўцы павышаючайся ўдзельнай вагі соцыялістычнага сектара. 1929-30 г. быў годам, на працягу якога быў створаны збожжавы рэзервны фонд.

Збожжазагатоўчая кампанія 1930-31 г. характарызуецца абстаноўкай, якая значна адрозніваецца ад абстаноўкі 1929-30 г. Калгасы і соўгасы занялі ў аб'ёме дзяржаўных загатовак 40,1%. Рост соцыялістычнага сектара наперад вызначыў рост пасеўнай плошчы, ураджайнасці і валавога збору збожжа. Соўгасы і калгасы займалі 38,4% агульнай пасеўнай плошчы зерневых культур. Таварнасць збожжа ў 1930-31 г. у сувязі з ростам соцыялістычнана сектара паднялася на 27,6% супроць 20,8 мінулага года. Кулацтва развівала агітацыю з мэтаю затрымаць продаж збожжа дзяржаве з боку аднаасобнікаў, сабатуючы абавязацельствы перад дзяржавай, спрабавала спекуляваць збожжавымі лішкамі і сарваць збожжазагатоўкі. Такава абстаноўка загатоўчай кампаніі 1930-31 г. Выкананне плана загатовак было абавязковай умовай выканання пяцігодкі ў чатыры гады. Такавы былі дырэктывы партыі. У барацьбе з класавымі ворагамі, змагаючыся на два фронты, з правымі і „левымі" апартуністамі, партыя дабілася значных поспехаў на збожжавым фронце. Кампанія 1930-31 г. дала наступны рэзультат: усяго

было загатоўлена 202,5 млн. ц без гарнца. У тым ліку соўгасы і калгасы—40,1%, бядняцка-серадняцкія гаспадаркі—51,8%, кулацкія гаспадаркі—8,1% (у процантах).

На XVI з'ездзе партыі (чэрвень—ліпень 1930 г.) т. Сталіна сказаў, што „калі гады два назад мы мелі крызіс зерневай вытворчасці і апіраліся ў сваёй збожжазагатоўчай рабоце галоўным чынам на індывідуальную гаспадарку, то цяпер цэнтр цяжару перамясціўся на соўгасы і калгасы, а зерневы крызіс можна лічыць у асноўным вырашаным". Калі ў 1929-1930 г. бядняцка-серадняцкія гаспадаркі па сваёй удзельнай вазе займалі пераважнае месца—69,1%, а социялістычны сектар займаў толькі 14,6% у агульнай суме загатовак (без гарнца), у 1930 г. ужо 40,1%, у 1931 г. загатоўлена 1.400 млн. пудоў зерневага збожжа.

У выніку 1930-31 года загатоўлена: сонечніка—1.034.290 (у тонах), ільно-семя—3.703.400, канаплянага семя—108.730, ільнавалакна—220 тыс., пянькі—33.540, бавоўны—1.689.200, цукровых буракоў—14.600.000, табаку—46.554, махоркі—105.387, бульбы—7.027.000, гародніны—1.579.300, жывёлы і мяса—2.500.000, масла жывёльнага—92.500.

1931-32 г. у галіне збожжазагатовак вырашаецца далейшым рашучым наступленнем социялізма па ўсяму фронту. Соўгасы і калгасы ў дзяржаўных загатоўках занялі ўпершыню пануючае становішча—74,7%, у тым ліку соўгасы 8,3, калгасы 66,4. Удзельная вага бядняцка-серадняцкіх гаспадарак складала ў гэтых загатоўках 22%. Калі ў 1926-27 г. кулацка-заможныя гаспадаркі ў таварных лішках збожжа займалі 20%, то ў кампаніі 1931-32 г. каля 4%. „Калгаснае сялянства ўжо ператварылася ў цэнтральную фігуру ў земляробстве, калгасы сталі асноўнымі вытворцамі не толькі ў галіне зерня, але і важнейшай сельска-гаспадарчай сыравіны (бавоўны, буракоў, сонечніка і інш.).

Роля бедняка, серадняка-аднаасобніка ў сельска-гаспадарчай вытворчасці стала другараднай. Завяршаецца ліквідацыя кулацтва ў зерневых і сыравінных раёнах СССР" (З рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б) ад 12/VI-1931 г.). На гэтым фоне праходзілі загатоўкі 1931-32 г. У трэцім годзе пяцігодкі былі зроблены далейшыя буйныя ўкладанні ў сельскую гаспадарку, накіраваныя для яе социялістычнай рэканструкцыі. Размеры гэтых укладанняў вызначаны пастановай ЦК ВКП(б) і Саўнаркома СССР ад 31/I-1931 г. „О контрактации яровых посевов". Ажыццяўленне мерапрыемстваў, намечаных гэтай пастановай, мабілізацыя масы калгаснікаў, беднякоў і серадннкоў-аднаасобнікаў вакол партыі на аснове гэтай пастановы,—было важнейшым звяном у збожжазагатоўчай кампаніі таго часу, маючы на ўвазе, што зерневая праблема хоць і вырашана, але не страціла сваёй актуальнасці, палітычнага і эканамічнага значэння ў справе далейшага згуртавання мас у барацьбе за збожжа, памятаючы ленінскі лозунг: барацьба за збожжа—барацьба за социялізм. Гэта абазначала барацьбу з самацёкам, барацьбу

з кулацтвам, барацьбу з правым апартунізмам, як рупарам кулацтва. Партыя папярэджвала, мабілізоўвала на барацьбу за збожжа, улічваючы, што загатоўкі гэта не проста тэхнічны спосаб атрымання харчу і сыравіны, а важнейшы ўчастак класавай барацьбы. „Памылкова было-б думаць, што члены калгасаў ужо ператварыліся ў соцыялістаў“ (Сталін). Гэта абавязвала арганізаваць зверху да нізу кампанію па загатоўках, як у адносінах соцыялістычнага сектара, так і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, удзельная вага якіх тады яшчэ складала каля чверці ў загатоўчым плане. Гэта прадпалагала далейшы бой з апошнім капіталістычным класам—кулацтвам. Кулацкае супраціўленне загатоўкам у 1931-1932 г. не толькі не аслабявала ў сувязі з ростам соцыялістычнага сектара, а наадварот, па меры ўзмацнення яго пазіцый яно яшчэ больш узмацнялася. Кулацтва супраціўлялася як па лініі выканання цвёрдых заданняў, так і па лініі арганізацыі сабатажа сярод аднаасобнікаў. Партыя арганізоўвала бядняцка-серадняцкія масы ў барацьбе з кулацтвам, у барацьбе за выкананне пяцігодкі ў 4 гады.

У 1931-32 г. партыя павінна была ўдарыць па апартуністычнаму кіраўніцтву Саюзцукру за буржуазныя тэндэнцыі, якія выразіліся ў тым, што маючы таварных лішкаў да 394 тыс. т, праўленне Саюзцукру рашыла здаць дзяржаве толькі 131 тыс. т, ашукваючы дзяржаву пераўмяншэннем валавога збору і пераўвелічэннем унутраных патрэбнасцей, скрываючы такім чынам таварныя лішкі. У сваёй пастанове ад 25/X 1931 г. ЦК ВКП(б) выкрыў гэтыя буржуазныя тэндэнцыі, зняў кіраўніцтва Саюзцукру, мабілізаваў на гэтым прыкладзе ўсе арганізацыі на барацьбу за выкананне плана загатовак.

Аналагічная карціна затым выявілася і ў Зернетрэсце. ЦК ВКП(б) нанёс рашучы ўдар буржуазным тэндэнцыям і на гэтым участку загатовак.

У прамове на нарадзе гаспадарнікаў (23/VI-31 г.) т. Сталін канстатаваў, што „мы перамаглі збожжавае затрудненне і не толькі перамаглі, але вывозілі заграніцу такую колькасць збожжа, якую не вывозілі за час існавання Совецкай улады“. Такавы ітогі палітыкі партыі ў галіне вырашэння зерневай праблемы на аснове соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Значыць, вырашэнне зерневай праблемы азначае паспяховы працэс калектывізацыі, рост пасеўнай плошчы і таварнасці сельскай гаспадаркі на новай соцыяльнай і тэхніка-эканамічнай аснове. Іменна таму, а гэта і з'яўляецца асаблівасцю збожжазагатоўчай кампаніі 1931-32 гг., калгасы здалі $^2/_3$ агульнай колькасці дзяржзагатовак гэтага года, а соўгасы таксама сталі масавымі пастаўшчыкамі здабытага імі зерня. Трэба адзначыць і тую надзвычайна важную акалічнасць, што ў 1931-32 г. МТС здалі дзяржаве збожжа больш, чым было загатоўлена ў 1924-25 г.

Збожжазагатоўчая кампанія праводзілася пад лозунгам: „ні аднаго цэнтнера збожжа прыватніку“, „недапускаючы

недаацэнкі ролі аднаасобнага сектара ў выкананні плана збожжазагатовак", „устанаўліваючы цвёрдыя заданні кулацка-заможным гаспадаркам па здачы імі збожжа дзяржаве" (З пастановы ЦК ВКП(б) ад 15 ліпеня 1931 г.).

„Паводле рашэння большасці калгаснікаў азімыя пасевы новых членаў калгаса аграмаджваюцца і ўборка іх праводзіцца калектыўна" (чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б)).

„Не дапускаць разрыву паміж загатоўкамі і вывазам, дабіцца адзінства загатовак і вывазу збожжа". „Толькі тое збожжа можа лічыцца загатоўленым, якое не застрала ў так званых глыбінных пунктах, якое падвезена да прыстанцыённых пунктаў, элеватараў, млыноў" (з пастановы ЦК ВКП(б) аб арганізацыі загатовак 1931-32 г.). „Безадкладна заняцца падрыхтоўкай і арганізацыяй транспартных сродкаў для быстрага і пасляховага перавозу збожжа" (там-жа).

Гэтыя лозунгі з'яўляюцца прыкладам таго, як партыя, даючы дырэктывы, у якіх, побач з чоткім аналізам абстаноўкі намячалася далейшае наступленне на кулацтва і на аснове суадносін класавых сіл намячаліся перспектывы далейшага развіцця па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. У той-жа час гэтыя дырэктывы з'яўляліся спалучэннем задач, якія даюць агульны напрамак развіццю і размяшчэнню сіл у барацьбе з кулацтвам, з задачамі аперацыйнымі, задачамі сёнешняга дня, намячаючы тое звяно, за якое трэба ўхапіцца ў даны момант. Тут мы бачым прыклад таго, як практычныя, аперацыйныя, гаспадарчыя, штодзённыя мерапрыемствы падымаюцца на высокі прынцыповы ўзровень вялікіх палітычных задач, вакол якіх мабілізуюцца масы для далейшага наступлення на класавага ворага. Такія задачы, як проціпаставіць дробна-буржуазным тэндэнцыям учарашняга аднаасобніка—сёнешняга калгасніка лозунг „ні аднаго цэнтнера збожжа прыватніку", як арганізацыя мас і правядзенне вялікай палітычнай кампаніі па аграмаджанні на дабравольных пачатках азімых пасеваў новых членаў калгасаў і г. д., усё гэта патрабавала прывесці ў рух шматмільённыя масы калгаснага бядняцкага сялянства, давесці да сазнання кожнага палітычную і эканамічную сутнасць гэтага мерапрыемства ў справе барацьбы з кулацтвам, умацавання калгаснага ладу, пасляховага выканання загатовак, як умовы выканання пяцігодкі ў чатыры гады. Зразумела, не ўсюды паасобныя партыйныя совецкія арганізацыі своечасова праводзілі ў жыццё гэтыя мерапрыемствы, зразумела, былі праваапартуністычныя вылазкі, скажэнні і скрыўленні генеральнай лініі партыі на паасобных участках з боку паасобных звеняў.

Падобныя скажэнні і скрыўленні генеральнай лініі адлюстроўвалі класавую барацьбу, супраціўленне кулацтва, сабатаж, шкодніцтва і г. д. Партыя прадаўжала барацьбу з правым апартунізмам, як галоўнай небяспекай, з „левым" апартунізмам, двурушніцтвам, прымірэнцтвам, контррэволюцыйным трацкізмам.

Левы загіб у працэсе загатовак быў вельмі рознастайным: адміністраванне замест арганізацыі і мабілізацыі мас; перабкладанне серадиякоў і дапасаванне да іх метадаў загатовак, устаноўленых для кулацка-заможнай часткі вёскі, а часамі і індывідуальнае абкладанне не толькі серадиякоў, але нават і паасобных беднякоў; складанне загатоўчых планаў без уліку канкрэтных асаблівасцей раёна, калгаса, гаспадаркі і г. д. Гэта замянялася камандваннем, загадамі. У барацьбе на два фронты партыя дасягнула вялікіх поспехаў на фронце загатовак.

*Перыяд 1932-33 г.* Абстаноўка, у якой краіна ўступіла ў загатоўчую кампанію 1932-33 г., ахарактарызавана ў пастанове СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 6 мая 1932 г. Там гаворыцца:

„На аснове перамогі калгаснай і соўгаснай сістэмы гаспадаркі над сістэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элементаў у вёсцы, СССР у два гады дасягнуў такога разгортвання зерневай гаспадаркі, расшырэння пасеўных плошчаў і росту валавой прадукцыі зерня, што замест 660 млн. пудоў зерня (разам з гарнцам), загатоўленых ад ураджаю 1928 г. на аснове аднаасобнай гаспадаркі,—у 1930 г. дзяржаўныя загатоўкі дасягнулі 1350 млн. пудоў зерня (разам з гарнцам), а ў 1931 г., не гледзячы на засуху—1.400 млн. пуд. (разам з гарнцам)“.

„Гэтыя поспехі,—гаворыцца далей у пастанове,—аб'ясняюцца перш за ўсё тым, што калгасы, як буйная аб'яднаная гаспадарка, атрымалі магчымасць праз машынна-трактарныя станцыі ўжываць і найлепш выкарыстоўваць трактары і машыны, расшырыць пасеўныя плошчы і палепшыць агратэхнічную пастаноўку справы, а соўгасы ператварыліся ў буйнейшыя фабрыкі зерня, якія забяспечваюць дзяржаве з года ў год усё растучы збожжавы фонд“.

У гэтым дакуманце падведзены палітычныя ітогі папярэдніх двух год, асаблівасцю якіх з'яўляецца тое, што яны з'яўляюцца гадамі „разгрому кулацкіх элементаў у вёсцы“ і „перамогі калгаснай і соўгаснай сістэмы гаспадаркі над сістэмай аднаасобнай гаспадаркі“ (з пастановы СНК і ЦК ВКП(б) ад 6/V-33 г.). Пастанова ад 6 мая з'яўляецца буйнейшым палітычным мерапрыемствам у тым сэнсе, што для загатовак 1932-33 гг. ствараліся новыя ўмовы, новая абстаноўка, што і з'яўляецца спецыфічнай асаблівасцю загатовак таго года, якая адрознівае ўмовы і абстаноўку загатовак ад папярэдніх год. Самым характэрным для загатовак з ураджаю 1932 г. з'яўляецца задача, пастаўленая СНК і ЦК ВКП(б) аб разгортванні калгаснага гандлю.

„У сувязі з гэтым непарыўным ростам колькасці прамысловых тавараў і ростам вытворчасці зерня ў вёсцы павялічваюцца магчымасці разгортвання калгаснага гандлю. Калгасны гандаль становіцца ўсё больш важнай дадатковай

крыніцай снабжэння гарадоў прадуктамі сельска-гаспадарчай вытворчасці.

У сувязі з гэтай акалічнасцю Совецкая улада атрымала магчымасць, побач з метадам дзяржаўных збожжазагатовак практыкаваць як сродак снабжэння гарадскога насельніцтва другі метад—метад гандлю збожжам саміх калгасаў і калгаснікаў. Задача заключаецца ў тым, каб у інтарэсах далейшага расшырэння тавараабароту паміж горадам і вёскай і яшчэ большага палепшання снабжэння гарадскога насельніцтва спалучыць гэтыя два метады і разгарнуць калгасны гандаль збожжам за кошт некаторага скарачэння дзяржаўных збожжазагатовак па сялянскаму сектару, павялічыўшы адначасова загатоўкі па соўгаснаму сектару" (пастанова СНК і ЦК ВКП(б) ад 6/V-1933 г.).

У гэтым гвоздзь пытання. Не проста загатоўкі, а спалучэнне загатовак з разгортваннем калгаснага гандлю, спалучэнне *двух* метадаў: *загатовак і калгаснага гандлю.* Усякае неразуменне або скрыўленне лініі ў гэтым пытанні, усякае дзяляцтва без уліку неабходнасці гэтага спалучэння, апартунізм, і правы, як галоўная небяспека і „левы", усякае прымірэнцтва і двурушніцтва няўхільна затармазілі-б загатоўкі, былі-б на руку кулаку.

Вось гэтая-та спецыфічная асаблівасць загатовак на аснове спалучэння іх з разгортваннем калгаснага гандлю і не была ўлічана на мясцах у першыя часы загатоўчай кампаніі, не была ўлічана тая акалічнасць, што калгасны гандаль вызначае дзве цаны: дзяржаўную і рыначную. У пастанове ЦВК і СНК ад 20 мая 1933 г. „Аб парадку правядзення гандлю калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў сялян і змяншэнні падатку на гандаль сельска-гаспадарчымі прадуктамі" сказана „Гандаль калгасаў, калгаснікаў і аднаасобных працоўных сялян праводзіць па цэнах, якія складваюцца на рынку", а гэта азначае, што калгасны гандаль, „як рэволюцыйнае мерапрыемства" (Сталін) мае: апрача адмоўнага яшчэ і дадатны бок, што ён пры няжжытых у эканоміцы і сазнанні нават калгаснага сялянства дробнабуржуазных перажыткаў, выкліча тэндэнцыю здаць дзяржаве паменш, прадаць пабольш і даражэй, гэта значыць адаб'ецца на ходзе загатовак, калі іх не арганізаваць адразу пасля абмалоту, які ідзе следам за ўборкай.

Бліскучы аналіз поспехаў і труднасцей на збожжавым фронце, даны т. Сталіным у прамове на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б).

„У чым заключаецца галоўны недахоп нашай работы за апошні год, за 1932 г.?

Галоўны недахоп заключаецца ў тым, што збожжазагатоўкі ў гэтым годзе прайшлі ў нас з большымі труднасцямі, чым у мінулым годзе, чым у 1931 г.

Аб'ясніць гэта дрэнным станам ураджаю ніяк нельга, бо ўраджай у нас быў у гэтым годзе не горш, а лепш, чым у мінулым годзе. Ніхто не можа адмаўляць, што валавы

збор збожжа ў 1932 г. быў больш, чым у 1931 г., калі засуха ў 5 асноўных раёнах паўночнага ўсхода СССР значна скараціла збожжавы баланс краіны. Зразумела, мы і ў 1932 г. мелі некаторыя страты ўраджаю з прычыны неспрыяючых кліматычных умоў на Кубані і Тераку, а таксама ў некаторых раёнах Украіны. Але не можа быць сумнення ў тым, што гэтыя страты не складаюць і палавіннай долі тых страт, якія мелі месца ў 1931 г. у сілу засухі ў паўночна-усходніх раёнах СССР. Значыцца, у 1932 г. збожжа ў нас было ў краіне больш, чым у 1931 г. І ўсё-ж, не гледзячы на гэтую акалічнасць, збожжазагатоўкі прайшлі ў нас у 1932 г. з большымі затрудненнямі, чым у мінулым годзе.

У чым тут справа? Дзе прычыны гэтага недахопу нашай работы? Чым аб'ясніць гэтую неадпаведнасць?

1. Аб'ясняецца гэта перш за ўсё тым, што нашы таварышы на месцах, нашы вясковыя работнікі не сумелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай аб'яўленнем калгаснага гандлю збожжам. І іменна таму, што яны не ўлічылі новай абстаноўкі, іменна таму яны не сумелі перабудавацца на новы лад, дапасавальна да новай абстаноўкі. Пакуль не было калгаснага гандлю збожжам, пакуль не было двух цэн на збожжа—дзяржаўнай і рыначнай—абстаноўка ў вёсцы была адна. З аб'яўленнем калгаснага гандлю збожжам абстаноўка павінна была змяніцца крута, бо аб'яўленне калгаснага гандлю азначае легалізацыю рыначнай цаны на збожжа, больш высокай чым устаноўленая дзяржаўная цана. Нечага і даказваць, што гэта акалічнасць павінна была стварыць у сялян пэўную стрыманасць у справе здачы збожжа дзяржаве. Селянін разважаў так: „аб'яўлены калгасны гандаль збожжам, легалізавана рыначная цана, на рынку я магу за тую-ж колькасць збожжа атрымаць больш, чым пры здачы збожжа дзяржаве,—значыцца калі я не дурак, я павінен збожжа прытрымаць, здаваць яго дзяржаве менш, пакінуць яго для калгаснага гандлю больш і такім чынам дабіцца таго, каб выручыць больш за тую-ж колькасць праданага збожжа“.

Самая простая і натуральная логіка.

Але бяда тут заключаецца ў тым, што нашы вясковыя работнікі, ва ўсякім выпадку многія з іх, не зразумелі гэтай простай і натуральнай рэчы. Каб не сарваць заданняў савецкай улады, комуністы павінны былі пры гэтай новай абстаноўцы з першых-жа дзён уборкі, яшчэ ў ліпені месяцы 1932 г.—яны павінны былі ўсямерна ўзмацніць і падганяць збожжазагатоўкі. Гэтага патрабавала абстаноўка. А як яны паступілі на справе? Замест таго, каб падганяць збожжазагатоўкі, яны сталі падганяць утварэнне ўсякага роду фондаў, узмацняючы тым самым стрыманасць здатчыкаў збожжа ў справе выканання іх абавязкаў перад дзяржавай. Не зразумеўшы новай абстаноўкі, яны сталі баяцца не таго, што стрыманасць сялян у справе збожжаздачы можа затармазіць збожжазагатоўкі, але сталі баяцца таго, што сяляне не дагадаюцца прытрымаць збожжа для вывазу

яго потым на рынак па лініі калгаснага гандлю, і, чаго добрага, возьмуць ды і здадуць усё сваё збожжа на элеватары.

Інакш кажучы, нашы вясковыя комуністы, па крайней меры большасць з іх, раскусілі калгасны гандаль толькі з яго дадатнага боку, зразумелі і ўсвоілі яго *дадатны* бок, але зусім не зразумелі і не ўсвоілі *адмоўных* бакоў калгаснага гандлю,—не зразумелі таго, што адмоўныя бакі калгаснага гандлю могуць прынесці вялікую шкоду дзяржаве, калі яны, г. зн. комуністы, не пачнуць з першых-жа дзён уборкі збожжа падганяць ва ўсю збожжазагатоўчую кампанію.

І гэта памылка была дапушчана не толькі работнікамі ў калгасах. Яна была дапушчана таксама дырэктарамі соўгасаў, якія, злачынна прытрымліваючы збожжа, падлягаючае здачы дзяржаве, сталі прадаваць яго на бок па больш высокай цане" (Сталін, Прамова на студзеньскім пленуме).

Гэты сталінскі аналіз дае вычэрпваючыя аб'ясненні ўмоў збожжазагатоўчай кампаніі 1932 г. Пастанова СНК і ЦК ВКП(б) ад 6 мая аб плане збожжазагатовак і разгортвання калгаснага гандлю збожжам і ад 10 мая аб плане жывёлазагатовак і мясным гандлі калгасаў, калгаснікаў, аднаасобных працоўных сялян; пастанова ЦВК і СНК СССР ад 20 мая аб парадку правядзення гандлю калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, пастанова СНК і ЦК ВКП(б) ад 5 ліпеня аб уборачнай кампаніі 1932 г. і пастанова ЦВК і СНК аб умацаванні грамадскай социялістычнай уласнасці (ад 7/VIII-1932 г.)—усе гэтыя дырэктывы звязаны адной ідэяй, адной мэтанакіраванасцю і неаддзялімы ад лозунга нашай партыі, абвешчанага т. Сталіным на першым усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі". Усе гэтыя дырэктывы мелі асноўнай мэтай падняць социялістычныя прадукцыйныя сілы сельскай гаспадаркі на новай социяльнай і тэхніка-эканамічнай аснове і яшчэ больш моцна самкнуць прамысловасць з сельскай гаспадаркай, павысіць ураджайнасць і таварнасць сельскай гаспадаркі, зрабіць яе сыравіннай і харчовай базай для социялістычнай прамысловасці, устанавіўшы непасрэдную сувязь паміж горадам і вёскай без пасярэдніка, прыватніка, перакупшчыка, на аснове совецкага гандлю, без капіталістаў і спекулянтаў. У гэтым уся спецыфіка ўмоў загатовак 1931 г., іменна гэтым аб'ясняецца неабходнасць спалучэння двух метадаў загатовак і калгаснага гандлю. Іменна гэта адрознівае абстаноўку загатовак у 1932 г. ад папярэдніх год. Спецыфічнай асаблівасцю загатовак 1932 г. з'яўляецца таксама далейшае паглыбленне і ўзмацненне супраціўлення класавых ворагаў, але супраціўленне ва ўмовах буйнейшых дасягненняў партыі ў вёсцы, якія прымусілі заклятых ворагаў пролетарскай дыктатуры змяніць тактыку, формы класавай барацьбы.

Да недахопаў работы ў вёсцы адносіцца „няўменне цэлага раду нашых таварышоў на мясцах перабудаваць фронт барацьбы з кулацтвам, у неразуменні таго, што твар класа-

вага ворага змяніўся за апошні час, змянілася тактыка класавага ворага і што адпаведна з гэтым трэба змяняць сваю тактыку, каб дабіцца поспеху". Гэта няўменне перабудавацца дапасавальна да тактыкі класавага ворага было несумненна буйнейшай прычынай труднасцей загатовак 1932 г. Паўночны Каўказ і Украіна асабліва паказальны ў гэтых адносінах, не гледзячы на тое, што абодва гэтыя раёны дасягнулі велізарнейшых рэзультатаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і ў адносінах вырашэння задачы ў асноўным па ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Да прычын труднасцей на загатоўчым фронце трэба аднесці таксама і тую акалічнасць, „што нашы таварышы на мясцах, і не толькі гэтыя таварышы, не зразумелі змяненняў умоў нашай работы ў вёсцы, якія адбыліся ў сувязі з зацверджаннем пануючага палажэння калгасаў у асноўных збожжавых раёнах, у тых адносінах, што „гэта акалічнасць не змяншае, а павялічвае нашы клопаты і нашу адказнасць у справе развіцця сельскай гаспадаркі" (Сталін).

Паўночны Каўказ, Украіна, Ніжняя Волга—у першую чаргу гэтыя раёны дапусцілі аслабленне клопату і адказнасці ў адносінах сельскай гаспадаркі.

На Паўночным Каўказе, асабліва на Кубані, контррэволюцыйныя элементы сталі на шлях арганізаванага і прамога сабатажа збожжазагатовак у 1932 г. Яны аказалі вялікі ўплыў не толькі на аднаасобнікаў, але і на адсталыя слаі калгаснікаў. Гэта выразілася як ў скарачэнні пасеўных плошчаў па некаторых станіцах, так і ў сабаціраванні здачы збожжа, невыхадзе на работу, прычым такое паразітычнае жыццё дайшло да таго, што пад уплывам кулакоў некаторыя аднаасобнікі налічвалі ўсяго 10—20 працадзён. Масавы характар прынялі кражы, раскраданні соцыялістычнай уласнасці. Некаторыя комуністы аказаліся на паваду ў кулакоў. На Ніжняй Волзе ў Ніжнегародскім і Кацельнікаўскім раёнах, аб чым сведчыць пастанова ЦК ВКП(б) ад 30/XII-32 г., была масавая гібель і псаванне ўраджаю з-за нядобраякаснай сяўбы, пакіданне збожжа на корані і скошанага пад снегам, псаванне заскірдаванага збожжа, злачынныя зацяжкі абмалоту і г. д.

Факты сабатажа, шкодніцтва, раскрадання соцыялістычнай уласнасці, меўшыя месца на Украіне, сведчаць, што побач з тым, што не была ўлічана абстаноўка стварэння калгаснага гандлю, не былі таксама зразуметы змяненні ўмоў работы ў вёсцы ў сувязі з зацверджаннем пануючага палажэння калгасаў і соўгасаў, г. зн. былі не павялічаны, а аслаблены клопаты і адказнасць у адносінах сельскай гаспадаркі, а таксама не перабудавалі фронта барацьбы з кулацтвам, якое перайшло „ад прамой атакі супроць калгасаў да работы ціхай сапай" (Сталін).

Прычынай труднасцей загатовак 1932 г. была яшчэ важная акалічнасць, якая заключалася ў тым, што „многія нашы

таварышы пераацанілі калгасы, як новую форму гаспадаркі" (Сталін), забываючы, што „калгасы, як соцыялістычная форма арганізацыі гаспадаркі, могуць паказаць цуды гаспадарчага будаўніцтва, калі на чале іх стаяць сапраўдныя рэволюцыянеры, большэвікі, комуністы. І наадварот, калгасы могуць ператварыцца на пэўны перыяд у прыкрыццё ўсякага роду контррэволюцыйных дзеянняў, калі ў калгасах будуць запраўляць эсэры і меншавікі, пятлюраўскія афіцэры і іншыя белагвардзейцы, быўшыя дзенікінцы і калчакоўцы. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што калгасы як форма арганізацыі не толькі не гарантаваны ад пранікнення антысовецкіх элементаў, але прадстаўляюць нават на першы час некаторыя выгады для часовага скарыстання іх контррэволюцыянерамі" (Сталін, „Аб рабоце ў вёсцы").

Прыкладаў гэтага таксама было многа ў практыцы загатоўчай кампаніі 1932 г. на Паўночным Каўказе, Украіне, Ніжняй Волзе і некаторых іншых раёнах.

„Нарэшце ёсць яшчэ адна прычына недахопаў нашай работы ў вёсцы. Заключаецца яна, гэта прычына, у недаацэнцы ролі і адказнасці комуністаў у справе колгаснага будаўніцтва, у недаацэнцы ролі і адказнасці комуністаў у справе збожжазагатовак. Гаворачы аб труднасцях збожжазагатовак, комуністы звычайна ўзвальваюць адказнасць на сялян, сцвярджаючы, што ва ўсім вінаваты сяляне. Але гэта зусім няверна і безумоўна несправядліва. Сяляне тут ні пры чым. Калі гутарка ідзе аб адказнасці і вінаватасці, то адказнасць падае цалкам і поўнасцю на комуністаў, а вінаваты тут не ўсе—толькі мы, комуністы" (Сталін, „Аб рабоце ў вёсцы").

Недахопы ў рабоце па загатоўках у БССР адзначаны ЦК ВКП(б), а пазней у пастанове лютаўскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б (1933 г.).

„Заслухаўшы паведамленне аб ходзе загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў у БССР, аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначае, што ход загатовак па БССР з усей відавочнасцю пацвярджае абсалютную правільнасць пастанаўлення ЦК ВКП(б) аб нездавальняючай рабоце ЦК КП(б)Б і СНК БССР у справе кіраўніцтва загатоўкамі сельска-гаспадарчых прадуктаў.

Той факт, што ў другой палавіне снежня месяца, пасля пастановы ЦК ВКП(б), партыйныя і совецкія арганізацыі Беларусі сумелі сапраўды па баявому выканаць у кароткі тэрмін каля 50% астаўшагася гадавога плана і поўнасцю загатоўкі збожжа, мяса і ў студзені—бульбы, і тая акалічнасць, што па загатоўках ільно-валакна, малочных прадуктаў, гарнцаваму збору і закупцы збожжа БССР пляцецца ў хвасце раду вобласцей Саюза—сведчыць, што партыйныя і совецкія арганізацыі Беларусі да гэтага часу не зрабілі неабходных вывадаў у сваёй рабоце з рашэння ЦК ВКП(б) і не ўлічылі ўсяго вопыта снежня м-ца па барацьбе за загатоўкі.

Партарганізацыя БССР, у першую чаргу яе кіруючыя кадры зробяць усе неабходныя вывады з рашэння ЦК УсеКП(б) і прамовы т. Сталіна, сканцэнтруюць усе свае сілы на найбольш хуткай перабудове работы партыйных і савецкіх арганізацый, змене метадаў кіраўніцтва калгасамі і не на словах, а на справе паднімуць усю КП(б)Б на барацьбу за поўнае выкананне плана загатовак ільну і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў і на барацьбу за поўнае выкананне планаў збожжазакупкі, засыпкі насенных фондаў, падрыхтоўку і паспяховае правядзенне веснавой пасеўнай кампаніі".

Тав. Сталін даў бліскучы аналіз работы ў вёсцы на студзеньскім пленуме, а таксама ў прамове на Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў (19/II-1932 г.).

Лозунг „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі" гаворыць аб тым, што калгасны шлях, шлях соцыялізма з'яўляецца „адзіна правільным шляхам для працоўных сялян" (Сталін), што „галоўныя труднасці ўжо пройдзены" (Сталін).

Труднасці збожжазагатовак былі пераможаны, насенны фонд для пасеўнай кампаніі 1933 г. па СССР сабраны ў памеры звыш 100%. Совецкі ўрад аказаў значную насенную пазыку Паўночнаму Каўказу, Украіне і інш. раёнам. Галоўнае цяпер арганізацыйна-гаспадарчае і палітычнае ўмацаванне соўгасаў і калгасаў. Задача заключаецца ў тым, каб усе калгасы зрабіць большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў зрабіць заможнымі. Палітыка загатовак з'яўляецца на даным этапе вытворнай ад гэтых задач.

Для вырашэння гэтай задачы ЦК ВКП(б) і СНК СССР дана дырэктыва, якая з'яўляецца магутным сродкам арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў,—аб адмене кантрактацыі на асноўную прадукцыю сельска-гаспадарчай вытворчасці харчовых культур і замене яе абавязковымі пастаўкамі, маючымі сілу падатку.

*Загатоўкі 1933 г.* Загатоўкі гэтага года характарызуюцца тым, што „У адрозненне ад мінулых год мы маем у гэтым годзе не збожжазагатоўкі старага тыпу, якія праводзіліся на аснове не зусім пэўных кантрактацыйных дагавароў з сялянствам, а зернепастаўкі, заснаваныя на цвёрдым і непарасаемым законе, абавязковым для выканання ўсімі калгасамі і аднаасобнікамі. Гэта значыць, што ніякае ўхіленне ад абавязацельстваў па здачы зерня ў тэрмін не павінна быць дапушчана ні пад якім выглядам.

У адрозненне ад мінулых год пастаўка зерня дзяржаве ў гэтым годзе будзе праводзіцца не па планах, якія мяняюцца, а па цвёрдых і нязменных нормах, устаноўленых законам, што павінна ўмацаваць палажэнне калгасаў, павінна стварыць устойлівасць у гаспадарцы і забяспечыць калгасу і аднаасобніку магчымасць цвёрда разлічыць свае даходы. Гэта значыць, што ніякія сустрэчныя планы па здачы зерня ў далейшым не павінны быць дапушчаны ні пры якіх умовах.

Нарэшце, у адрозненне ад мінулых год, калі першыя 2-3 месяцы збожжазагатовак, ліпень—жнівень—верасень, уходзілі ўпустую, на, так званую, „раскачку“, а ў наступныя месяцы спрабавалі навёрстваць упушчанае ў парадку ўжывання рэпрэсій,—у зернепастаўках гэтага года рашаючымі месяцамі павінны быць першыя тры месяцы: ліпень—жнівень—верасень. Вопыт збожжазагатовак гаворыць, што іменна першыя тры месяцы вырашаюць лёс загатовак, бо тое, што ўпушчана ў гэтыя месяцы не можа быць адноўлена ў працягу ўсяго загатоўчага года. Гэта значыць, што пастаўка зерня дзяржаве павінна быць разгорнута з першых-жа дзён абмалоту, а калгасны гандаль павінен быць спынены з першых-жа дзён зернепаставак“ (З пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 20 чэрвеня 1933 г.).

У адносіне здачы зерня дзяржаве соўгасамі, пастановай СНК і ЦК ВКП(б) ад 21 чэрвеня 1933 г. была дана дырэктыва, што „соўгасы, як дзяржаўныя гаспадаркі, прадукцыя якіх поўнасцю і цалкам належыць дзяржаве, абавязаны забяспечыць выкананне ўстаноўленых для іх размераў збожжаздачы ў першую чаргу перад усімі іншымі здатчыкамі і ў дакладна ўстаноўленыя ўрадам тэрміны“.

Гэтыя дырэктывы, даныя яшчэ да пачатку загатовак вызначылі задачы ўсіх арганізацый і ўсяго загатоўчага апарата зверху да нізу па мабілізацыі сіл і сродкаў на поўнае і своечасовае выкананне загатовак. Спецыфікай 1933 г. з'яўляецца таксама натуральная аплата калгасамі МТС у пэўным, устаноўленым процанце ад ураджаю.

У пастанове СНК і ЦК ВКП(б) ад 25 чэрвеня 1933 г. гаворыцца: „Гэта натуральная аплата калгасамі паслуг МТС мае важнейшае значэнне як для ўтрымання і ўзмацнення існуючых МТС, так і для пакрыцця расходаў дзяржавы па стварэнню новых МТС.

Зразумела, што без такой аплаты дзяржава не магла-б утрымліваць МТС, а МТС не маглі-б аказваць дапамогі калгасам. Іменна таму своечасовая аплата паслуг МТС натурай з'яўляецца безумоўна-абавязковай, а ўхіленне ад такіх абавязацельстваў павінна праследвацца законам“.

Дырэктывамі, мабілізуючымі калгасныя масы і працоўных аднаасобнікаў вакол партыі з'яўляюцца таксама пастановы СНК і ЦК ВКП(б) ад 2/VIII-1933 г. і 18/VIII-1933 г. „Аб парадку засыпкі фондаў для патрэб калгасаў“, „забяспечваецца права саміх калгаснікаў свабодна распараджацца рэшткамі збожжа ў калгасах пасля выканання калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, і пасля засыпкі абавязковых фондаў — насенных, страхавых, фуражных“. Гэта-ж пастанова раз'ясняе, „што калі самі калгасы пажадаюць, яны маюць права пастановай агульнага схода калгаса, з удзелам не менш $^2/_3$ калгаснікаў ствараць і іншыя фонды ў калгасах, як-та: фонд на павелічэнне недзялімых капіталаў у калгасах, а таксама фонд для аказання дапа-

могі інвалідам, сем'ям чырвонаармейцаў, на утрыманне дзіцячых ясляў".

Важнейшай дырэктывай з'яўляецца таксама пастанова СНК і ЦК ВКП(б) „аб дапамозе бескароўным калгаснікам у набыцці кароў" (14 жніўня 1933 г.).

Усе гэтыя рашэнні партыі і ўрада, якія маюць сваёй асноўнай мэтай задачу зрабіць у бліжэйшыя гады усе калгасы сапраўды большэвіцкімі, усіх калгаснікаў заможнымі—з'яўляюцца гістарычнымі рашэннямі, умацоўваючымі калгасны лад. У 1933 г. загатоўчую кампанію з самага пачатку ўзначалілі на мясцах палітаддзелы. Гэта несумненна спецыфіка загатовак 1933 г. Арганізуючая роля палітаддзелаў з'яўляецца адной з прычын каласальных дасягненняў на загатоўчым фронце 1933 г. Партыя правяла ў 1933 г. каласальную работу па арганізацыі загатовак, у барацьбе на два фронты, асабліва з правым апартунізмам, як галоўнай небяспекай. Праводзімая чыстка партыі падняла новую хвалю пафаса і энтузіязма. ЦК ВКП(б) і СНК своечасова ўскрывалі спробы зрыву загатовак. Дырэктыва т. т. Сталіна і Молатава Одэскаму губкому і Аблвыканкому ў сувязі са спробамі Одэскага зернетрэста ашукаць дзяржаву, парушыць совецкі закон аб здачы зерня дзяржаве, сігналізавала, што барацьба з раскрадваннем і крадзяжом дзяржаўнай маёмасці яшчэ слаба разгорнута. Не гледзячы на некаторыя недахопы, якія меліся ў загатоўчай кампаніі 1933 г., усё-ж 1933 г. войдзе ў гісторыю, як год каласальных дасягненняў ленінскай партыі, кіруемай т. Сталіным, па лініі арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, па ператварэнню іх у большэвіцкія.

*Кантрактацыя.* Сістэма загатовак у форме кантрактацыі пачалася ў аднаўленчы перыяд, але масавы характар набыла ў перыяд рэканструкцыйны.

Развіццё загатовак у форме кантрактацыі прайшло тры этапы.

Першы этап (да 1927-28 г.) характарызуецца развіццём кантрактацыі ў напрамку выключна тэхнічных культур (бавоўна, буракі). У якасці кантрактантаў выступаюць заводы цукратрэста, глаўбавоўны і да т. п. З веснавой кампаніяй 1928 г. пачалася кантрактацыя збожжа. 1927-28 г. характэрны значна большым расшырэннем кантрактацыі. Пастанова СПА ад 23/І-1928 г. прадугледжвае кантрактацыю тэхнічных і экспартных культур (сонечніка, ячменю, кукурузы, бабоў) у колькасці 485,2 тыс. га. Потым план быў павышаны за кошт дадатковага ўключэння Беларусі і Воцкай вобласці да 495 тыс. га. Пастановай СНК СССР ад 21/ІІ-1928 г. было даручана Наркамзему забяспечыць правядзенне кантрактацыі яравых пасеваў, зерневых культур у размеры 600 тыс. га.

Другі этап (ад 1927-28 г. да 1929-30 г.) кантрактацыі характарызуецца ахопам ёю вялікай колькасці сельска-гаспадарчых культур. Кантрактацыя на гэтым этапе робіцца адной з форм вытворчай змычкі (асновай вытворчай змычкі з'яўляецца індустрыя) і падрыхтоўкі да пераходу дробных

таваравытворцаў на калгасны шлях. З'яўляючыся адной з форм вытворчай змычкі кантрактацыя была адной з форм совецкага гандлю, г. зн. у ёй знаходзілі пераламленне сфера вытворчасці і сфера абароту. Прымат вытворчасці ў сістэме кантрактацыі вызначаў значэнне кантрактацыі для падрыхтоўкі да калектывізацыі.

На першым этапе кантрактацыя ўключала збыт і снабжэнне. Затым у кантрактацыйны догавар пачалі ўключацца мерапрыемствы па агратэхніцы, па ўкараненні больш культурнага вядзення сельскай гаспадаркі.

Трэці этап у развіцці кантрактацыі пачынаецца з года вялікага пералому (1929 г.), калі асноўныя масы сялянства пайшлі па калгаснаму шляху. Развіццё кантрактацыі, як і кааперацыі, ішло ў напрамку развіцця ленінскага кааперацыйнага плана. Іменна таму кантрактацыя і была адной з форм вытворчай і гандлёвай змычкі. Спецыфікай гэтага перыяду кантрактацыі з'яўляецца тое, што кантрактацыя ўжо развіваецца ў рамках соцыялістычных форм гаспадарання (дзяржава—калгасы).

„Адной з асноўных форм гаспадарчых узаемаадносін калгасаў з дзяржаўнымі і кааперацыйнымі гаспадарчымі арганізацыямі з'яўляецца догавар аб кантрактацыі. Догавар аб кантрактацыі з'яўляецца двухбаковым абавязацельствам, г. зн. не толькі абавязацельствам дзяржавы аб дапамозе калгасам, але і абавязацельствам калгасаў аб здачы імі іх таварнай прадукцыі дзяржаве. З'езд разглядае догавары аб кантрактацыі як неразрыўную частку выканання вытворчага плана калгасаў і прапануе ўсім калгаснікам і калгасам забяспечыць своечасовае і добраякаснае выкананне кантрактацыйных догавараў" (З рэзалюцыі VI з'езда Советаў).

Новым у кантрактацыі на трэцім этапе яе развіцця з'яўляецца таксама ўвядзенне доўгатэрміновай кантрактацыі. Гэта выклікана тым, што сезонная кантрактацыя ажыццяўляемая да восені 1929 г. не дазваляла ўлічваць такія мерапрыемствы, якія могуць быць рэалізаваны на працягу ўсяго севаабароту. Каб унікнуць гэтага даволі буйнага недахопу, перашкаджаючага праводзіць больш поўна рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, ЦК ВКП(б) вынесла 26/VIII-1929 г. рашэнне: „Прызнаць неабходным пераход ад сезоннай кантрактацыі да гадавой (з адначасовым заключэннем догавараў на кантрактацыю азімых і яравых пасеваў) і да доўгатэрміновых догавараў на тэрмін севаабароту".

Велізарнае значэнне доўгатэрміновай кантрактацыі заключалася ў тым, што яна шчыльна падводзіла сельскую гаспадарку дробных таваравытворцаў да аграмаджання. „У доўгатэрміновых догаварах кантрактацыі (шматгадовая кантрактацыя) належыць прадугледжваць абавязацельствы, якія спрыяюць паступоваму пераходу кантрактацыйных аб'яднанняў на грамадскую вытворчасць" (Пастанова СНК СССР „Аб кантрактацыі прадуктаў сельскай гаспадаркі 7/X-1929 г.). Доўгагадовая кантрактацыя была асноўнай формай дога-

вара паміж МТС і калгасамі. Праз МТС было загатоўлена ў 1931-32 г. 25,5% усіх загатовак (без гарнца) зерневых; 87,8% бавоўны, 16,8% ільновалакна.

Значэнне і роля ў соцыялістычным будаўніцтве кантрактацыі аграмадная.

Тав. Сталін на пытанне, што такое кантрактацыя, адказвае так: „Дзяржаўныя сіндыкаты падпісваюць кантракты з адпаведнымі каапэрацыйнымі арганізацыямі на вырошчванне такой-та колькасці бавоўны і буракоў, на снабжэнне сялянства насеннем, пазычкамі і г. д. Пасля сканчэння гаспадарчага года ўся прадукцыя паступае ў распараджэнне сіндыкатаў, а сяляне атрымліваюць за гэта адпаведныя сумы, згодна загадзя заключаных кантрактаў. *Гэта называецца ў нас сістэмай кантрактацыі. Гэта сістэма добра ў тых адносінах, што яна дае выгады абодвум бакам і змыкае сялянскую гаспадарку з індустрыяй непасрэдна без пасярэднікаў. Гэта сістэма ёсць самы верны шлях калектывізацыі сельскай гаспадаркі*" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 376).

Кантрактацыя апрача загатовак і снабжэння адыгрывае каласальную ролю ў адносінах рэгулявання вытворчага працэса і напрамка сельскай гаспадаркі, заахвочвання тых або іншых культур, той або іншай колькасці пасеву данай культуры. Праз кантракты-догавары ажыццяўляецца планаванне не толькі сферы абароту ў частцы збыту і снабжэння, але і сферы сельска-гаспадарчай вытворчасці, г. зн. кантрактацыя—гэта больш высокая форма эканамічнай змычкі пролетарыята і сялянства, змычкі, што ідзе як па лініі збыту і снабжэння, так і па лініі арганізацыі, галоўным чынам, сельска-гаспадарчай вытворчасці і накіравання яе ў бок найбольш выгадных культур для народнай гаспадаркі, узятай у цэлым і ўстанаўлення такіх суадносін паміж імі, якія найбольш адказваюць патрэбнасці атрымання сыравінных і харчовых рэсурсаў у залежнасці ад аб'ёма і тэмпаў развіцця народнай гаспадаркі. З гэтага пункту погляду кантрактацыя найбольш высокая форма змычкі, чым гандаль. Яна, галоўным чынам, вытворчая змычка, якая ўключае, зразумела, па лініі збыту і снабжэння і змычку ў сферы абароту. Такім чынам, кантрактацыя як змычка, што аб'ядна
е і стадыю вытворчасці і стадыю абароту, з'яўляецца змычкай не проста гандлёвай, а распаўсюджанай на ўсю вобласць расшыранай рэпрадукцыі. Іменна таму „мы ўжываем цяпер метад кантрактацыі як новую форму змычкі" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 445).

З пункту погляду развіцця тавараабароту „метад кантрактацыі з'яўляецца тут асноўным метадам устанаўлення гэтых новых форм тавараабароту паміж горадам і вёскай" (Сталін, там-жа). Невыпадкова таму, калі правыя апартуністы супярэчылі супроць кантрактацыі, проціпастаўляючы яе тавараабароту, у прыватнасці нэп'а наогул. Тав. Сталін, які даў бліскучы аналіз кантрактацыі, як „новай форме змычкі"

і як метада „новых форм тавараабароту паміж горадам і вёскай", даў рашучы адпор правым і па пытанні аб кантрактацыі:„... хіба метад кантрактацыі супярэчыць патрабаванням нэп'а? Што можа быць дрэннага ў тым, што сялянства становіцца пастаўшчыком дзяржавы і па лініі збожжа, а не толькі па лініі бавоўны, буракоў, ільну, дзякуючы таму-ж метаду кантрактацыі. Чаму гандаль дробнымі партыямі, гандаль у раздробку можа называцца тавараабаротам, а гандаль буйнымі партыямі па загадзя складзеных догаварах (кантрактацыі) наконт цэн і якасцей тавара не можа лічыцца тавараабаротам. Адкуль гэтая неадпаведнасць? Хіба цяжка зразумець, што гэтыя новыя масавыя формы тавараабароту па метаду кантрактацыі паміж горадам і вёскай узніклі іменна на аснове нэп'а, што яны з'яўляюцца найбольш буйным крокам уперад з боку нашых арганізацый у сэнсе узмацнення планавага, соцыялістычнага кіраўніцтва народнай гаспадаркай" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 501).

Сталінскае разуменне кантрактацыі падводзіць да разумення таго значэння, якое яно мае для перароблкі простых таваравытворцаў, для павароту іх на калгасны шлях. Выкінуўшы адзін з бакоў кантрактацыі робіцца зусім незразумелай роля яе ў падрыхтоўцы аграмаджання сялянскіх сродкаў вытворчасці, як аднаго з рычагоў пролетарскай дыктатуры па соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. „...Трэба пракласці мост паміж індывідуальнай бядняцка-серадняцкай гаспадаркай і калектыўнымі грамадскімі формамі гаспадаркі—у выглядзе масавай кантрактацыі, у выглядзе машына-трактарных станцый, у выглядзе ўсямернага развіцця кааперацыйнай грамадскасці, з тым, каб палегчыць сялянам перавесці сваю дробную індывідуальную гаспадарку на рэйкі калектыўнай працы" (Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 504).

Кантрактацыя, як мост на шляху да калектывізацыі—вось класічнае акрэсліванне ролі кантрактацыі ў сістэме рычагоў пролетарскай дыктатуры. Правыя апартуністы (Бухарын, Рыкаў і інш.) проціпастаўлялі калектывізацыі, кааперацыі і загатоўкам, метадам кантрактацыі „нармалізацыю" рынка, свабодны гандаль, г. зн. гандаль з капіталістамі і спекулянтамі, паколькі галоўным у праваапартуністычным разуменні свабоды гандлю былі свабодныя цэны, стыхійная ігра цэн і г. д.

Кантрактацыя выражала больш высокія формы эканамічных сувязей у расшыранай соцыялістычнай рэпрадукцыі. У гэтым заключаецца эканамічная і палітычная сутнасць кантрактацыі. Яна непасрэдна падводзіла да планавання і кіраўніцтва сельскай гаспадаркай з боку партыі і совецкай улады. Ужо перайшоўшы да метадаў кантрактацыі, трэба было праяўляць больш клопату і ўвагі да патрэб больш планава развіваючайся сельскай гаспадаркі, кантрактацыя ўжо выклікала патрэбнасць большага аперацыйнага кіраў-

ніцтва і большай адказнасці. Кантрактацыя нічога агульнага не мела з капіталістычным развіццём вёскі як у адносінах вытворчасці, так і збыту і снабжэння.

Кантрактацыя, як новая форма змычкі, па новаму ставіла праблему спалучэння інтарэсаў дзяржавы з асноўнай масай сялянства, стварала ўмовы для расшырэння карэнных інтарэсаў не ў рамках аднаасобных індывідуальных гаспадарак, а на аснове калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа. Кантрактацыя пановаму ставіла перспектывы развіцця індывідуальнай бядняцкай і серадняцкай гаспадаркі, яна ўцягвала яе як па лініі вытворчасці, так і па лініі збыту і снабжэння ў арбіту пэўных, фіксуемых на аснове догавара планавых мерапрыемстваў, падлягаючых выкананню, ставячых перад селянінам адказнасць за іх выкананне. Гэта рэгламентавала сялянскую гаспадарку, падводзіла яе непасрэдна да задач, пастаўленых партыяй ў галіне сельскай гаспадаркі. У гэтым іменна і заключаецца „мост“ ад індывідуальнай гаспадаркі да калектыўнай. Апрача таго, паколькі ўстанаўліваўся гэты „мост“ у галіне вытворчасці, пастолькі праз яго трэба было праходзіць і да размеркавання і абмену. Кантрактацыя—больш планавы збыт і снабжэнне, значыцца, яна ўносіла новыя элементы ў праблему збыту і снабжэння. Гэта новае заключалася ў тым, што кантрактацыя „змыкае сялянскую гаспадарку з індустрыяй непасрэдна, без пасярэднікаў“ (Сталин, „Вопросы ленинизма“, стар. 376). Гэта ўжо мост да гандлю без капіталістаў і спекулянтаў, але асновай для такога совецкага гандлю з'яўляецца калектывізацыя. Тав. Сталін бліскуча ахарактарызаваў такім чынам кантрактацыю як з боку вытворчай, так і з боку гандлёвай змычкі, як новую форму змычкі, адпавядаючай новай абстаноўцы, новым умовам. Продразвёрстка і продналог, як спосабы загатовак і кантрактацыя, як дагаворная, больш планавая форма загатовак, зразумела, непараўнальны. Калі першая адпавядала перыяду ваеннага і палітычнага саюза пролетарыята і асноўнай масы сялянства, а продналог палітычнай і эканамічнай змычцы, як гандлёвай, у асноўным, то кантрактацыя, як больш вышэйшая форма змычкі з'яўляецца, у асноўным, вытворчай змычкай, якая падводзіць сялянскія масы самым шчыльным чынам да такой формы змычкі, як калектывізацыя, а затым да змычкі з калгасным сялянствам.

Кантрактацыя з'явілася моцным сродкам росту таварнасці сельскай гаспадаркі. Яна падняла на значна больш высокі ўзровень таварнасць, паколькі з аднаго боку кантракты прадугледжвалі меры па павышэнню ўраджайнасці, куды ўваходзілі снабжэнне чыстасартовым насеннем, агратэхніка і г. д., а з другога,—у раёны культур бавоўны, буракоў і г. д. завозілася дастатковая колькасць збожжа і прамтавараў па плануемых цэнах, што спрыяла павышэнню пасеву і таварнасці бавоўны і буракоў; у раёны кантрактацыі зерневых культур завозілася прадукцыя прамысловасці і таксама сельскай гаспадаркі і гэты завоз спрыяў сканцэнтра-

ваць увагу зерневых раёнаў на зерневых культурах. Уся сістэма гэтых мерапрыемстваў патрабавала планаваня, уваг, клопатаў ў адносінах сельскай гаспадаркі, без гэтых умоў кантрактацыя не была-б „мастом", які вядзе да калектывізацыі. Кантрактацыя патрабавала ўліку і кантролю, барацьбы са стратамі ў сельскай гаспадарцы і г. д. Кантрактацыя давала перспектыву развіцця сельскай гаспадарцы ў напрамку аграмаджання працэсаў вытворчасці і абароту. Калі прадналог у свой час не толькі не супярэчыў, а спрыяў развіццю індывідуальнай—аднаасобнай гаспадаркі на аснове простай таварнай таварна-капіталістычнай гаспадаркі, то кантрактацыя адпавядала задачы пераробкі простых таваравытворцаў на новай аснове—аграмаджанні, пачынаючы ад самых простых форм калектыўнай апрацоўкі) зямлі (без аграмаджання сродкаў вытворчасці).

У кантрактацыі было спалучэнне вытворчых планаў з планамі загатовак, а гэта азначала, што з дапамогай такога рычага, як кантрактацыя, пролетарская дзяржава аказвала сваё ўздзеянне ў напрамку выгадным і.для дзяржавы і для данай гаспадаркі. Уздзейнічаючы як на сферу вытворчасці, так і на сферу абароту, кантрактацыя планавала эканамічныя сувязі горада і вёскі, падрывала карані выпадковым і стыхійным з'явам расшыранай рэпрадукцыі сельскай гаспадаркі, накіроўвала гэту рэпрадукцыю ў рэчышча соцыялістычнага будаўніцтва.

Кулацтва, зразумела, было супроць кантрактацыі, паколькі апошняя рэгламентавала вытворчыя і гандлёвыя адносіны, праводзіла іх на аснове двухбаковага акта—догавара, вызначала цэны здаваемай прадукцыі і была накіравана супроць капіталістычных, эксплаататарскіх, спекуляцыйных тэндэнцый. Апрача таго, кантрактацыйны догавар не даваў кулацтву тых ільгот, галоўным чынам, у адносінах снабжэння, якія даваліся асноўнай масе сялян па кантрактацыйнаму догавару.

Каб прымусіць кулацтва пэўную, дакладна фіксуемую частку прадукцыі здаваць дзяржаве, СНК СССР было вынесена ў другой палавіне 1929 г. наступнае рашэнне аб парадку заключэння кантрактацыйных дагавароў: „У мэтах палягчэння барацьбы з кулацтвам і перамагання яго супраціўлення мерапрыемствам па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі прызнаць абавязковым для ўсіх членаў зямельных таварыстваў пастанову яго бядняцка-серадняцкай большасці аб заключэнні кантрактацыйных дагавароў".

Калі пачалося індывідуальнае абкладанне кулацтва па пасеву і здачы прадукцыі дзяржаве, кантрактацыя ў адносінах кулацкіх гаспадарак была адменена.

Кантрактацыя была і застаецца ўчасткам самай жорсткай класавай барацьбы. Кулацтва спрабавала пацягнуць за сабой серадняка супроць кантрактацыі і гэтым самым супроць індывідуальнага абкладання, як формы загатовак у адносінах кулацтва. На паасобных участках на паасобныя перыяды

часу кулацтва зрывала кампаніі па правядзенню кантрактацыі. Толькі рашучым ударам па кулацтву, толькі ў барацьбе з правым апартунізмам і прымірэнцтвам, партыя дасягнула поспехаў у галіне кантрактацыі і калектывізацыі. Партыя звяртала і звяртае вялікую ўвагу на кантрактацыю. Не аднакраць на з'ездах, канферэнцыях, пленумах ЦК ВКП(б) мабілізавалі ўвагу ўсіх арганізацый на ролі і значанні кантрактацыі. На XV з'ездзе ВКП(б) у 1927 г. з'езд даў дырэктыву аказваць усямернае падтрыманне развіццю кантрактацыі, як дагаворным адносінам, устанаўліваючы „непасрэдную змычку паміж сялянскай гаспадаркай і адпаведнымі галінамі соцыялізаванай прамысловасці". Лістападаўскі пленум ЦК ВКП(б) у 1928 году адзначыў: „Асаблівая і значная роля належыць новаму метаду змычкі з вясковай экономікай і ўздзеяння на яе кантрактацыі". „Лічыць важнейшымі практычнымі задачамі кааперацыю ў вёсцы ў справе вытворчага кааперавання: расшырэнне сістэмы кантрактацыі, пераходу ад кароткатэрміновасці да доўгатэрміновай кантрактацыі".

На XVI канферэнцыі былі даны дырэктывы аб усямерным скарыстанні кантрактацыі для пераходу да калектыўнага спосаба гаспадарання аб неабходнасці „усямернага падтрымання імі ініцыятывы пераходу цэлых сёл і вёсак да калектыўных форм працы, выкарыстоўваючы для гэтага масавую кантрактацыю пасеваў сартовага насення суцэльнымі масівамі".

У пастанове ЦК ВКП(б) ад 27/VI-1928 г. аб арганізацыйнай перабудове сельска-гаспадарчай кааперацыі, развіваецца тая-ж самая лінія „развіцця на аснове кантрактацыі масавых форм вытворчага каапераванння сялянскіх гаспадарак і разгортвання будаўніцтва буйных калгасаў". У гэтай-жа пастанове падкрэсліваецца таксама і другі бок кантрактацыі, як формы загатоўчых аперацый: „у галінах сельскай гаспадаркі з развітай практыкай кантрактацыі сельска-гаспадарчыя кааперацыі праводзяць свае загатоўчыя аперацыі ў асноўным парадку кантрактацыі".

У пастанове ЦК ВКП(б) ад 20/VIII-1929 г. аб асноўных ітогах і чарговых задачах у галіне кантрактацыі зерневых пасеваў адзначаецца станоўчая роля кантрактацыі, якая забяспечвае планавае паступленне сялянскай зерневай прадукцыі дзяржаве, масавае ўкараненне на сялянскіх палях агратэхнікі, павышэнне ўраджайнасці і рост таварнасці дробнай сялянскай гаспадаркі, яе вытворчага каапераванння і калектывізацыі. „Замацоўваючы за дзяржавай сялянскія таварныя лішкі, кантрактацыя, уключаючы мільёны сялянскіх гаспадарак у кола адзінага дзяржаўнага плана, тым самым вядзе да знішчэння рыначнай стыхіі" (там-жа).

У гэтай пастанове выпячваецца і новы бок кантрактацыі, які „дае мэтавы напрамак скарыстанню ўсіх эканамічных рычагоў дзяржавы (крэдыты, машыны, угнаенні і наогул промтавары, насенне, землеўпарадкаванне, аградапамога, падатковыя і іншыя льготы, прэміяванне і г. д.) па выт-

ворчай пераробцы і аграмаджанню распыленай сялянскай гаспадаркі". У гэтым заключаецца „мост" і „новая форма змычкі", у гэтым палітычны і эканамічны змест кантрактацыі, яе роля і значэнне па пераробцы працоўных мас сялянства і соцыялістычных працаўнікоў праз калектывізацыю. Роля кантрактацыі ў справе арганізацыі „планавага прадуктаабмену паміж горадам і вёскай" (там-жа), зразумела, у рамках кантрактацыйнага договара „і паскарэння тэмпаў соцыялістычнай рэпрадукцыі сельскай гаспадаркі" — велізарная.

Аб развіцці кантрактацыі гавораць наступныя даныя ахопу кантрактацыяй зерневых культур. Закантрактавана ў 1928 г. зерневых яравых пасеваў 2,5 млн. га. З ураджаю 1929 г. 15,4 і азімых—4,9, г. зн. 29,3 млн. га. З ураджаю 1930 г.: азімых 16,2 і яравых 35,3, г. зн. 51,5 млн. га. У 1931 г. закантрактавана да 80 млн. га.

Проціпастаўленне совецкай кантрактацыі ленінскаму кааперацыйнаму плану, замена кантрактацыі адносінамі, якія складаюцца стыхійна на рынку, такава праваапартуністычная канцэпцыя правых у галіне загатовак наогул, кантрактацыіі ў прыватнасці. Правыя апартуністы высунулі тэорыю роўнавагі, якая павінна замяніць сабой ленінскую тэорыю кааперацыі, г. зн. ленінскі кааперацыйны план.

„Мы не павінны перашкаджаць вытворчасці кулацкіх гаспадарак" (Фрумкін). „Мы не павінны перашкаджаць перарастанню сярэдняй сялянскай гаспадаркі ў моцную і заможную" (Сляпкоў).

Партыя адкінула гэтыя класава-варожыя пролетарскай дыктатуры ўстаноўкі, „партыя не можа стаць на гэты гібельны шлях" (Сталин, „Вопросы ленинизма").

Буржуазныя эканамісты лічылі, што „неабходна адмовіцца ад стварэння штучных манапольных умоў для дзяржаўнага, кааперацыйнага, гандлёвага апарата на ўнутраным рынку, а таксама ад адміністрацыйных метадаў рэгулявання рынка, прыводзячых яго да дэзарганізацыі" (Кандрацьеў, „Тезисы о задачах в области сельского хозяйства").

Супроць надзвычайных мер выступаў і Громан: „Мы прынялі такія меры, якія парушаюць нармальны ход гаспадарчага жыцця". Громан лічыў, што ў нас адбываецца „працэс дэзарганізацыі збожжавага рынка" („Архив Госплана", Пасяджанне прэзідыума ад 10/III-1927 г.).

Кантрактацыя адыграла вялікую ролю ў справе вырашэння зерневай праблемы. Гэта адзначыў лістападаўскі пленум ЦК ВКП(б) у 1929 г. Выкананне плана калектывізацыі „пры далейшым расшырэнні практыкі кантрактацыі, павінна азначаць знішчэнне збожжавых затрудненняў і вырашэнне ў асноўным зерневай праблемы". У 1931 г. у адозве СНК СССР і ЦК ВКП(б) „Да ўсіх партыйных, совецка-гаспадарчых, кааперацыйных, соўгасных і комсамольскіх арганізацый аб кантрактацыі яравых пасеваў 1931 г.", намечаны

рад мерапрыемстваў па калектывізацыі і кантрактацыі, да ліку якіх адносіцца: арганізацыя на працягу 1931 г. 1.040 новых машына-трактарных станцый, падваенне снабжэння сельскай гаспадаркі сельска-гаспадарчымі машынамі супроць 1930 г. (768 млн. руб. замест 400); водпуск 21 млн. ц сартовага і палепшанага насення, 1.500 млн. руб. па дзяржбюджэту і доўгатэрміноваму крэдыту і г. д. План кантрактацыі зерневых і маслянічных культур быў устаноўлены ў размеры 58 млн. га; па бавоўне ўвесь чакаемы ўраджай бавоўны-сырца ў калгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках у колькасці 19 млн. ц, па бураках уся плошча пасеву ў колькасці 1.210 тыс. га, па ільну-даўгунцу на валакно і семя—1.950 тыс. га, па ільну-кудрашу на семя—400 тыс. га, па канаплі на валакно і семя—700 тыс. га. Гэта з'яўляецца доказам размераў, якія прыняла кантрактацыя, як новая форма змычкі.

Адмена кантрактацыі і замена яе абавязковымі пастаўкамі не азначае адмены кантрактацыі наогул: „Устанавіць, што ў адрозненне ад загатовак зерня, мяса, малака, бульбы, загатоўкі ільну і канапель, таксама як і іншых важнейшых відаў сыравіны для прамысловасці (бавоўна, буракі) праводзяцца на аснове кантрактацыі.

У сувязі з гэтым раз'ясніць, што абавязацельствы, прадугледжаныя ў догаварах дзяржаўнага ўсесаюзнага аб'яднання „Загатлён“ з калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі, падлягаюць безумоўнаму выкананню як тым, так і іншым бокам і ўхіляючыся ад выканання гэтых абавязкаў адказваюць па суду“ (пастанова СНК і ЦК ВКП(б) да 11 жніўня 1933 г.).

У гэтай-жа пастанове гаворыцца: „Лічыць, што выкананне плана загатовак ільну і канапель з'яўляецца першачарговым абавязкам калгасаў, МТС і аднаасобных гаспадарак. Раз'ясніць, што ўся прадукцыя ільну і канапель, якая застаецца ў калгасах і аднаасобных гаспадарках, пасля выканання плана здачы дзяржаве па догаварах, застаецца ў поўным распараджэнні калгасаў і аднаасобных гаспадарак“.

У БССР барацьба за лён мае не меншае значэнне, чым барацьба за збожжа ў збожжавых раёнах. Аб гэтым чотка і цвёрда сказана ў гэтай-жа пастанове. „Указаць партыйным і совецкім арганізацыям на важнасць справы загатовак тэхнічных культур, у прыватнасці ільну і пянькі, у справе забяспечання прамысловасці і задавальнення патрэб насельніцтва ў прадметах шырокага спажывання і што лён і каноплі ў ільно-канапляводных раёнах павінны займаць у рабоце арганізацый такое-ж месца, якое збожжа займае ў асноўных зерневых раёнах“.

*Новыя формы загатовак—абавязковыя пастаўкі.* Загатоўкі, маючыя сілу падатку, адна з форм эканамічнай сувязі, дапасавальна да абстаноўкі і ўмоў данага этапа соцыялістычнага будаўніцтва.

Калгасны гандаль, як звяно арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і стымулявання росту сацыялістычнага накаплення, а таксама спажывання ў горадзе і вёсцы, як адно са сродкаў павелічэння рэнтабельнасці калгасаў,— патрабуе спалучэння загатовак з абстаноўкай, створанай разгортваннем калгаснага гандлю. *Формай спалучэння загатовак і калгаснага гандлю і з'яўляецца мерапрыемства па пераходу ад сістэмы дагаворных (кантрактацыйных) адносін да сістэмы абавязацельстваў, маючых сілу падатку.*

Першым актам пераходу ад кантрактацыі да абавязковых паставак была пастанова СНК СССР, якая датычыцца мяса, затым масла, малака і сыра, сонечніка, рысу, бульбы і кунжута. Асноўным, у сэнсе пераходу да цвёрдых абавязацельстваў, з'яўляецца пастанова ад 19/I-1933 г. аб зерні. „У мэтах далейшага пад'ёму ўраджайнасці і расшырэння пасеўных плошчаў зерневых культур, а таксама ў мэтах своечасовага вызначэння цвёрдых абавязацельстваў калгасаў і аднаасобных гаспадарак па здачы (продажу) зерня дзяржаве Совет Народных Камісараў СССР пастанаўляе:

1. Адмяніць існуючую дагаворную (кантрактацыйную) сістэму загатовак зерневых культур і ўстанавіць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак, маючыя сілу падатку, цвёрдыя абавязацельствы па здачы зерня па ўстаноўленых дзяржаўных цэнах".

Трэцяя сесія ЦВК СССР 6-га склікання па дакладу тав. Якаўлева аб умацаванні калгасаў пастанавіла:

„Ухваліць цалкам мерапрыемствы партыі і ўрада па адмене існуючай дагаворнай (кантрактацыйнай) сістэмы загатовак па зерні і ўстанаўленні цвёрдых абавязацельстваў па здачы зерня, маючых сілу падатку".

Аналіз прычыны пераходу ад дагаворнай (кантрактацыйнай) формы загатовак да падатковай формы павінен высвятліць прыроду цвёрдых абавязацельстваў, маючых сілу падатку, сацыялістычны характар гэтага мерапрыемства, мэты і задачы, якія яно праследуе і яго месца ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў, г. зн. палітычнае і эканамічнае значэнне гэтага мерапрыемства ў сацыялістычным будаўніцтве.

Загатоўкам у форме цвёрдага абавязацельства прадшэствавалі загатоўкі ў парадку *кантрактацыі.* Гэта адпавядала таму перыяду сацыялістычнага будаўніцтва, калі разгорнутага калгаснага гандлю яшчэ не было, а таксама першапачатковай стадыі разгортвання калгаснага гандлю. Кантрактацыя азначала новыя формы менавой і вытворчай сувязі, якія выражалі значны рост элементаў планавання пры неаслабным ужыванні ўсіх рычагоў ускоснага ўздзеяння плана.

Абавязковыя пастаўкі, маючыя сілу падатку, даюць больш магчымасці ў адносінах планавання для пролетарскай дзяржавы, чым кантрактацыя і ў большай меры спрыяюць сацы-

ялістычнаму развіццю сельскай гаспадаркі. Гэтым самым цвёрдае абавязацельства адыгрывае больш актыўную ролю ў адносінах уздзеяння на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, чым кантрактацыйны догавар.

Што з'яўляецца непасрэднай прычынай пераходу да такой формы загатовак, як падатковае абавязацельства. Несумненна, тут былі ўлічаны і труднасці правядзення збожжазагатовак у 1932 г.

У чым заключаліся недахопы работы па правядзенню загатовак 1932 г.? У тым, што на мясцах „не сумелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай аб'яўленнем калгаснага гандлю збожжам". У чым заключаецца гэта абстаноўка? „Пакуль не было калгаснага гандлю збожжам, пакуль не было двух цэн на збожжа—дзяржаўнай і рыначнай, абстаноўка ў вёсцы была адна. З аб'яўленнем калгаснага гандлю збожжам абстаноўка павінна была змяніцца крута, бо аб'яўленне калгаснага гандлю азначае легалізацыю рыначнай цаны на збожжа, больш высокай, чым устаноўленая дзяржаўная цана. Нечага і даказваць, што гэта акалічнасць павінна была стварыць у сялян пэўную стрыманасць у справе здачы збожжа дзяржаве (Сталін). Чаго патрабавала гэта абстаноўка? „Усямерна ўзмацняць і падганяць збожжазагатоўкі" (Сталін) з самых першых дзён уборкі ўраджаю.

Бліскучы сталінскі аналіз недахопаў нашай работы ў вёсцы наперад вызначае і неабходнасць новых форм загатовак у бок іх прыстасавання да абстаноўкі, створанай калгасным гандлем. Абстаноўка калгаснага гандлю патрабуе „своечасовага вызначэння цвёрдых абавязацельстваў калгасаў і аднаасобнікаў" (з пастановы СНК і ЦК ВКП(б)). Старая догаварная сістэма ва ўмовах калгаснага гандлю адцягвала выкананне збожжазагатовак, а тым самым і гандаль збожжам, які дазваляецца толькі пасля поўнага выканання загатоўчага плана ўсёй рэспублікай, вобласцю або краем. Ці трэба было пры такім становішчы пакідаць старыя формы загатовак, якія ў абстаноўцы калгаснага гандлю не былі цалкам і поўнасцю да яго прыстасаваны? Зразумела, павінны былі быць створаны новыя формы загатовак дапасавальна да гэтай абстаноўкі. Такой формай спалучэння інтарэсаў калгаснага гандлю і загатовак і з'яўляецца цвёрдае абавязацельства, маючае сілу падатку. Гэта форма загатовак дае *перспектыву больш чоткага і своечасовага планавання загатоўчых фондаў і фондаў соцыялістычнага накаплення і спажывання.* Яна дае магчымасць больш дакладна і своечасова ўлічыць рэсурсы калгаса і суадносіны паміж накапліваемымі, адчуждаемымі і спажываемымі часткамі даходу, своечасова і ў першую чаргу здаць дзяржаве падатковыя абавязацельствы, засыпаць сем. фонды, а потым размеркаваць даход унутры калгаса па працаднях, звярнуць больш увагі на колькасць і якасць работы калгаснікаў, на колькасць і якасць калгаснай прадукцыі. Гэтым самым цвёрдае абавязацельства стварае прадпасылкі ўзмацнення планавасці

працэсаў вытворчасці і абароту ў калгасах, далейшага ўзмацнення арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, як „найбольш прымальнай формы гаспадаркі“ (Сталін) для велізарнай большасці сялянства і з'яўляецца адной з умоў рэалізацыі высунутага т. Сталіным лозунга—зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. Асноўнае і рашаючае ў прыродзе цвёрдага абавязацельства, маючага сілу падатку заключаецца ў тым, што яно не толькі не супярэчыць прыродзе калгаса, які „ёсць соцыялістычная форма гаспадарчых арганізацый“ (Сталін), але наадварот, гэта такое абавязацельства, у якім падатковы бок ёсць выражэнне *больш чоткага планаванага характара ўзаемаадносін паміж калгасам і пролетарскай дзяржавай*, якая мае сваёй мэтай арганізацыйна і гаспадарча замацаваць калгасы і стварыць умовы для разгортвання калгаснага гандлю. Абстаноўка-ж калгаснага гандлю дыктуе магчымасць і неабходнасць перайсці ад форм кантрактацыі да формы падатковага абавязацельства ў інтарэсах і дзяржавы, і калгаснікаў, і аднаасобнікаў. Такога тыпу падатковага абавязацельства пры капіталізме быць не можа. Там падатак—гэта фіксальны сродак. Падатковае абавязацельства ў СССР, уведзенае замест кантрактацыі, спрыяе не збядненню, а росту калгасаў. Тав. Сталін, гаворачы аб маладых, нерэнтабельных яшчэ калгасах у сваім дакладзе на студзеньскім пленуме сказаў: „Зразумела, што яны не могуць быць яшчэ рэнтабельнымі ў сваёй большасці. Але што яны стануць рэнтабельнымі на працягу двух-трох год, таксама як сталі рэнтабельнымі нашы фабрыкі і заводы пасля 1921 г., у гэтым не можа быць ніякага сумнення“.

Палітыка загатовак павінна спрыяць павышэнню рэнтабельнасці. Глыбокае параўнанне т. Сталіна нашых калгасаў па ўзроўні развіцця з фабрыкамі і заводамі 1921 г.— першага года нэп'а—гаворыць аб неабходнасці дапамогі калгасам, кіраўніцтва імі і арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацавання іх. Неабходна ўсебаковае і поўнае спалучэнне таго, што дае дзяржава калгасу з тым, што яна бярэ ад яго ў зусім яснай і выразнай для ўчарашняга аднаасобніка, толькі пачынаючага ў калгасе зжываць дробнабуржуазныя тэндэнцыі, форме.

Іменна гэтай поўнасцю зразумелай і даступнай шматмільённай масе формай пагектарнай здачы прадукцыі з'яўляецца форма абавязацельства, маючага сілу падатку. Значэнне падатковага абавязацельства не вычэрпваецца тым, што яно мае сілу падатку. Гэта абавязацельства мае і другі бок. Яно ставіць задачу росту гаспадарчай ініцыятывы і актыўнасці ў такой ступені, каб выкананне падатку шляхам паднящця прадукцыйнасці працы ў калгасах прывяло да росту матэрыяльнага добрабыта калгаснай масы. Спалучэнне ў падатковым абавязацельстве інтарэсаў пролетарскай дзяржавы з інтарэсамі калгаснікаў і аднаасобнікаў і складае два бакі зместа гэтага мерапрыемства. Пры знішчэнні аднаго з гэтых

бакоў падатковае абавязацельства не будзе мець характара соцыялістычнага мерапрыемства.

Тав. Якаўлеў на 3-й сесіі ЦВК СССР, характарызуючы закон аб абавязковай пастаўцы, як выключна важны рычаг павышэння ўраджайнасці, паказаў сувязь гэтага мерапрыемства з цэлым радам задач, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай. „Гэты закон мае велізарнае палітычнае значанне. Ён павінен даць штуршок у барацьбе за ўраджай. Ён павінен даць штуршок да ўстанаўлення севаабаротаў, да стварэння пастаянных брыгад, да адбору лепшага насення, да захавання аграмінімума, да ўстанаўлення агранамічнага парадку“.

Цвёрдае абавязацельства з'яўляецца таксама яркім прыкладам актыўнасці сферы абароту, як фактара, што ўздзейнічае на сферу вытворчасці пры прымаце апошняй.

Несумненна, што правядзенне загатовак па прынцыпу пагектарнай здачы пэўнай часткі прадукцыі, дасць штуршок да абсалютнага яе росту, да павелічэння масы пакідаемай прадукцыі для ўнутрыкалгаснага накаплення, дэцэнтралізаваных загатовак, калгаснага гандлю і асабістага спажывання калгасніка. Разглядаемае такім чынам цвёрдае абавязацельства гаворыць не аб аслабленні эканамічнай сувязі з калгаснікамі, а аб узмацненні яе на растучай матэрыяльнай аснове калгаснага ладу. Падатковае абавязацельства, якое замяніла сабой кантрактацыю, ёсць сродак умацавання арцельнай формы калгаса, паколькі яно дае дыялектычнае спалучэнне дзяржаўных загатовак і калгаснага гандлю на базе росту таварнай прадукцыі.

Задачы павышэння рэнтабельнасці калгасаў неаддзялімы ад разгортвання дэцэнтралізаваных загатовак і калгаснага гандлю. Апошні-ж патрабуе такога спалучэння загатовак і калгаснага гандлю, якое забяспечвала-б стварэнне сыравіннай і харчовай базы для горада і вёскі, накапленне для расшыранай соцыялістычнай рэпрадукцыі, павелічэнне таварнасці прадукцыі, якая ідзе па каналах цэнтралізаваных і дэцэнтралізаваных загатовак, а таксама па лініі совецкага гандлю. У форме падатковага абавязацельства мы набываем яго спалучэнне.

Іменна таму, што гандлёвая змычка ўключае калгасны гандаль, які стварае гэтым самым іншую абстаноўку для загатовак, і патрэбна такая форма загатовак, як падатковае абавязацельства, якое ўлічвала-б гэту абстаноўку з аднаго боку, і спрыяла далейшаму развіццю калгаснага гандлю з другога. Велізарнае значанне грамаджанай сферы абароту, у тым ліку і калгаснага гандлю і загатовак у форме падатковага абавязацельства, зусім відавочна на этапе, калі „мы ўжо закончылі ў асноўным калектывізацыю асноўных раёнаў СССР“ (Сталін). Удзельная вага грамаджанага сектара вызначае значэнне як калгаснага гандлю, так і падат-

ковага абавязацельства ў справе снабжэння рабочага класа і індустрыі харчовымі і сыравіннымі рэсурсамі. Гэта патрабуе перабудовы апаратаў загатоўчых, зямельных, каапэрацыйных дапасавальна да непасрэднага планавання ўліку і кантролю сельска-гаспадарчай вытворчасці, павышэння якасці пасеўных і ўборачных кампаній. Падатковае абавязацельства азначае адну з форм змычкі, якая ставіць сваёй мэтай палепшанне якасных паказчыкаў грамаджанага сектара вёскі, галоўным чынам, падняцця ўраджайнасці—цэнтральнай задачы соцыялістычных палёў. Вытворчая змычка пролетарыята і калгаснага сялянства з'яўляецца асноўнай і рашаючай, аднак разам з ёю, у парадку яе дапаўнення, трэба развіваць і гандлёвую змычку, каб вытворчая змычка ў спалучэнні з гандлёвай даказала ўсе пераважнасці соцыялістычнай формы гаспадарання.

„Цяпер пытанне стаіць ужо не аб тым—быць ці не быць калгасам,—гэтае пытанне ўжо вырашана станоўча. Калгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыты канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць калгасы арганізацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элементы, падабраць сапраўдныя, правераныя большэвіцкія кадры для калгасаў і зрабіць калгасы сапраўды большэвіцкімі" (Сталін). У святле гэтых задач і трэба падыходзіць да адмены кантрактацыйных адносін і замены іх падатковымі абавязацельствамі. Пад кутом погляду ператварэння калгасаў у сапраўды большэвіцкія, падатковае абкладанне набывае іншы сэнс: яно робіцца прамым і непасрэдным сродкам планавага ўздзеяння на калгасную вытворчасць, павышэння яе таварнасці, палепшання якасных паказчыкаў і г. д. Новыя формы загатовак—абавязковая пастаўка прадукцыі дзяржаве пэўнай часткі, пагектарна, ужо праверана і поўнасцю апраўдала сябе на практыцы загатовак мяса, масла і да т. п. Новыя формы загатовак у форме падатковага абавязацельства не цяжкі для грамаджанага сектара і пакідаюць у яго распараджэнні значныя фонды. Нормы і тэрміны здачы дыферэнцыяваны дапасавальна да ўмоў раёна і дапасавальна да паасобных сектараў сельскай гаспадаркі з мэтаю стварэння пераважаючых умоў для развіцця грамаджанага сектара. Гэтым аб'ясняецца павышэнне на 5—10% нормы для аднаасобнікаў. Унутры-ж грамаджанага сектара зніжаны нормы для калгасаў, якія абслугоўваюцца МТС, паколькі апошнія атрымліваюць пэўную частку ўраджая ад калгасаў натурай за выкананыя калгасу работы.

Пастановы аб абавязковых пастаўках зусім не ігнаруюць і інтарэсаў аднаасобнікаў. Новая сістэма загатовак дае перавагі ў параўнанні са старым парадкам загатовак і працоўным аднаасобнікам, не гледзячы на тое, што калгаснікам аказваецца перавага з боку нашай партыі і ўрада. У аднаасобнікаў складаецца ўпэўненасць, што калі ён засее і апрацуе свой участак чэсна і добрасумленна, калі ён выка-

нае ў час і поўнасцю свае абавязацельствы перад дзяржавай, то яму застанецца больш прадуктаў як для асабістых патрэб, так і для продажу на совецкім рынку.

Апублікаваныя пастановы СНК і ЦК ВКП(б) аб усебаковых пастаўках сонечніка, бульбы, рысу-сырцу (шалы, чалтэка), шэрсці і кунжута маюць тую-ж мэту, што і пастанова аб абавязковай пастаўцы зерня.

На з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў т. Сталін паставіў буйнейшую палітычную бліжэйшую задачу—зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі. „Мы дабіліся таго, што паднялі, дзякуючы калгасам, беднякоў да ўзроўню сераднякоў. Гэта вельмі добра. Але гэтага мала. Мы павінны цяпер дабіцца таго, каб зрабіць яшчэ адзін крок уперад і дапамагчы ўсім калгаснікам—і быўшым беднякам і быўшым сераднякам падняцца да ўзроўню заможных".

Закон аб абавязковых пастаўках несумненна з'яўляецца адным са звенняў задачы зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі. Які водгук знайшоў у краіне закон аб абавязковай пастаўцы, аб гэтым чотка сказаў 1-шы Усесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў у сваёй адозве да ўсіх сялян-калгаснікаў Саюза ССР.

Невыпадкова, што ў сваёй адозве з'езд вітае гэту пастанову ад імя тысяч перадавых калгасаў:„ Мы ўпэўнены, што кожны чэсны калгаснік далучыць да нас свой голас, бо гэта пастанова павялічвае сілу чэсных калгаснікаў у іх барацьбе супроць кулацкіх і шкодніцкіх элементаў, якія прабраліся ў калгасы. Гэта пастанова прымусіць усе калгасы ўзяцца па сапраўднаму за навядзенне парадкаў у гаспадарцы, за павышэнне ўраджайнасці, за палепшанне работы. Яна дапаможа нам, неўмацаваўшымся калгасам, хутчэй умацавацца; яна, нарэшце, дасць новы штуршок соцыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву ў калгасах".

Тав. Молатаў у сваёй прамове на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў указаў на вялікае значання для веснавой сяўбы закона аб абавязковай пастаўцы, паведаміўшы, што гэтая пастанова, змяншаючы размер здачы збожжа дзяржаве, павялічвае зацікаўленасць калгасаў і калгаснікаў да павышэння ўраджайнасці, у падняцці калгаснай гаспадаркі.

Затое прыдзецца крыўдзіцца на саміх сябе тым калгасам і аднаасобнікам, якія паплятуцца за кулаком і не выканаюць плана засеву. У такіх калгасах і аднаасобнікаў палягчэння па здачы збожжа дзяржаве не атрымаецца.

Аб ступені змяншэння размера здачы сельска-гаспадарчай прадукцыі дзяржаве і аб тым, як адаб'ецца закон аб абавязковай пастаўцы на павелічэнні той часткі прадукцыі, якая пасля выканання плана загатовак у цэлым па рэспубліцы, краі, вобласці пойдзе па каналах совецкага гандлю і дэцэнтралізаваных загатовак, гавораць наступныя лічбы, прыведзеныя т. Куйбышавым у дакладзе аб народна-гаспадарчым плане на 1933 г. на студзеньскай сесіі ЦВК СССР:

„Узровень ураджайнасці ў плане 1933 г. запраектаваны па зерневых культурах у сярэднім у 8 ц з 1 га, што дае рост супроць фактычнай ураджайнасці 1932 г. на 13%, па бавоўне—у 9 ц з га, што дае рост на 8% у параўнанні з 1932 г., па ільно-валакну ў 2,4 ц—рост на 20%, па сонечніку 5,5 ц з га—рост на 25%, па цукровых бураках—100 ц з га—рост на 32%. Калі параўнаць гэтыя даныя аб ураджайнасці з нормамі абавязковай пастаўкі па гэтых культурах, то робіцца зусім відавочным, якімі буйнымі таварнымі рэсурсамі будуць уладаць калгасы і калгаснікі для разгортвання калгаснага гандлю сельска-гаспадарчымі прадуктамі.

У раёне Безанчукскай МТС праведзеная работа па папулярызацыі новага закона дала вялікія рэзультаты па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў гэтага раёна; у той-жа час гэта работа дае наглядны матэрыял аб ступені змяншэння размера здачы збожжа ў параўнанні з 1932 г. Прыводзім вытрымкі з пісьма калгаснікаў 3-й брыгады калгаса імя Леніна, апублікаваныя ў перадавой „Праўды“:

„Падлічылі мы і выходзіць: у 1932 г. здана было па 6 ц з га, цяпер-жа прыдзецца зрабіць па 2,5 ц плюс аплата натурай МТС. Значыць і жывёлы можна завесці больш і коняй выправіць добрых, як раней у эканоміі было“.

У гэтай-жа перадавой мы чытаем: „Яшчэ больш дакладныя падлікі зрабілі калгаснікі украінскага калгаса „Красный Гончар“ (Днепрапятроўскай вобласці). Яны, выходзячы з цвёрдай нормы пастаўкі зерня дзяржаве, падлічылі, што пры добрасумленнай рабоце кожны калгаснік атрымае ў сярэднім па 7,5 кг збожжа на працадзень, г. зн. утрая больш, чым у мінулым годзе“ („Правда“ ад 29/III-1933 г.).

Тая акалічнасць, што пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) забараняецца мясцовым органам улады і загатоўчым арганізацыям высоўваць якія-б то ні было сустрэчныя планы пастаўкі прадукцыі дзяржаве ў парадку абавязковага абавязацельства, гаворыць аб тым, што партыя і ўрад праводзяць лінію на павелічэнне сваіх клопатаў і ўвагі ў тым сэнсе, каб тыя, хто працуе па колькасці больш, а па якасці лепш, сапраўды на справе атрымлівалі-б больш. Падатковае абавязацельства, такім чынам, дапамагае зжыванню ўраўнілаўкі.

Пастанова СНК і ЦК ВКП(б) аб абавязковай пастаўцы збожжа дзяржаве накіравана на развіццё прадукцыйных сіл калгаснага ладу і павелічэнне таварнасці сельска-гаспадарчай прадукцыі. Недавыкананне плана пасеву змяншае колькасць прадукцыі, якая застаецца ў распараджэнні калгаса і калгаснікаў. Перавыкананне-ж пасеўных планаў павялічвае колькасць прадукцыі, якая застаецца ў калгаснікаў. У гэтым заключаецца вялікая эканамічная сіла новага мерапрыемства для мабілізацыі ўсіх сіл калгаса на правядзенне пасеўнай і ўборачнай кампаній.

Прынцып цвёрдага абавязацельства, выходзячы з пагектарнай нормы здачы дзяржаве, непасрэдна звязаны з прынцыпам росту даходнасці ў залежнасці ад росту колькасці і якасці працы. У гэтым заключаецца соцыялістычны характар палітыкі загатовак у форме цвёрдага абавязацельства. Лепшыя калгасы і калгаснікі павінны больш атрымаць у фонд унутрыкалгаснага накаплення і спажывання пасля выканання абавязковай пастаўкі дзяржаве. Прынцып, які закладзены ў аснове новай формы загатовак, б'е па дробнабуржуазнай абязлічцы—ураўнілаўцы. Рэнтабельным стане ў бліжэйшы час той калгас, які расставіць сілы ў адпаведнасці з задачамі падняцця ўраджайнасці і расшырэння пасеўных плошчаў зерневых культур і выканае якасныя і колькасныя паказчыкі плана пры ўпоры на павышэнне ўраджайнасці. Новую форму загатовак, маючую сілу падатку, нельга разглядаць таму як падатак, які аслабляе калгасную гаспадарку.

За першую пяцігодку калгасная вёска атрымала непасрэдна ад пролетарскай дзяржавы 120 тыс. новых трактароў, якія працуюць у 2.446 МТС, больш чым на 1½ млрд. руб. сельска-гаспадарчых машын і г. д. З гэтага пункту погляду падатковае абавязацельства прымае прынцыпова іншы змест, чым падатак у капіталістычных краінах. У СССР яно па сваёй прыродзе носіць характар не аднабаковага акта: даць дзяржаве ва ўшчэрб сабе і толькі. Падатковае абавязацельства—гэта двухбаковы акт. Пролетарская дзяржава падводзіць пад сельскую гаспадарку магутную тэхнічную базу, рэканструіруе сельскую гаспадарку па соцыялістычнаму прынцыпу. Яна будуе заводы камбайнаў, трактароў і г. д., яна, значыцца, мае права патрабаваць цвёрдых абавязацельстваў і ад рэканструктуемай ёю вёскі. Гэты двухбаковы характар падатковага абавязацельства неаддзяляльны ад прыроды і соцыялістычнага характара вытворчай і гандлёвай змычкі на новым этапе.

Аб тым, што абавязковыя пастаўкі не з'яўляюцца падаткам, а абавязацельствам, звязаным з каласальнейшай дапамогай, якая аказваецца сялянам-калгаснікам, гаворыць той факт насеннай дапамогі калгасам і соўгасам Украіны і Паўночнага Каўказа, якім пастановай СНК і ЦК ВКП(б) ад 25/ІІ-1933 г. адпускаецца бяспроцантнай зваротнай пазычкі насеннем каля 36 млн. пудоў, з іх Украіне—20.300 тыс. пуд., у тым ліку калгасам 18.600 тыс. пуд.; Паўночнаму Каўказу—15.300 тыс. пудоў, у тым ліку калгасам 12.400 тыс. пудоў.

У тэарэтычным абгрунтаванні прыроды загатовак, маючых сілу падатку, нельга прайсці міма таго боку падатковага абавязацельства, што гэта форма загатовак робіць вялікі крок да новага характара змычкі: больш непасрэднай сувязі абавязацельстваў калгасаў—дзяржаве, якія з'яўляюцца адказам на створаныя пролетарыятам у сельскай гаспадарцы вытворчыя сілы (МТС).

На папярэднім этапе праз сістэму абавязковых паставак нельга было падганяць прадукцыйныя сілы сельскай гаспадаркі, паколькі матэрыяльная база была недастаткова. Тады сістэма кантрактацыі была больш моцным сродкам для падняцця сельскай гаспадаркі. Цяпер развіццё прадукцыйных сіл у сельскай гаспадарцы, павышэнне ўраджайнасці і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў праз кантрактацыю, у асноўным ужо пройдзены шлях. Непасрэдным метадам уздзеяння ў бок развіцця социялістычных прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўся сістэма непасрэднага планавання, у першую чаргу МТС і палітаддзелы, а таксама ўздзеянне плана праз інструмант цэн, цвёрдыя абавязацельствы і г. д., усё больш і больш набываючых характар не ўскоснага, а непасрэдна планавага ўздзеяння.

У такой абстаноўцы дагаворныя адносіны, г. зн. кантрактацыя ў адносінах зерневых культур і прадуктаў жывёлагадоўлі робіцца лішнім, бо яна характэрна для таго этапа вытворчай і гандлёвай змычкі пролетарыята і сялянства, калі, галоўным чынам, праз кантрактацыю можна было ўкараняць планавы пачатак ва ўжытак сельскай гаспадарцы і такім чынам уплываць на ход, напрамак і пад'ём сельскагаспадарчай вытворчасці. Цяпер у нашых руках МТС—новая прадукцыйная сіла, праз умацаванне якой мы будзем кіраваць працэсамі сельска-гаспадарчай вытворчасці і социялістычнай рэканструкцыі вёскі. У гэтых умовах кантрактацыя зерневых культур і прадуктаў жывёлагадоўлі, як метад планавання, зжыла сябе і ўступіла месца непасрэднаму планаванню сельскай гаспадаркі дзяржавай праз МТС. У гэтым адна з прычын неабходнасці ўмацавання МТС і арганізацыі пры іх палітаддзелаў. Класавая барацьба не цярпіць „нейтральных“ калгасаў. Яны могуць быць або совецкімі, або антысовецкімі. Задача зрабіць калгасы большэвіцкімі патрабуе непасрэднага кіраўніцтва калгасамі з боку пролетарыята. У гэтым сэнсе кантрактацыйная згода ў адносінах указанай сельска-гаспадарчай прадукцыі была-б на даным этапе гнілым лібералізмам. Прамое планаванне праз МТС зжыло такія метады планавання, як кантрактацыя. Сістэма кантрактацыі не адказвала абстаноўцы, створанай калгасным гандлем. Яна адкрывае многа шчылін для рвацтва і іншых дробна-буржуазных перажыткаў, нязжытых яшчэ калгаснікамі. Зараз кантрактацыйная сістэма звузіла разгортванне калгаснага гандлю, гэта форма сувязі ўступіла-б у супярэчнасць з той формай гандлёвай змычкі, якой з'яўляецца калгасны гандаль і дэцэнтралізаваныя загатоўкі.

Падатковае абавязацельства вырашае гэту супярэчнасць паміж формай гандлю і формай загатовак тым, што яно не толькі не тармозіць, але і спрыяе развіццю калгаснага гандлю, як важнейшага звяна гандлёвай змычкі. Наяўнасць-жа дагаворных, кантрактацыйных адносін перашкаджала-б і развіццю калгаснага гандлю і нармальнаму выкананню загатовак. Цэнтральны камітэт партыі ўлічыў гэту абстаноўку. Тав. Сталін

даў ёй бліскучы аналіз на студзеньскім пленуме. Пераход ад кантрактацыі да падатковага абавязацельства стварае новую форму загатовак дапасавальна да ўмоў і абстаноўкі калгаснага гандлю і дае бліскучае дыялектычнае спалучэнне загатовак з калгасным гандлем.

Падатковае абавязацельства адрозніваецца яшчэ ад звычайнага падатку тым, што яно прадстаўляе сабой здачу (продаж) прадукцыі, як гэта сфармулявана ў пастанове СНК і ЦК ВКП(б). Гэта надзвычайна істотны момант у вызначэнні прыроды новага падатковага абавязацельства ў адрозненне яго ад падатку. Характара продажу прадукцыі не носіць ніякі падатак. Апрача таго, што таксама не менш істотна руху прадукцыі, якая ідзе дзяржаве ў парадку падатковага абавязацельства, спадарожнічае рух у вёсцы патока ўзрастаючай з года ў год масы промтавараў шырокага спажывання, не гаворачы ўжо аб руху туды сродкаў вытворчасці. Значыць, гэта ў корані мяняе змест падатковага абавязацельства ў тых адносінах, што маючы сілу падатку яно—не падатак у вузкім сэнсе слова.

Характар падатковага абавязацельства наперад вызначаецца вытворчай і гандлёвай змычкай, накіраванай у бок развіцця социялістычных форм сельскай гаспадаркі і стварэння пераважаючых умоў для іх у параўнанні з аднаасобнымі гаспадаркамі. Нельга затушаваць гэтага боку прыроды падатковага абавязацельства, сувязі яго з арцельнай формай калгаса, ставячай сваёй задачай пераробку ўчарашняга аднаасобніка.

Падатковае абавязацельства, несумненна, у некаторай ступені адлюстроўвае тую акалічнасць, што не ўсе калгасы сталі яшчэ большэвіцкімі калгасамі, што калгаснікі яшчэ не социялісты, што калгасная форма, хоць і социялістычная форма, але ўсё-ж толькі форма і ўсё залежыць ад таго, які змест заключаны ў ёй, у чыіх руках яна знаходзіцца. Цвёрдае абавязацельства, як форма загатоўкі, адлюстроўвае і тое, што моцны яшчэ рэшткі няізжытых дробна-буржуазных тэндэнцый—паменш даць, пабольш узяць, больш вывезці на рынак па больш высокай цане, паменш здаць у парадку загатовак па дзяржаўнай цане. Падатковае абавязацельства з аднаго боку ўлічвае адмоўныя бакі калгаснага гандлю, з другога боку—адкрывае новыя магчымасці для далейшага яго разгортвання па прынцыпу савецкага гандлю без капіталістаў і спекулянтаў.

Падатковае абавязацельтва ўлічвае форму калгаса, як социялістычную форму і з гэтага боку падатковае абавязацельства дае стымул для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і разгортвання калгаснага гандлю. У той-жа час яно ўлічвае элементы класавай барацьбы, рвацкія тэндэнцыі, пераацэнку гэтай формы. У гэтых адносінах падатковае абавязацельства гарантуе ў барацьбе з самацёкам поўнае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай. Яно спалучае станоўчыя і адмоўныя ўласцівасці калгаснага гандлю на даным этапе ў такой форме загатовак, якая служыць далей-

шаму развіццю і ўмацаванню калгасаў як соцыялістычнай формы.

Але і падатковае абавязацельства не гарантуе самацёчнага, стыхійнага „плаўнага“ ходу загатовак.

Тут патрэбна асабліва глыбокая арганізацыйнагая работа, бо падатковае абавязацельства арганічна звязана з планам пасеву, з арганізацыяй пасеўнай і ўборачнай кампаній. Падатковае абавязацельства таму патрабуе вялікай увагі і кіраўніцтва калгаснай вёскай, узмацнення планавання як у сферы вытворчасці, так і ў сферы абароту.

---

Інжынер М. Каўцэвіч.

# Энергетычныя рэсурсы БССР і іх скарыстанне ў сувязі з праблемай „Вялікага Дняпра"

З прычыны мізэрнасці маючыхся ў наяўнасці матэрыялаў, якімі аўтар карыстаўся пры складанні гэтага нарыса, сабраныя і апрацаваныя тут звесткі з'яўляюцца толькі арыентыровачнымі і патрабуюць у далейшым навуковага ўдакладнення.

Гэта—толькі спроба поўнага выяўлення энергетычных багаццяў БССР.

*Віды энерга-рэсурсаў. Энерга-рэсурсы кожнай краіны падзяляюцца на два віды: аднаўляемыя і неаднаўляемыя.*

## А. НЕАДНАЎЛЯЕМЫЯ ЭНЕРГА-РЭСУРСЫ БССР.

Да іх у БССР належыць торф і сапрапелі.

### I. Торф

Торф з'яўляецца на даным этапе галоўным энерга-рэсурсам для БССР. Найбольш праўдападобныя, адпавядаючыя ісціне, даныя дае „Белторфаб'яднанне" (гл. інж. А. М. Васільеў, журн. „Соц. будаўніцтва" № 8-9, за 1931 г.). Гэтыя-ж даныя ў асноўным зацверджаны на міжведамственнай нарадзе пры сектары нетраў Дзяржплана СССР ад 29/XII-1931 г. Згодна гэтых даных у БССР маецца на 1/I-1932 г. тарфяных балот 642.150 га, або 5,1% усёй тэрыторыі БССР. На вышэйуказанай нарадзе была яшчэ адзначана, як магчымая лічба, плошча беларускіх тарфянікаў каля 1,5 млн. га.

З усіх балот дэтальна даследвана 130.000 га, рэкагнасцыровачна—170.000 га, а ўлічана статыстычна—342.150 га.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Нізінных балот (разлажэнне—45%) | . . 204.225 га | = | 32% |
| Пераходных „ „ 40%) | . . 285.025 „ | = | 44% |
| Мохавых „ „ 25%) | . . 152.900 „ | = | 24% |
| Усяго | . 642.150 га | = | 100% |

Беларускія тарфяныя балоты з'яўляюцца моцна канцэнтраванымі (57,5% складаюць балоты плошчай звыш 1.000 га), што вельмі выгодна для *будаўніцтва буйных электрастанцый і тарфяных камбінатаў*. Прыкладам могуць быць: буйныя тарфяныя залежы недалёка ад г. Оршы (Асінаўскія тарфяныя балоты,. на якіх пабудавана працуючая ўжо Асінаўская ДРЭС ім Сталіна), тарфяныя залежы ў раёне Быхава-Прапойска, у раёне Гомеля і г. д.—у раёне р. Дняпра; Судобльскі тарфяны масіў недалёка ад г. Барысава на р. Бярэзіне; буйны тарфяны масіў у раёне Обаль на Зах. Дзвіне і інш.

Згодна ступені разлажэння ўвесь торф можна падзяліць на: а) слаба разложаны і б) паліўны, які можна скарыстаць у якасці як хімічнай сыравіны, так і паліва.

Усяго запасаў торфу маецца ў БССР:

| | | |
|---|---|---|
| *Паліўнага*: | бруто паветрана-сухога (30% вільгаці) . . . . | 1.274.458.000 т |
| | нето (з улікам страт) . . | 919.637.000 т |
| *Або ва ўмоўным паліве* запас паліўнага торфу нето роўны . . . . . | | 432.200.000 „ |
| Слаба-разложанага: | | |
| | бруто паветрана-сухога (30% вільгаці) . . . . | 94.343.000 „ |
| | нето (з улікам страт) . . | 89.626.000 „ |
| Усяго торфу: | | |
| | бруто паветрана-сухога . . | 1.368.801.000 „ |
| | нето „ „ . . | 1.009.263.000 „ |

Калі-б увесь паліўны торф выкарыстаць толькі на паліва для электрастанцый, то ў БССР можна было-б пабудаваць каля 3,83 млн. кіловат электрастанцый на торфе з тэрмінам амартызацыі 30 год.

*Скарыстанне торфу*. Асноўным спажыўцом торфу ў генплане з'яўляюцца *электрастанцыі*. Пераважаючы тып электрастанцый — цяпло-электрацэнтралі. Найбольш буйныя электрастанцыі намячаюцца па генплану якраз у басейне Дняпра. Гэта—па намётках генплана: Асінаўская ДРЭС— 70.000 квт., запас паветрана-сухога торфу—20 млн. т, з забяспечанасцю станцыі на 28 год; Быхаўская ДРЭС — 175.000 квт., запас паветрана-сухога торфу 26 млн. т з забяспечанасцю станцыі на 21 год; Гомельская ДРЭС — 175.000 квт., з запасам паветрана-сухога торфу 27 млн. т на 22 гады. Гэтыя асноўныя станцыі і іншыя, якія намячаюцца па генплану ў БССР, будуць несці асноўную сілавую нагрузку, будучы паміж сабой злучанымі магутнымі лініямі электраперадач. Гэтыя станцыі будуць уключаны ў Дняпроўскую электра-магістраль, якая павінна будзе злучыць усе буйныя электрастанцыі басейна „В. Дняпра"

ў адно кальцо, праходзячае з Украіны праз БССР на Ленінград, прапускной здольнасцю парадку 500.000 квт з напружаннем парадку 220.000 вольт.

У генплане будзе праведзена ў жыццё комплекснае скарыстанне торфу. З найбольш важных прадуктаў перапрацоўкі торфу можна ўказаць наступныя: тарфяны кокс, тарфяныя брыкеты, генератарны газ з торфу, будаўнічыя матэрыялы з торфу; *скарыстанне торфу як угнаення для падняцця ўраджайнасці глеб БССР*, бедных арганічнымі рэчывамі; скарыстанне торфу ў медыцыне і г. д.

Такое ўсебаковае скарыстанне торфу магчыма толькі шляхам *пабудовы камбінатаў* на вялікіх тарфяных масівах. Такі камбінат павінен уключыць у сябе электрастанцыі і заводы: газавы, коксавы, брыкетны, перапрацоўкі смалы, ізаляцыйных пліт і інш.

Падобны буйны энерга-хімічны тарфяны камбінат намячаецца да пабудовы ў БССР у раёне Прапойска.

### Сапрапелі

Нафтавыя прадукты, як бензін, карасіна, парафін, змазачныя маслы і інш. можна атрымаць не толькі з нафты, але і з сапрапеляў.

Згодна звестак „Бел. Геолагаразведкі" і матэрыялаў I Усебеларускага энергетычнага з'езда (1932 г.) у БССР арыентыровачна маецца каля 100.000 га сапрапеляў, з якіх можна атрымаць каля 4,5 млн. т нафты, або ва ўмоўным паліве—6,75 млн. т умоўнага паліва, што будзе мець значэнне для скарыстання ў хімічнай прамысловасці і для транспарта (аўтотрактарны парк, авіяцыя і інш.).

## Б. АДНАЎЛЯЕМЫЯ ЭНЕРГА-РЭСУРСЫ

Да іх у БССР належаць: дровы, цякучая вада, вецер, лясныя адкіды, адкіды сельскай гаспадаркі, прамысловасці і інш.

### Дровы

З лясоў дзяржаўнага значэння ў БССР пакрытая лесам плошча роўна 2.174.000 га. Умоўна спелая частка дрэвастанаў у БССР на 1/І-1932 г. складала 118.275.000 куб. м. (гл. „Лясная гаспадарка БССР за 15 год"—Дзяржвыдат БССР, 1933 г.).

Дровы павінны будуць у 2-й пяцігодцы заняць, улічваючы інтэнсіўнае скарыстанне на паліва торфу, другараднае месца ў паліўным балансе БССР. Пры рацыянальным скарыстанні лясных рэсурсаў магчыма кожны год здабыць на дровы толькі 3,6 млн. куб. м лесу, апрача таго, каля 0,7 млн. куб. м адкідаў пры лесазагатоўках, прыгодных для паліва.

У пераводзе на ўмоўнае паліва пры 200-гадовай прадукцыі дровы складаюць каля 211 млн. т умоўнага паліва ў паліўным балансе БССР.

Лясы БССР маюць для вырашэння праблемы „В. Дняпра" велізарнае значэнне як: а) база будаўнічых матэрыялаў, б) для рэгулявання стоку шматлікіх рэк сістэмы „В. Дняпра" (гл. выступленне праф. Кайгарадава па гэтаму пытанню на абмеркаванні даклада т.т. Домбаля і Воблага) і інш.

### Водныя энерга-рэсурсы

Падлік водных рэсурсаў БССР зроблен інж. Лейвікавым (гл. яго брашуру—„Гідраэнергетычныя рэсурсы БССР"— Дзяржвыдат БССР, 1932 г.). Магутнасць ім указана для 5 суднаходных рэк (Зах. Дзвіна, Днепр, Бярэзіна, Сож і Прыпяць) і 93 несуднаходных з агульнага ліку 3.500 рэк у БССР. З несуднаходных узяты толькі тыя, якія маюць магутнасць не менш 20—25 кон. сіл пры сярэдне-межаным гарызонце. Інж. Лейвікаў указвае, што прычынай нізкай энергетычнай каштоўнасці рэк БССР з'яўляюцца: 1) рэкі БССР маюць вельмі нізкае падзенне; 2) з прычыны нізкага рэльефа краю існуе небяспека вялікага затаплення прылеглых ваколіц пры пабудове плацін.

Патэнцыянальная магутнасць рэк БССР бруто ў квт будзе:

| | |
|---|---|
| для сярэдне-нізкага гарызонта . . . | 130.261 квт |
| „ сярэдне-межанага . . . . | 228.526 „ |

Пры 200-гадовым перыядзе скарыстання патэнцыяльны запас энергіі ў цякучых водах БССР роўны 137,1 млн. т умоўнага паліва.

*Арыентыровачныя перспектывы скарыстання.* На 1-й Усесаюзнай канферэнцыі „Вялікага Дняпра" у Кіеве 4—9 сакавіка 1933 г. па прапанове дэлегацыі Беларускай акадэміі навук [1] была прынята пастанова аб першачарговым будаўніцтве ў БССР на Дняпры *Оршанскай гідра-электрастанцыі.* Па намётках „Укргіправода" магутнасць Оршанскай гідрастанцыі намячаецца ў 12.700 квт пры падпоры ў 16 м пры расходзе вады 95 кбм/сек. Магчымасць затаплення прылеглых ваколіц пры гэтым улічвалася, магымасць акумуліравання—не ўлічвалася. Мяркуемая гадавая выпрацоўка каля 63 млн. кіловатгадзін. Арыентыровачны кошт Оршанскай гідрастанцыі каля 16 млн. руб. (па думцы інж. Ваяводскага—каля 23 млн. руб.). Кошт 1 квтг па даных „Укргіправода"—каля 2,56 капейкі.

Пры складанні канчатковага тэхнічнага праекту неабходна будзе ўлічыць акумуліраванне на Оршанскай гідрастанцыі шляхам перакачкі вады з ніжняга б'ефа ў верхні.

[1] Склад дэлегацыі: акадэмік Домбаль Т. Ф. (старшыня), акад. Бліодухо, акад. Петровіч, інж. Каўцэвіч (сакратар), прафесар Красоўскі.

Пабудова спецыяльнага гідраакумулятара паблізу Оршанскай гідрастанцыі наўрад ці будзе магчыма з прычыны вялікага затаплення ваколіц, і, відавочна, адсутнасці неабходных вышынь паблізу гідрастанцыі. Усё гэта даказвае толькі неабходнасць самага сур'ёзнага геалагічнага і тапаграфічнага абследвання гэтага раёна. Наяўнасць такой даволі буйнай ва ўмовах БССР гідрастанцыі, ды к таму-ж яшчэ з магчымасцю акумуліравання, будзе мець велізарнае значэнне для выраўнівання графікаў нагрузак электрычнай высокавольтнай сістэмы БССР, дзе асноўную нагрузку будуць несці цеплавыя станцыі на торфе, як Асінаўская, Быхаўская, Гомельская і інш. Магчымасць гідраакумуліравання на Оршанскай гідрастанцыі будзе мець значэнне для падняцця надзейнасці рэзерва і яго імгненнасці, а таксама дасць магчымасць зменшыць паравы рэзерв на паравых электрастанцыях.

Правільнае вырашэнне праблемы „В. Дняпра“ магчыма толькі, на наш погляд, пры комплексным вырашэнні яе разам з так наз. „Валдайскай праблемай“. „Валдайскай праблемы“ ніяк нельга абыйсці, асабліва яе так званай „Лавацка-Дзвінскай“ часткі. Да гэтага часу аўтарам гэтай праблемы інж. Ваяводскім „Лавацка-Дзвінская праблема“ (калі можна яе так назваць), распрацавана толькі ў энергетычнай яе частцы, і то пры гэтым недастаткова. У сваім нарысе, змешчаным у зборніку „Комплексные водохозяйственные проблемы СССР“ (Соцэкгіз, 1932 г., часть 1) інж. Ваяводскі зусім памылкова сцвярджае, што „Зах. Дзвіна ў межах Саюза можа быць скарыстана толькі вышэй Віцебска“ (стар. 137). Зразумела, гэта няверна таму, што Зах. Дзвіна ў сэнсе яе непасрэднага энерга-скарыстання значна выгадней Верхняга Дняпра, на што ўказвае і інж. Лейвікаў. Іншая справа, што эфектыўнасць яе скарыстання пры перакідцы часткі вады ў Ловаць значна павышаецца. Гэтае якраз павышэнне эфектыўнасці энерга-скарыстання вады Зах. Дзвіны, і пры тым значнае павышэнне (згодна даных інж. Ваяводскага), указвае на мэтазгоднасць з энергетычнага пункту погляду правядзення ў жыццё праекта інж. Ваяводскага. Сумненне ў нас выклікае толькі магчымасць пабудовы ў басейне верхняй Зах. Дзвіны некалькіх буйных вадахавальнікаў, як напрыклад, Жыжыцкі, Дзвін'е, Велінскі і інш., без значных затапленняў акружаючых мясцовасцей. Сумніцельна таксама сцверджанне інж. Ваяводскага, што „комплекснае вырашэнне энергетычнай і транспартнай праблемы Чарнаморска-Балтыцкага воднага шляха выключае Оршанскую трасу і магчыма толькі пры злучэнні Дняпра з Дзвіной па Каспле паблізу Смаленска“ (стар. 140).

*Гідра-акумуліраванне.* Пры параўнальнай беднасці БССР гідрарэсурсамі асаблівае значэнне набывае гідра-акумуліраванне, якое будзе мець велізарнае значэнне пры пабудове ў БССР адзінай высокавольтнай сеткі (АВС) для пакрыцця пікавых нагрузак раённых электрастанцый і зніжэння іх рэзервнай магутнасці.

Гідра-акумуліраванне можа быць дваякага роду: 1) шляхам перакачкі вады на гідрастанцыях з ніжняга б'ефа ў верхні і скарыстання яе ў часе пікоў або аварый на цеплавых электрастанцыях; 2) шляхам пабудовы спецыяльных гідра-акумулятараў, што зможа мець месца пры наяўнасці адпаведнай розніцы вышынь і пляцовак для пабудовы адпаведных вадахавальнікаў у верхнім і ніжнім б'ефе.

Падобныя гідра-акумулятары за апошнія некалькі гадоў асабліва распаўсюдзіліся ў Германіі і поўнасцю сябе там апраўдалі. Гэтае апошняе дасягненне капіталістычнай тэхнікі пры крытычнай яго ацэнцы мы зможам скарыстаць і ў нашых соцыялістычных умовах.

*Скарыстанне энергіі малых рэк.* На малых, несуднаходных рэках БССР басейна „В. Дняпра“ і Зах. Дзвіны, як напрыклад, Каспля, Ула, Дрыса, Обаль, Друць і інш., неабходна будзе паставіць пытанне аб пабудове гідрастанцый мясцовага значэння з магутнасцю парадку 100—150 квт. Пры вялікім запатрабаванні ў 2-й пяцігодцы ў электраэнергіі з боку соцыялістычнай сельскай гаспадаркі—соўгасаў і калгасаў, і немагчымасці іх усіх электрыфікаваць ад АВС, будзе неабходнасць і ў малых электрастанцыях. Такія невялікія гідрастанцыі лёгка могуць быць пабудаваны, апрача параўнальна нязначнага машыннага абсталявання, з мясцовых матэрыялаў і на сродкі мясцовага бюджэта. Таму неабходна будзе гэта ўлічыць пры пабудове станцый мясцовага значэння, асабліва пры вырашэнні праблемы „В. Дняпра“, дзе пытанне гэта будзе вырашацца комплексна.

## Ветравыя энерга-рэсуры

Падлік ветравых энерга-рэсурсаў БССР зроблен на падставе нагляданняў беларускіх метэаралагічных станцый, якія з'яўляюцца параўменшанымі з прычыны розных тэхнічных недакладнасцей пры вымярэннях. Таму падлік сярэднегадавой скорасці ветру ў БССР, праведзены праф. Кайгарадавым (журн. „Соц. будаўніцтва“, № 8-9, за 1931 г.), трэба лічыць параўменшаным. Сярэдняя скорасць ветру ў БССР за год, згодна праф. Кайгарадава, роўна 3,5 м/сек. пры гадавой загрузцы ветра-рухавікоў каля 3.800 гадзін. Пры размяшчэнні ветрарухавікоў на зямлі ў шахматным парадку, з тэрыторыі БССР магчыма атрымаць магутнасць каля 5,15 млн. квт. Пры пералічэнні на ўмоўнае паліва пры 200-гадовым перыядзе скарыстання гэта дасць значную лічбу энергіі, роўную 2.348 млн. т умоўнага паліва.

Пры выкананні генплана электрыфікацыі, БССР будзе ахоплена кальцом магутных электраперадач. Але не ўсе мясцовасці БССР будуць ахоплены электраперадачамі ад РЭС. У гэтых мясцовасцях, побач з усебаковым і рацыянальным скарыстаннем воднай энергіі, неабходна будзе разгарнуць (на даным этапе) будаўніцтва хоць-бы невялікіх ветравых установак. Такія ветраўстаноўкі змогуць часткова забя-

спечыць запатрабаванні социялістычнай сельскай гаспадаркі (калгасаў і соўгасаў) у механічнай і электрычнай энергіі.

Важную ролю зможа адыграць установка ветрарухавікоў для асушкі забалочаных мясцовасцей БССР. Гэта можна сказаць хоць-бы аб раёне р. Прыпяці, які мяркуецца асушыць у сувязі з вырашэннем праблемы „В. Дняпра". Тут, відавочна, прыдзецца ўжыць не толькі натуральнае асушэнне, але і механічнае. А для апошняга неабходна будзе камбінаванае скарыстанне цеплавой, гідра- і ветра-энергіі.

У адносінах скарыстання энергіі ветру ў нас у СССР у апошнія гады праводзіцца ўзмоцненая даследчая работа. Паказчыкам гэтага з'яўляецца хоць-бы заснаванне ў Маскве ў 1932 г. Цэнтральнага навукова-даследчага ветра-энергетычнага ін-та, які займаецца канструяваннем рознага тыпу ветрарухавікоў, аж да самых магутных.

У капіталістычных краінах таксама займаюцца праблемай скарыстання энергіі ветру. Цікава будзе тут адзначыць праект германскага інжынера Гонефа, сканструяваўшага магутны ветрарухавік. Тры-пяць такіх ветрарухавікоў змяшчаюцца на спецыяльнай башні вышынёй 350—400 м, даючы сумарную магутнасць парадку 20—25 тыс. квт. Даклад інж. Гонефа ў пачатку 1932 г. быў шырока разрэкламаваны ў Германіі. Так, газета „Deutsche Allgemeine Zeitung" падтрымлівае праект Гонефа таму, што яго ўстаноўка патрабуе для аднаго агрэгата не менш 6.000 т метала.

Апрача таго, скарыстанне энергіі ветру зробіць энергетыку ў Германіі незалежнай ад іншых краін, што вельмі важна для імперыялістычнай Германіі. Як бачым, капіталісты зусім не цікавяцца адшуканнем новых крыніц энергіі з пункту погляду развіцця прадукцыйных сіл. Ім важней усяго збыць метал, які заляжаўся, або скарыстаць электрыфікацыю краіны ў мэтах імперыялістычнай вайны. Толькі ў СССР усе віды энергіі выкарыстоўваюцца для ўсебаковага развіцця социялістычных прадукцыйных сіл, для пабудовы социялізма.

## Адкіды народнай гаспадаркі

Апрача асноўных энерга-рэсурсаў, у народнай гаспадарцы маецца яшчэ рад пабочных, з'яўляючыхся адыходамі пры розных прыродных і гаспадарчых працэсах. Сюды належаць такія даволі важныя крыніцы энергіі, як адкіды лясной і сельскай гаспадаркі, адкіды прамысловасці і інш.

*Адкіды лясной гаспадаркі.* Збіраючы лясныя апады ў выглядзе шышак, хвоі і лісцяў і праводзячы іх брыкетаванне, можна будзе іх скарыстаць як паліва.

Арыентыровачна патэнцыяльны запас гэтых адкідаў лясной гаспадаркі БССР пры 200-гадовым перыядзе скарыстання можна лічыць у колькасці 108,7 млн. т умоўнага паліва.

*Адкіды сельскай гаспадаркі.* Пры інтэнсіўным развіцці соцыялістычнай сельскай гаспадаркі мы будзем мець велізарную колькасць розных астач, якія часткова змогуць стаць крыніцай энергіі. Сюды часткова можна аднесці салому, пладовыя каробачкі тэхнічных культур, кастрыцу ад ільну і інш. Калі скарыстаем толькі салому, і то з 10% усей плошчы пад зерневымі культурамі, на паліва ў выглядзе брыкет, то пры 200-гадовым перыядзе выкарыстання будзем мець *38,4 млн. т* умоўнага паліва. Гэты запас энергіі ў саломе можа быць скарыстаны з выгадай для механізацыі і электрыфікацыі самой сельскай гаспадаркі.

*Адкіды прамысловасці.* У будучым неабходна будзе паставіць пытанне аб энергетычным скарыстанні такіх важных адкідаў прамысловасці як: цяпло з ахаладжваючай вады кандэнсатараў, і цяпло з адыходзячых газаў электрастанцый, адкіды фабрык і заводаў (напрыклад, адкіды дрэваапрацовачных заводаў), смецце з гарадоў і інш.

Агульны запас энерга-рэсурсаў БССР на сёнешні дзень, па тых няпоўных звестках, якія ў нас маюцца, хутчэй пераўменшаны, ровен ва ўмоўным паліве *934,15 млн. т*, што роўна прыблізна каля 0,083% энерга-рэсурсаў СССР.

Як бачым, запас вельмі значны, які можа быць рацыянальна і ўсебакова скарыстаны толькі пры дыктатуры пролетарыята, забяспечваючай іх максімальнае скарыстанне з мэтай пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

---

# ХРОНІКА і МАТЭРЫЯЛЫ

## Першая Ўсесаюзная канферэнцыя „Вялікага Дняпра"

*(да вынікаў работ)*

Першая Ўсесаюзная канферэнцыя „Вялікага Дняпра" адкрылася 4-га сакавіка г. г. у г. Кіеве ў тэатры К. Лібкнехта дакладам віцэ-прэзідэнта Усеукраінскай Акадэміі Навук акадэміка Шліхтэра. Адным з прадстаўнікоў канферэнцыі абраны першы віцэ-прэзідэнт Беларускай Акадэміі Навук акад. Домбаль.

На другім пленарным паседжанні пад старшынствам нам. старш. Дзяржплана т. Коцюбінскага заслуханы даклад акадэміка Воблага аб размяшчэнні прадукцыйных сіл у басейне „Вялікага Дняпра" і садаклады рэспубліканскіх вобласцей.

На трэцім пленарным паседжанні, пад старшынствам акадэміка Домбаля, заслухан абшырны даклад беларускай дэлегацыі нам. старш. Дзяржплана БССР акад. Петровіча аб прадукцыйных сілах БССР. Потым даклад аб гідрагеалагічных умовах Дняпроўскага басейна акад. Опокава і рад садакладаў буйных спецыялістаў. Канферэнцыя прыняла на гэтым паседжанні прывітальныя тэлеграмы ЦК ВКП(б) т. Сталіну, ЦК КП(б)У т. Косіору, ЦК КП(б)Б т. Гікало, ураду Украіны тт. Петроўскаму і Чубару і ўраду БССР тт. Чарвякову і Галадзеду і Лен. Абкому т. Кіраву.

На наступным пленарным паседжанні заслухан даклад акад. Домбаля аб паступовымператварэнні „Вялікага Дняпра" ў магутны водны шлях паміж двума морамі, у звышмагістраль паміж Балтыцкім і Чорным морамі, аб мерапрыемствах па меліярацыі Палесся, аб рэканструкцыі Бярэзінскай сістэмы, аб стварэнні пад"язнога воднага шляху да Менска па р. Свіслачы, аб шлюзаванні Сажа, стварэння гідрастанцый у Оршы, аб паглыбленні рэчышча вярхоўя Дняпра і аб выхадзе воднага шляха на Ленінград каля Віцебска. Даклад акад. Домбаля быў спатканы бурнымі апладысментамі ўсей канферэнцыі.

Садакладчык, галоўны інжэнер „Вялікага Дняпра" і будаўнік Белморбуда т. Могілко падтрымаў і тэхнічна абгрунтаваў пастаноўку акад. Домбаля аб паступовым ператварэнні ў аспекце генплана Дняпра ў магутную водную звышмагістраль Херсон-Ленінград, а таксама рад мерапрыемстваў акад. Домбаля на другую пяцігодку па БССР, у прыватнасці, рэканструкцыю Бярэзіны, паглыбленне вярхоўя Дняпра, меліярацыйныя работы на Прыпяці і іншых масівах і пад"язны шлях па р. Свіслачы да Менска, глыбінёй у 2 м на каралях шлюзаў з пабудовай прыстані-порта ў г Менску.

У сваіх выступленнях на пленуме інжэнер Дняпроўскага кіраўніцтва па рэканструкцыі Дняпра т. Грацыянскі і інж. Волгін, акад. Яснапольскі і рад буйных спецыялістаў саюза таксама падтрымалі прапанову акад. Домбаля. Асабліва горача вітаў ідэю міжморскай звышмагістралі акад. Яснапольскі.

У спрэчках па дакладам выступілі дэлегаты Беларускай Акадэміі Навук акад. Блюдухо, прамова якога аб гідрагеалагічных умовах Дняпроўскай сістэмы і рэжыме падземных вод была ўхвалена ўсімі дэлегатамі, а таксама праф. Красоўскі аб Беларускім Палессі і неабходнасці яго меліярацыі ў межах другой пяцігодкі.

Беларуская дэлегацыя прымала актыўны ўдзел у работах секцый канферэнцыі, прычым, старшынёю важнейшай секцыі канферэнцыі, секцыі транспарта, быў абраны акад. Домбаль, які апрача таго прымаў удзел у работах меліярацыйнай і сельска-гаспадарчай секцый.

Акад. Петровіч працаваў у прамысловай, сельска-гаспадарчай і энергетычнай секцыях. Акад. Бліодухо выступаў з дакладам у геалагічнай і гідрагеалагічнай секцыях. Вучоны спец. інжэнер Каўцэвіч выступаў з радам прапаноў у энергетычнай секцыі.

Усе прапановы Беларускай дэлегацыі, якія датычацца работ на другую пяцігодку, як паглыбленне рэчышча вярхоўя Дняпра (да Оршы), рэканструкцыя Бярэзінскай сістэмы, шлюзаванне р. Сажа, меліярацыя Палескіх і іншых балот (р. Прыпяць і інш.), пад'язны шлях па р. Свіслачы да Менска, стварэнне гідрастанцыі ў Оршы, адкрыццё гідратэхнічнай лабараторыі пры Беларускай Акадэміі Навук, правядзенне навукова-даследчых работ на тэрыторыі БССР,—прыняты ў секцыях і знайшлі адбітак у агульнай рэзалюцыі пленума.

Побач з работай на канферэнцыі беларускія делегаты: акад. Домбаль, акад. Петровіч, акад. Бліодухо правodзілі грамадскую работу. Акад. Домбаль і акад. Бліодухо прачыталі даклады ў артылерыйскай школе, акад. Домбаль вітаў ад імя канферэнцыі першы абласны з'езд калгаснікаў і выступіў з дакладам аб „Вялікім Дняпры" перад камандзірамі і чырвонаармейцамі Дняпроўска-Прыпяцкай флатыліі, а таксама на трамвайным заводзе яго імя. Апрача работ на пленуме, у секцыях і да т. п., наладжаны кантакт з радам буйных спецыялістаў саюза, якія заявілі гатоўнасць прыняць удзел у беларускай канферэнцыі "Вялікага Дняпра", а таксама ў Палескай канферэнцыі, скліканне якой мяркуецца ў Гомелі сумесна Беларускай Акадэміі Навук і Усеукраінскай Акадэміі Навук.

Усесаюзная канферэнцыя „Вялікага Дняпра" пастанавіла стварыць пастаянны навукова-аперацыйны камітэт, абрала акадэміка Шліхтэра, даручыўшы яму ўзгадніць з арганізацыямі выдзяленне ў яго склад прадстаўнікоў і сфармаваць яго канчаткова з тым, каб ён падрыхтаваў скліканне другой канферэнцыі. Канферэнцыя паставіла ўсе пытанні на далейшую распрацоўку.

Беларуская дэлегацыя пераканалася, ў тым, што ў самы бліжэйшы час неабходна сур'ёзна арганізаваць у межах БССР работу па навуковаму і тэхнічнаму абгрунтаванню ўсіх пытанняў, якія датычацца праблемы „Вялікага Дняпра" ў межах БССР, дзе ляжыць ключ да выхаду міжморскай магутнай Дняпроўскай магістралі на Ленінград.

**Склад Прэзідыума Усесаюзнага Камітэта „Вялікага Дняпра" пры ВУАН, зацверджаны Прэзідыумам ВУАН.**

1. **Шліхтэр А. Г.**—ВУАН, Акадэм., Член ВКП(б), Старшыня. 2. **Домбаль Т. Ф.**—Бел. АН, акадэмік, Член ВКП(б), Нам. Старш. 3. **Коцюбінскі Ю. Н.**—НКЗ, Чл. Калегіі, Член ВКП(б), Нам. Старшыні. 4. **Дуднік А. Н.**—НКА, Нам. Наркома, Член ВКП(б), Нам. Старш. 5. **Вінакураў**—Укрвадгас, Нач. Кір., Член ВКП(б), Нам. Старш. 6. **Фамін**—ВУАН, Акад., б/п., Нам. Старш. 7. **Лісаў**—Украгіправ., Чл. ВКП(б), Нам. Старш. 8. **Шахар Г. В.**—ВУАМЛІН, Вуч. Сакр., Член ВКП(б), Нам. Старш, 9. **Шведаў Б. А.**—НКА, Чл. Кал. НКА, Член ВКП(б), Нам. Старш. 10. **Наумаў Д. Б.**—Дзяржпл., Бюро 5 годкі, Член ВКП(б), Нам. Старш. 11. **Казлоў Г. Н.**—ВУАН, Нав. супр., Член КП(б), Нам. Старш.

## Рэзалюцыя транспартнай секцыі Першай Усесаюзнай канферэнцыі „Вялікага Дняпра".

1. Гіганцкія дасягненні сусветна-гістарычнага значэння, — выкананне першай пяцігодкі ў чатыры гады пад кіраўніцтвам партыі і яе Ленінскага ЦК, на чале з правадыром сусветнага пролетарыята т. Сталіным, стварылі ўсе ўмовы для шырокага комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў нашай краіны.

Завяршэннем Днепрабуда, гэтага буйнейшага ў свеце транспартна-энергетычнага і прамысловага камбіната, пакладзен пачатак і створана база для далейшага развіцця і карэннай рэканструкцыі ўсяго Дняпроўскага басейна і ўключэнне яго ў адзіную транспартную сетку Саюза.

2. Канечнай мэтай усёй сістэмы рэканструкцыйных мерапрыемстваў павінна з'явіцца поўнае і ўсебаковае выкарыстанне для соцыялістычнай гаспадаркі і ўмацавання абароназдольнасці краіны ўсіх транспартных магчымасцей Дняпроўскай воднай сістэмы,

шляхамператварэння Дняпра ў магутную водную магістраль паміж двума морамі—Балтыцкім і Чорным, звязаную пад'язнымі шляхамі з асноўнымі прамысловымі і сельска-гаспадарчымі раёнамі басейна і новымі штучнымі злучэннямі з сумежнымі рачнымі басейнамі, з выхадам яе ў Балтыцкае мора.

3.Ператварэнне Дняпра ў магутную водную магістраль паміж Балтыцкім і Чорным морамі павінна ажыццяўляцца паступова па пэўнаму плану, чарговасць выканання якога вызначаецца агульнымі тэмпамі росту і развіцця народнай гаспадаркі.

4. Выходзячы з дырэктыў студзеньскага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б), асноўнай задачай на другую пяцігодку патрэбна прызнаць:

а) максімальнае асваенне капіталаўкладанняў першай пяцігодкі, асабліва ў Днепрабуд і транспартных магчымасцей Дняпра, як транзітнага воднага шляха паміж Балтыцкім і Чорным морамі, з пабудовай сеткі пад'язных шляхоў, абсталяваннем партоў, прыстаняў і перавалачных пунктаў для максімальнага спалучэння смешаных вода-чыгуначных перавозак;

б) далейшае палепшанне воднай гаспадаркі і асваенне важнейшых пад'язных водных шляхоў, прычым павелічэнне суднаходных глыбінь павінна ісці ў асноўным за кошт землечарпальных работ з прыстасаваннем выпрамлення на асабліва трудных перакатах.

Асабліва неабходна ў самы хуткі тэрмін даследваць пытанне аб мэтазгоднасці дасягнення глыбінь шляхам рэгулявання стоку вадахавальніка ў вярхоўях Дняпра і Дзясны, а таксама аб меліярацыйных мерапрыемствах па р. Прыпяці і на іншых масівах БССР.

в) Хутчэйшае скончэнне праектна-даследчых работ па забеспячэнні выхаду Данецкага вугаля на Днепр праз Волч'ю, Самару, скончэнне пачатых работ па шлюзаванні Сажа, работы па рэканструкцыі і палепшанні Бярэзінскай сістэмы і праектыроўка пад'язнога шляха па р. Свіслачы да Менска.

5. Лічачы, што рад праектыровак, у тым ліку і разгледжаных секцыяй, упіраецца ў недахоп неабходнага фактычнага матэрыяла па тапаграфіі гідрагеалогіі і г. д., лічачы неабходным складанне ў найхутчэйшы тэрмін зводкі вывучанасці басейна, у сувязі з чым намеціць план далейшых даследчых работ.

6. Не маючы магчымасці, па становішчу праектна-даследчых работ па гіпотэзе праектавання „Вялікага Дняпра" даць канчатковае заключэнне аб транспартнай частцы яе,—секцыя адзначае побач са значным спазненнем гэтай работы, награмаджэнне расплывістых, разрозненых паасобных прапаноў і лічыць неабходным хутчэйшае скончэнне распрацоўкі гіпотэзы, разгледжанне яе Дзяржпланам СССР і ўстанаўленне плана далейшай работы, у прыватнасці па Ніжняму Дняпру.

7. Секцыя лічыць неабходным выпрацоўку плана навукова-вышукальна-даследчых работ у галіне воднага транспарта „Вялікага Дняпра" ў бок іх усямернага ўзмацнення для вырашэння асноўных задач рэканструкцыі Дняпроўскага басейна ў другой пяцігодцы.

Старшыня секцыі: Акад. **Домбаль.**

## Арганізацыя навуковага камітэта па праблеме „Вялікага Дняпра" пры Прэзідыуме БелАН.

Па праблеме „Вялікага Дняпра" адбылася ўпершыню 16-га лістапада 1932 г. пры Інстытуце экономікі БелАН нарада, у якой прымалі ўдзел навуковыя працаўнікі БелАН і прадстаўнікі навукова-даследчых і ўрадавых арганізацый БССР: т. т. Домбаль, Крукоўскі, Лойка, Парэчын, Быкаў, Кайгарадаў (БелАН), Іваноў, Савінер (Белводгас), Лейвікаў, Дановіч, Ліўшыц (Гідраметінстытут) і інш.

Пасля даклада т. Домбаля выказаліся амаль усе ўдзельнікі нарады, канстатаваўшы поўную адсутнасць сістэматычнай работы па праблеме, маючай выключнае значэнне для соцбудаўніцтва БССР. Нарада аднагалосна пастанавіла арганізаваць пры Прэзідыуме Беларускай акадэміі навук адзіны навуковы кіруючы цэнтр у асобе Навуковага камітэта па распрацоўцы праблемы „Вялікага Дняпра" пад старшынствам акад. Домбаля, з удзелам у якасці членаў камітэта прадстаўнікоў ад усіх зацікаўленых навукова-даследчых і ўрадавых арганізацый БССР.

### Абмеркаванне праблемы „Вялікага Дняпра" ў Беларускай Акадэміі Навук

Па запрашэнні дырэкцыі Інстытута экономікі БелАН прыбыў з Усеукраін-

скай акадэміі навук у Менск акад. Воблы са спецыяльным дакладам, які адбыўся 4 студзеня 1933 г. разам з садакладам акад. Домбаля.

Пасля дакладаў, якія перадаваліся па радыё, адбыліся спрэчкі, жывы ўдзел у якіх прынялі акад. Бліодухо, праф. Кайгарадаў, інж. Лейвікаў, інж. Багамолаў (Масква) і інш.

Пастаноўлена фарсіраваць навукова-іуаследчыя работы і паслаць на 1-ю Усесаюзную канферэнцыю па праблеме „Вялікага Дняпра", склікаемую Усеукраінскай акадэміяй навук у Кіеве, дэлегацыю ад БССР.

**Даклад Беларускай Акадэміі Навук аб праблеме „Вялікага Дняпра" ў Комуністычнай Акадэміі ў Маскве.**

Па даручэнні Прэзідыума БелАН, першы віцэ-прэзідэнт БелАН акад. Домбаль выступіў у часе дэкадніка БелАН, які праводзіўся ў Комакадэміі ў Маскве, з дакладам аб праблеме „Вялікага Дняпра", прычым даклад перадаваўся па ўсесаюзным радыё. Акад. Домбаль выступіў з крытыкай існуючых праектаў развязання гэтай праблемы, патрабуючы ўліку з самага пачатку паступовага ператварэння гэтай воднай магістралі ў буйную транзітную магістраль (Ленінскую звыш магістраль) паміж Балтыцкім і Чорным морамі, са злучэннем яе з Азоўскім, Каспійскім і Белым морамі, з басейнамі іншых рэк, з буйнымі прамысловымі цэнтрамі, у прыватнасці з сталіцай БССР—Менскам, які па існуючым праектам не ўключаўся ў сістэму „Вялікага Дняпра". Разам з тым акад. Домбаль, ад імя Прэзідыума БелАН, высунуў рад прапаноў і метадалагічна абаснаваў рашэнне праблемы „Вялікага Дняпра", як чарговай буйнай задачы соцыялістычнага будаўніцтва СССР, пад вуглом яе пастаноўкі, як тэхнічнай рэканструкцыі буйнага народна-гаспадарчага комплекса.

Даклад выклікаў вельмі ажыўленыя спрэчкі спецыялістаў. Прадстаўнікі Комакадэміі, аспрэчваючы некаторыя дэтальныя канкрэтныя прапановы (аб глыбінях трасы і г. д.) цалкам ухвалілі марксісцка-ленінскую метадалагічную ўстаноўку акад. Домбаля, канстатаваўшы, што яна дана ўпершыню і рашуча выступае супроць розных буржуазных і механістычных пастановак гэтай праблемы. У тым-жа духу аб дакладзе выказаўся дырэктар Эканамічнага інстытута Чырвонай прафесуры тав. Квірынг.

**Удзел дэлегацыі Беларускай Акадэміі Навук у работах Першай Усесаюзнай Канферэнцыі па праблеме „Вялікага Дняпра" ў Кіеве.**

Ад імя Беларускай Акадэміі Навук у канферэнцыі і яе работах прымала актыўны ўдзел дэлегацыя ў наступным складзе: акад. Домбаль (старшыня), акад. Бліодухо, праф. Красоўскі і інж. Каўцэвіч (сакратар).

Акад. Домбаль быў абраны адным са старшынь канферэнцыі, а затым старшынёй адной з важнейшых яе секцый—транспартнай.

На пленуме канферэнцыі акад. Домбаль выступіў з дакладам аб праблеме „Вялікага Дняпра". Даклад быў ухвалены радам буйных спецыялістаў, як акадэмікам Опокавым, акад. Яснапольскім, галоўным інжэнерам па распрацоўцы рабочай гіпотэзы „Вялікага Дняпра" тав. Могілко і інш. На паседжанні секцыі, а затым на пленуме канферэнцыі была прынята рэзалюцыя, унесеная акад. Домбалем, па праблеме „Вялікага Дняпра", якую публікуем.

На пленуме канферэнцыі выступалі таксама ад імя дэлегацыі Бел.АН акад Бліодухо і праф. Красоўскі. Актыўны ўдзел прымаў у работах энергетычнай секцыі інж. Каўцэвіч. У агульную зводную рэзалюцыю былі прыняты цэлы рад прапаноў дэлегацыі БелАН, у асаблівасці тых, якія датычацца вырашэння праблемы „Вялікага Дняпра" на тэрыторыі БССР, у прыватнасці з мэтаю навуковага абаснавання пабудовы галоўнай трасы і яе адгалінаванняў. Таксама прынята прапанова аб стварэнні гідратэхнічнай лабараторыі ў Менску пры Інстытуце геалогіі і гідрагеалогіі Бел.АН.

Канферэнцыя паслала першаму сакратару ЦК КП(б)Б тав. Гікало і старшыням ЦВК і СНК БССР т. т. Чарвякову і Галадзеду спецыяльныя прывітальныя тэлеграмы, якія публікуем у гэтай хроніцы.

**Распрацоўка праграмы навукова-даследчых работ на другую пяцігодку па праблеме „Вялікага Дняпра" на тэрыторыі БССР.**

На паседжанні навуковага камітэта па праблеме „Вялікага Дняпра" пры Прэзідыуме Бел.АН ад 5 красавіка 1933 г. было абмеркавана пытанне аб выпрацоўцы плана навукова-даследчых работ на другую пяцігодку.

Пастаноўлена ўсім арганізацыям прапанаваць свае падрабязна абгрунтаваныя праекты з дадаткам каштарысаў.

# Сесія Беларускай Акадэміі Навук па праблеме „Вялікага Дняпра“.

Наколькі вялікае значэнне праблеме „Вялікага Дняпра“ надае Прэзідыум БелАН, асабліва прэзідэнт БелАН акад. П. О. Горын, сведчыць тое, што гэтай праблеме спецыяльна была прысвечана майская Сесія Бел.АН 1933 г. з удзелам прадстаўнікоў Усеукраінскай і Усесаюзнай акадэмій навук. З дакладамі выступалі акад. Домбаль і акад. Петровіч. У спрэчках выказаліся 17 спецыялістаў і выдатных навуковых работнікаў, у тым ліку віцэпрэзідэнт Усеукраінскай акадэміі навук акад. Паладзін.

Па сумеснай прапанове прэзідэнта Усеукраінскай акадэміі навук акад. Багамольца і прэзідэнта Беларускай акадэміі навук акад. Горына, пастаноўлена шчыльнейшым чынам каардынаваць работу абодвух Акадэмій па праблеме „Вялікага Дняпра“ і па вывучэнні Палесся, склікаць у 1934 г. сумесную сесію абодвух акадэмій на Днепрабудзе і Палескую канферэнцыю ў гг. Гомелі і Чарнігаве для падагульнення экспедыцыйна-вышукальных работ ВУАН і Бел.АН.

## Абмеркаванне рабочай гіпотэзы „Вялікага Дняпра“ Укргіправода ў Харкаве.

3-га ліпеня 1933 г. у Харкаве адбылося папярэдняе абмеркаванне рабочай гіпотэзы па праблеме „Вялікага Дняпра“, складзенай Укргіправодам. У нарадзе прымалі ўдзел прадстаўнікі Бел.АН акад. Бліодухо і інж. Каўцэвіч, якія дабіліся ўключэння ў першую чаргу работы ў межах другой пяцігодкі, раду важных аб'ектаў не тэрыторыі БССР (пракладка пад'язнога шляха па рацэ Свіслачы да г. Менска, аднаўленне Бярэзінскай сістэмы, пабудова порта ў Гомелі, верфей у Рэчыцы і г. д.).

Адначасова з гэтым пастаноўлена:

„У мэтах больш цеснай увязкі далейшага вывучэння пытачняў, звязаных з праблемай „Вялікага Дняпра“ на тэрыторыі БССР, прапрацоўваемых Укргіправодам, пры складанні плана работ на 1933 г. і наметак на 2-ю пяцігодку, лічым неабходным:

1. Правесці геалагічную і гідрагеалагічную здымку ўцяжэленага тыпу ў маштабе 1:100.000, са складаннем геалагічнай карты машт. 1:200.000 і ўдакладненых геалагічных профіляў, праходзячых праз асобныя пункты трасы.

2. Плошчы геалагічных здымак і чарговасць работ намечаны Укргіправодам.

3. Акрамя агульных здымкаў плошчаў вадападзельных прастораў і напрамкаў трасы, наладзіць магчыма больш падрабязнае геалагічнае і гідрагеалагічнае вывучэнне некаторых паасобных пунктаў, да якіх адносяцца:

1. Участак Дняпра ад г. Оршы да г. Смаленска.

2. Участак Дняпра ад Магілева да Оршы.

3. Участак Бярэзіны вышэй г. Барысава.

4. Участак Бярэзіны ў раёне Бабруйска.

5. Перавальны ўчастак паміж Бярэзінай і Зах. Дзвіной па р. Уле.

6. Перавальны ўчастак паміж р. Дняпром і р. Зах. Дзвіной па лініі Орша-Віцебск.

7. З прычыны таго, што Укргіправод у сучасны момант праектуе праблему „Вялікага Дняпра“ толькі да Зах. Дзвіны, а паўночней у межах БССР маецца яшчэ пераход ад Зах. Дзвіны на Ловаць, лічым неабходным увязаць работу Укргіправода з работай Ленінградскага Бюро па праблеме Валдайскага ўзвышша ў вобласці навуковых даследванняў у паўночнай частцы БССР.

8. Лічым неабходным тэрміновую арганізацыю і правядзенне ў разрэзе генплана ў праблеме „В. Дняпра“ стацыянарных гідрагеалагічных назіранняў па падземных водах на тэрыторыі БССР.

9. У адпаведанасці з намечаным планам і чарговасцю работ Геолага-гідрагеалагічнаму інстытуту Бел.АН неабходна распрацаваць план фінансавання.

10. Наладзіць абмен геалагічных і гідрагеалагічных матэрыялаў, звязаных з праблемай Вялікага Дняпра, у далейшым падтрымліваючы пастаянны кантакт, паведамляючы аб усіх зменах асноўных установак праектавання.

11. Геалагічныя і гідрагеалагічныя даследванні ў раёнах, дзе праводзяцца меліярацыйныя работы, увязаць з адпаведнымі арганізацыямі Белвадгаса.

**Экспедыцыйныя навукова-вышукальныя работы Беларускай Акадэміі Навук па праблеме „Вялікага Дняпра“ ў 1933 г.**

Па плану, распрацаванаму Навуковым камітэтам „Вялікага Дняпра“ пры Прэзідыуме БелАН, Інстытут эканомікі пад кіраўніцтвам акад. Домбаля праводзіць экспедыцыйныя доследы, акія датычацца эканомікі раёнаў БССР.

Закончаны ўжо геалагічныя работы па вывучэнні карысных выкапняў у паўночнай частцы БССР і дэталёвае вывучэнне участка Зах. Дзвіны каля Віцебска, прычым дзве навуковыя работы будуць у бліжэйшы час зданы ў друк. Закончылі работу археалагічная, на чале з вуч. спец. Ляўданскім, і геабатанічная, на чале з нав. прац. Міхайлоўскай, экспедыцыі на ўчастку выхада трасы „Вялікага Дняпра“ Орша-Віцебск-р. Ловаць на Ленінград. Заканчваецца кліматычны нарыс праф. Кайгарадавым па тым-жа ўчастку, акад. Афанас'евым па тым-жа ўчастку будзе складзен аграглебавы нарыс. Да самай зімы прадаўжаюць працаваць 5 геалагічных партый пад кіраўніцтвам акад. Блюдухо, праводзячы па лініі Орша-Віцебск-Ловаць даследванне мяркуемага выхаду галоўнай магістралі на Ленінград.

## Агляд навуковай прадукцыі Інстытута эканомікі Беларускай Акадэміі Навук за 1932 г.

1. *Усяго* ў Інстытуце эканомікі за 1932 г. маецца наступная прадукцыя: 9 артыкулаў у часопісах і 1 кніжка. З гэтых работ 4 з'яўляюцца аспіранцкімі і 6—навуковых працаўнікоў. Па тэматыцы: 1 артыкул па рэпрадукцыі ў БССР (Равун і Сыцько); 1 кніжка па размеркаванні дробна-рамесніцкай вытворчасці (Рак); 1 артыкул і адна масавая брашура па рэканструкцыі гарадоў (Парэчын); 1 артыкул па пытанні аб развіцці сельскай гаспадаркі ў БССР і 1 артыкул па крытыцы буржуазнай тэорыі ў эканомгеаграфіі (Маргелаў); 1 артыкул па пытанні савецкай цаны (Мядзведскі); 1 артыкул па пытанні размяшчэння (Ноткін); 2 артыкулы па імперыялізму (Равун і Сыцько).

2. Разбор прадукцыі Інстытута эканомікі паказвае на бяспланавасць работы інстытута за ўказаны час, калі рад тэм былі пастаўлены не з пункту погляду важнасці задач соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, калі рад буйнейшых праблем соцыялістычнага будаўніцтва зусім не закранаецца інстытутам, калі большасць прадукцыі не асвятляе канкрэтныя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, а некаторыя з'яўляюцца фіксацыяй таго, што ў нас маецца ў краіне, але яны не даюць неабходнай тэарэтычнай дапамогі нашым савецкім планавым органам у іх практычнай рабоце.

3. Тэарэтычная праца маладой групы навуковых работнікў (был. аспірантаў), не гледзячы на некаторыя няясныя і няправільныя фармуліроўкі ў некаторых работах (работа тав. Мядзведскага), паказваюць, што пры дастатковым партыйным кіраўніцтве і ўвагі да іх, мы зможам вырасціць сапраўдны марксісцка-ленінскіх працаўнікоў на тэарэтыка-эканамічным фронце.

4. Характарыстыка паасобных прац:

а) Кніжка тав. Рака „Да пытання геаграфічнага размяшчэння дробнарамесніцкай прамысловасці“, з'яўляецца неабходным зборнікам лічбовых матэрыялаў, але асноўныя пытанні аб далейшым напрамку развіцця саматужнай прамысловасці, выходзячы з генеральнай лініі партыі, не закранаюцца. У рабоце не даецца крытыка скажэння лініі партыі ў галіне будаўніцтва саматужна-прамысловай кааперацыі.

б) Артыкул тав. Парэчына ў журнале „Соцбудаўніцтва“ аб „Рэканструкцыі гарадоў БССР“, з'яўляецца агульным і недастаткова распрацоўвае пытанне адносна рэканструкцыі гарадоў БССР.

в) У працы тав. Мядзведскага маецца цэлы рад блытаных фармуліровак. Так, тав. Мядзведскі лічыць, што „ў цане заключаецца надзвычайна вялікія магчымасці для пралетарыята і яго партыі вызначыць як тэмпы, так і характар развіцця нашай соцыялістычнай гаспадаркі“ (стар. 97). І далей ён даказвае: што „Нават пры магчымасцях манапалістычнай арганізацыі капіталістаў дыктаваць выгадныя змена-прыбытковыя цэны, усё-ж гэтыя магчымасці, пры тым, што манаполія існуе побач з канкурэнцыяй абмежаванай, абумоўлены апошняй“ (стар. 97).

У другім месцы ён піша: „што манеўраванне цэн забяспечыць таварную недэфіцытнасць у сістэме, забеспячэнне вёскі, пакідаючы пытанне аб колькасці тавараў у баку“ (стар. 123). Тут мы маем блытаную думку, якая выстаўляе, як прымету не соцыялістычнай вытворчасці, а цану. Хоць у другіх месцах сам тав. Мядзведскі крытыкуе трацкісцкую пастаноўку гэтага пытання.

г) У артыкуле тав. Маргелава „Супроць буржуазных скажэнняў у эканамічнай геаграфіі“ ў журнале „Совецкая краіна“—дана правільная крытыка буржуазнай метадалогіі ў пытаннях эканамічнай геаграфіі.

д) У артыкуле тт. Маргелава і Бондара па пытанні: „Сельская гаспадарка БССР на парозе другой пяцігодкі“ ў журнале „Соцбудаўніцтва“, не гледзячы на агульную правільную крытыку шкодніцкіх і антыленінскіх тэорый, яны, падводзячы вынік становішча сельскай гаспадаркі БССР на парозе другой пяцігодкі, не даюць канкрэтнага і дастатковага сактарыяльнага аналізу зрухаў у сельскай гаспадарцы.

е) Артыкул тав. Ноткіна „Да пытання аб прынцыпах прасторавага размяшчэння соцыялістычнай прамысловасці ў другім пяцігоддзі“ ў „Соцбудаўніцтве“ з'яўляецца правільным, але ён агульны—не закранае пытання размяшчэння ў канкрэтных умовах БССР.

ж) Артыкул тав. Равуна „Аб цыкле ва ўсеагульным крызісе капіталізма“, з'яўляецца партыйна-вытрыманым.

з) Артыкул тав. Сыцько „Імперыялізм і тэорыя аўтаматычнага краха капіталізма—Р. Люксембург“ у „Соцбудаўніцтве“ з'яўляецца партыйна-вытрыманым.

і) Артыкул тав. Равуна і Сыцько па пытанні аб тэмпах народнай гаспадаркі БССР, дае правільную крытыку антыленінскай тэорыі і ставіць правільна пытанне аб тэпмах у БССР.

## Да ўвагі падпісчыкаў і чытачоў эканамічнай бібліятэкі

У падручніку для сярэдняга лесатэхнічнага персанала „Догляд лесу“, аўтарам А. Ф. Купрэйчыкам дапушчаны буйныя памылкі. Яны ім не развіты, але аўтар бескрытычна ўжывае тэрміналогію „фіта-соцыялогія“, „фітасоцыяльнае“, біё-соцыяльнае“ у адносінах да раслінных згуртаванняў у галіне батанікі і лесаводства, хоць і папутна, не абгрунтоўваючы яе, усё-ж ухваляе нікудышную „тэорыю“ буйных буржуазных нямецкіх вучоных лесазаводаў, пераносячы механістычна катэгорыі грамадскага жыцця на прыроду.

Лічу сваім абавязкам зрабіць гэтае папярэджанне, тым больш, што я, як рэдактар, нясу перш за усё адказнасць за дапушчаныя аўтарам памылкі, не аказаўшы яму своечасова належнай дапамогі.

Акад. Домбаль.

---

**Заўвага рэдакцыі.** На 29 ст. у 7 радку знізу ўкралася памылка. Патрэбна чытаць: „само па сабе фабрычнае вучнёўства, падрыхтоўка кадраў праз ФЗВ, якія існавалі на базе 5-гадовай школы, фактычна было з'явай неабходнага часовага характару... Увядзенне ўсеагульнай палітэхнічнай адукацыі стварае зусім іншую базу, на падставе якой будуць рыхтавацца новыя спецыялісты праз ФЗВ і г. д.“




Рэдкалегія: ДОМБАЛЬ, СЫЦЬКО, БЕНЦМАН, МАРГЕЛАЎ

Адк. рэдактар акад. ДОМБАЛЬ

# CONTENT



# ЗМЕСТ

